# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА
ПРЫ ІНСТЫТУЦЕ
БЕЛАРУСКАЙ
КУЛЬТУРЫ



№ 1 1925 г. КАСТРЫЧНІК



МЕНСК.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ



№ 1 Кастрычнік 1925

ВЫДАНЬНЕ
Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры.
МЕНСК — 1925



# АД РЭДАКЦЫІ

У сваім прывітальным слове на ўсесаюзным настаўніцкім зьезьдзе акадэмік Ольдэнбург, старшыня Расійскага Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, адзначыў, што краязнаўства — дзіця рэволюцыі. Толькі рэволюцыя, якая абудзіла шырокія працоўныя масы, якая дала ім магчымасьць кіраваць сабой адпаведна сваім экономічным і культурным запатрабаваньням,—выклікала агульную зразумелую зацікаўленасьць да жыцьця гэтых мас, выклікала імкненьне вывучаць умовы гэтага жыцьця, каб з кожным днём паляпшаць яго.

Адгэтуль вынікае тая розьніца, якую мы бачым паміж сучасным і дарэволюцыйным краязнаўствам. Сучаснае краязнаўства цікавіцца ня чыста гістарычнымі, этнографічнымі або прыродазнаўчымі пытаньнямі; яно орыентуецца на будаўніцтва ўва ўсіх яго праявах, грунтуецца на сучаснасьці і выкарыстоўвае мінулае, як матар'ял для будучыны.

На Беларусі дарэволюцыйнае краязнаўства мела выключна акадэмічны характар і не орыентавалася на шырокія масы культурных працаўнікоў.

У першыя гады пасьля рэволюцыі Беларусь апынулася пад нямецкай і польскай окупацыяй і, зразумела, павінна была накіраваць усю сваю энэргію ў бок палітычнага і нацыянальнага вызваленьня.

Толькі цяпер, разьвіваючыся экономічна і палітычна на грунце нацыянальнага самавызначэньня, вольная Беларусь, пашыраная ў сваіх межах, мае магчымасьць *пазнаць сама сябе*.

Праца савецкіх і партыйных органаў у розных галінах жыцьця працоўных мас нашай рэспублікі, абсьледаваньне прыродных багацьцяў Беларусі, мэліорацыя і іншыя мерапрыемствы ў справе паляпшэньня і ўзмацненьня сельскай гаспадаркі і прамысловасьці,—усё гэта вымагае папярэдняга вывучэньня і распрацоўкі; у гэтым кірунку павінны працаваць сучасныя краязнаўчыя організацыі Беларусі.

Дзякуючы цэламу шэрагу прычын, Беларусь вельмі слаба абсьледавана і вывучана. Прыродныя вытворчыя сілы нашага краю дагэтуль яшчэ мала вядомы навуцы. Не ў патрэбнай меры выведана і нашая мінуўшчына, а калі і выведана, дык у тых кірунках, якія былі карысны даўнейшай уладзе ў нашым

краі. Дзякуючы гэтаму, у навуцы пасьпелі скласьціся погляды, якія зрабіліся ўжо навуковай традыцыяй, хаця зусім не адпавядаюць запраўднасьці. Высьвятленьне па новаму старых куткоў нашае мінуўшчыны і вышукваньне новых куткоў—адна з важных задач сучаснага краязнаўства на Беларусі.

Трэба мець на ўвазе, што Беларусь у працягу вякоў зьяўлялася і дагэтуль зьяўляецца рознапляменным краем, і ўзаемныя ўплывы народаў, якія ў ім жывуць, адбіваліся ўва ўсіх галінах жыцьця краю, як у экономічным будаўніцтве, так і ў быце, мове, фольклёры і г. д. Вывучэньне гэтых узаемных ўплываў таксама зьяўляецца важным заданьнем краязнаўства.

Рэволюцыя ўнесла асабліва многа новага ў быт і гаспадарку нашага народу. Сучаснае краязнаўства павінна выявіць гэта новае ў старым, павінна разабрацца ў гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі і ў гісторыі новых форм быту.

За апошнія гады БССР абагацілася цэлым шэрагам навуковых і вучэбных устаноў, якія ўзяліся за краязнаўчую працу. Сюды належаць: Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Сельска-Гаспадарчая Акадэмія, дзяржаўныя музэі, цэлая сетка дасьледчых станцый і г. д.

Паказаныя задачы і мэты сучаснага краязнаўства стаяць побач з задачамі і мэтамі, якія ставіць сучасная працоўная школа ў справе выхаваньня савецкага грамадзяніна. Краязнаўства—грунт сучаснай школы, і мясцовы матар'ял кладзецца ў аснову ўсяго школьнага выкладаньня. Зразумела, што вясковы і гарадзкі настаўнік выказвае ў сучасны момант вялікую зацікаўленасьць да краязнаўства.

У працягу апошніх гадоў у розных кутках Беларусі стварылася многа таварыстваў і гурткоў краязнаўства, якія месцам стварыліся стыхійна, без кіраўніцтва і дапамогі з цэнтру, апіраючыся выключна на мясцовыя сілы і на агульную зацікаўленасьць краязнаўствам.

Аднак на зьмесьце і тэмпе працы гэтых організацый адбіваецца недахват сувязі, кіраўніцтва і патрэбнай літаратуры.

Праўда, некаторыя цяперашнія выданьні часткова могуць служыць краязнаўчым матар'ялам, але яны ў большасьці выпадкаў орыентуюцца на савецкага працаўніка-адміністратара і гаспадарніка, мала даступны і часта невядомы шырокім колам грамадзянства.

Дзякуючы ўсяму гэтаму, выявілася патрэба ў спэцыяльным краязнаўчым журнале, за дапамогаю якога краязнаўчыя організацыі і асобы, зацікаўленыя краязнаўствам, маглі-б абмяняцца сваімі ведамі, пазнаёміцца з новымі краязнаўчымі працамі і знайсьці інструкцыі для сваёй дзейнасьці,

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры, лічачы за свой абавязак выданьне такога журналу, выпускае ў сьвет першы нумар часопісу «Наш Край» і спадзяецца, што пры дапамозе акруговых таварыстваў краязнаўства і падтрыманьні з боку вучоных беларускіх краяведаў гэты часопіс дапаможа популярызацыі краязнаўчых ідэй у шырокіх колах працоўных мас.

ЦБК спадзяецца, што на старонках нашага часопісу знойдзе свой адбітак праца ўсіх беларускіх краязнаўчых організацый, і заклікае ўсіх культурных працаўнікоў Беларусі—вучоных, настаўнікаў, аграномаў, дактароў, савецкіх працаўнікоў на адміністрацыйнай і гаспадарчай глебе—стаць у шэрагі супрацоўнікаў нашага выданьня і ўнесьці сваю частку ў справу выведваньня нашага краю.




# Краязнаўчыя організацыі БССР

Імкненьне шырокіх беларускіх мае да вывучэньня роднага краю разьвівалася роўналежна з разьвіцьцём беларускай нацыянальнай сьвядомасьці, роўналежна з адраджэньнем беларускай культуры і беларускай літаратурнай мовы. Гэтае імкненьне выяўлялася ў організацыі розных аматарскіх таварыстваў, гурткоў, хатак, як на тэрыторыі Беларусі, гэтак і за межамі яе, сярод студэнтаў-беларусаў Ленінграду, Масквы і іншых унівэрсытэцкіх гарадоў Расіі. Звычайна ў гэтых таварыствах разглядаўся і прымаўся статут, у лепшым выпадку зачытваліся два-тры даклады і затым таварыства распадалася. Да рэволюцыі многія з гэтых таварыстваў не маглі легалізавацца, а калі нават дабіваліся легалізацыі, дык не маглі працаваць, бо галоўны. найболей працаздольны і жывы элемэнт іх—моладзь—была пазбаўлена права прымаць удзел у працы таварыстваў.

Пасьля рэволюцыі закон, які забараняў моладзі ўваходзіць у прыватныя таварыствы, быў скасованы, і для легалізацыі таварыстваў і гурткоў ужо ня трэба было праходзіць праз тысячы інстанцый. Аднак нямецкая, а потым польская окупацыі перашкаджалі ўтварэньню сталых краязнаўчых організацый, і толькі з 1921 году па ўсіх гарадох і па многіх мястэчках Беларусі зноў пачалі зьяўляцца рознастайныя таварыствы, гурткі і хаткі, якія паставілі сабе, як мэту, вывучэньне роднага краю.

Імкненьне да вывучэньня роднага краю ахапіла амаль-што ўсіх настаўнікаў, краязнаўства заваявала школу і зрабілася амаль-што не галоўным прадметам школьнай праграмы. Краязнаўствам зацікавіліся ня толькі настаўнікі, але таксама аграномы, дактары і палітычныя працаўнікі. Краязнаўчай працай заняліся многія дзяржаўныя ўстановы.

Цяпер, можна казаць, няма такога кутка на Беларусі, дзе-б не вялася такая ці іншая краязнаўчая праца.

Сярод устаноў, якія вялі за апошнія часы грунтоўную краязнаўчую працу, трэба адзначыць апроч Інстытуту Беларускае Культуры, Беларускі Дзяржаўны Унірэрсытэт, Сельска-Гаспадарчыя Інстытуты, Дзяржаўную Бібліотэку, Цэнтральную Статыстычную Управу, Музэі, Дзяржаўны Архіў, Менскія Балотную і Агрономічную Станцыі.

Інстытут Беларускай Культуры паставіў сваім галоўным заданьнем аб'яднаньне і коордынацыю справы вывучэньня Беларусі і беларускай культуры. Аднак сьпешныя грамадзкія заданьні прымусілі Інбелкульт спачатку зьвярнуць сваю ўвагу на апрацоўку беларускай навуковай тэрмінолёгіі і на выданьне падручнікаў для маладой беларускай школы.

Толькі ў канцы 1923 г., калі справа выданьня беларускіх падручнікаў ужо была пастаўлена на пэўныя рэйкі, а тэрмінолёгія была ўжо апрацована па большай частцы тых галін веды, якія выкладаюцца ў сярэдняй школе, Інбелкульт вырашыў выдзяліць з сябе спэцыяльную установу, якая-б занялася рэгістрацыяй краязнаўчых організацый і координавала-б іх працу.

Так утварылася *Цэнтральнае Бюро Краязнаўства* пры Інбелкульце, у склад якога ўвайшлі т. т. Смоліч, Пічэта, Скандракоў, Друшчыц, Азбукін і прадстаўнікі ад АПА, КСМ, Галоўполітасьветы, Галоўсоцвыху, Дзяржаўнай Пляновай Камісіі і Саюзу Працаўнікоў Асьветы.

З гэтага часу краязнаўчы рух на Беларусі пачынае прымаць болей організаваны характар. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства зарэгістравала ўсе краязнаўчыя організацыі БССР, зьвязалася з галоўнымі краязнаўчымі ўстановамі Саюзных Рэспублік, а ў сакавіку 1924 году наладзіла спачатку Менскую, а потым Усебеларускую Краязнаўчыя Конфэрэнцыі, на якіх справа координацыі краязнаўчай працы была пастаўлена на цьвёрды грунт.

Рэорганізацыя Інбелкульту ў концы 1924 году выклікала рэорганізацыю і Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

21 лютага 1925 году на агульным сходзе рэорганізаванага Інбелкульту было абрана новае Цэнтральнае Бюро Краязнаўства ў складзе т. т.: Вілянстовіча (старшыня), Шукевіча-Трацякова (нам. старшыні) і Скандракова (сэкрэтар).

Рэорганізаванае ЦБК кооптавала ў склад свайго пленуму т. т. Друшчыца, Атраховіча, Азбукіна, Сербава і прадстаўнікоў ад сельскагаспадарчай, гісторыка-археолёгічнай, прыродазнаўчай і пэдагогічнай сэкцый Інбелкульту, ад ЛКСМБ, ад Саюзу Прац. Асьветы, ад Белар. Дзярж. Унівэрсытэту, ад Сельска-Гаспадарчых Інстытутаў, ад Наркамзему, Цэнтр. Статыстычнай Управы, Галоўсоцвыху, Галоўполітасьветы, Галоўпрофасьветы, Музэю і Архіву.

Праца ЦБК у першую чаргу была накірована на наладжаньне краязнаўчай працы ўва ўсіх кутках БССР. У зьвязку з новым адміністрацыйным падзелам рэспублікі ЦБК старалася перабудаваць краязнаўчыя організацыі так, каб яны ахапілі ў сваёй працы па магчымасьці ўсю тэрыторыю БССР. Паступова выявіліся тры тыпы краязнаўчых організацый: акруговыя таварыствы, раённыя таварыствы і гурткі.

ЦБК зьвязалася з раённымі таварыствамі і школьнымі гурткамі за дапамогай акруговых таварыстваў, якім перасылала для пашырэньня інструкцыі, праграмы і анкеты, апрацаваныя ў розных сэкцыях Інбелкульту. Па магчымасьці ЦБК старалася і беспасрэдна зьвязацца з раённымі таварыствамі і школьнымі гурткамі, а ў тых выпадках, калі ў раёнах ня было краязнаўчых організацый, зносілася з раённымі аддзеламі народнай асьветы. Апрача таго ЦБК наладжвае сетку корэспондэнтаў з асоб, якія цікавяцца краязнаўчымі пытаньнямі, але не ўвайшлі ў склад членаў тых ці іншых краязнаўчых організацый.

Сярод краязнаучых організацый БССР, зьвязаных з ЦБК, найболей выявіла сябе *Віцебскае Акруговае Таварыства*, якое сьвяткавала гадавіну свайго існаваньня 3 верасьня гэтага году. У склад праўленьня т-ва ўваходзяць: М. Касьпяровіч (старшыня), І. Багдановіч (намесьнік старшыні), Я. Варпаховіч (сэкрэтар). Лік членаў т-ва дасягае да 500.

Т-ва падзяляецца на 5 сэкцый: культурна-гістарычную, прыродазнаўчую, мастацкую, сьветазнаўчую і беларусазнаўчую. Пры сэкцыях працуюць, як дапаможныя ўстановы: астрономічны пункт, фэнолёгічнае бюро, энтомолёгічнае бюро і камісіі: 1) па ўкладаньню справачніка „Навука і навуковыя працаўнікі Віцебшчыны“, 2) па організацыі краязнаўчых і радзімазнаўчых музэяў, 3) па вывучэньню жыдоўскай культуры, быту і гісторыі, 4) па ўкладаньню слоўніка жывой мовы Віцебшчыны, 5) бібліографічная і 6) па складаньню географічнага слоўніка.

На агульных сходах Віцебскага Т-ва былі прачытаны даклады на наступныя тэмы:

1) Жыцьцё і дзейнасьць Сапунова, 2) Гісторыя Віцебска, 3) Асноўныя моманты беларускага руху, 4) Помнікі Віцебскіх старасьвецкіх рамесьніцкіх організацый, 5) Архівы і архіўная праца на Віцебшчыне, 6) Віцебская архітэктура ў гістарычнай пэрспэктыве, 7) Усесаюзная і ўсебеларуская краязнаўчыя конфэрэнцыі, 8) Віцебская архітэктура 17 і 18 сталецьцяў, 9) Геолёгічныя выведы ў Віцебшчыне, 10) Беларускае малярства, 11) Суфіксы беларускіх прозьвішчаў па матар'ялах Віцебшчыны і шэраг іншых.

Апрача таго членамі Віцебскага Акруговага Т-ва было прачытана 20 агульна-даступных лекцый на краязнаўчыя тэмы. Увясну гэтага году т-вам былі праведзены дзьве акруговыя конфэрэнцыі: краязнаўчая і сьветазнаўчая.

Улетку былі наладжаны экспэдыцыі па вывучэньню птушак-пявуноў Віцебшчыны, па зьбіраньню народнае творчасьці і па дасьледваньню знойдзеных рэштак маманта.

Праца Віцебскага Т-ва адбілася ў яго друкаваных выданьнях. За першы год сваёй працы т-ва надрукавала кніжкі: „Беларуская архітэктура“ М. Касьпяровіча, „Беларускае мастацтва“ А. Іпэля, „Новая беларуская літаратура“ А. Багдановіча, „Экономічны нарыс Беларусі“ Л. Аўхіменя, „Беларуска-расійскі слоўнік“ М. Касьпяровіча. Нарэшце вышлі ў сьвет грунтоўныя выданьні таварыства: „Віцебшчына“, непэрыодычны орган т-ва, і мастацкае выданьне „Крашаніна“ І. П. Фурмана.

Пад кіраўніцтвам Віцебскага Акруговага Т-ва працуюць раённыя краязнаўчыя т-вы: Лёзьненскае, Сеньненскае, Чашніцкае, Сіроцінскае, Высачанскае і Бешанковіцкае, а таксама краязнаўчыя гурткі пры Вэтэрынарном Інстытуте, пры Мастацкім Тэхнікуме, Белпэдтэхнікуме, Электро-мэханічным і Коопэрацыйным тэхнікумах.

*Магілеўскае Акруговае Таварыства Краязнаўства* ўтварылася 12 лістапада 1924 году па ініцыятыве Акруговага Аддзелу Народнай Асьветы і групы культурных працаўнікоў Магілева. Праўленьне таварыства складаецца з т. т. Баранава (старшыня), Троські (нам. старшыні), Гурло (сэкрэтар), Даўгялы і Венікава. Усіх членаў т-ва налічваецца 45.

Т-ва зьбірае матар'ялы для слоўніка жывой беларускай мовы ў Магілеўшчыне, наладзіла некалькі экскурсій па Магілеве для вывучэньня помнікаў гарадзкой старасьветчыны, а ў бліжэйшы час мае на мэце накіраваць у раёны Магілеўшчыны экспэдыцыі для вывучэньня народных песень, фотографаваньня тыповых вёсак, пэйзажаў, будынкаў, тыпаў і г. д. На агульных сходах таварыства былі зачытаны даклады аб дагістарычным мінулым Магілева, аб забабонах, зьвязаных с выпечкай хлеба на Беларусі, аб паганстве на Беларусі, аб беларускіх лясох і лясной гаспадарцы з 1903 па 1924 г., аб гісторыі разьвіцьця беларускае мовы і аб коордынацыі фенолёгічных назіраньняў у Магілеўшчыне.

На сходах этнографічнай сэкцыі разглядаліся пытаньні аб вясельлі на Магілеўшчыне, аб складаньні слоўніка жывой мовы і аб крыніцах вывучэньня Магілеўшчыны з этнографічнага боку.

Амаль-што ўва ўсіх раёнах заканчваецца організацыйная праца па ўтварэньню раённых краязнаўчых таварыстваў.

*Аршанскае Акруговае Таварыства Краязнаўства* ўтварылася 23 ліпеня 1924 г. па ініцыятыве настаўнікаў і студэнтаў Аршанскага Рабфаку. У склад праўленьня ўвайшлі: старшынёю т. Саўліч, яго намесьнікамі пр. Грыгор'еў і т. Ганчарык, сэкрэтаром т. Васілеўскі і скарбнікам т. Шумейка.

Аршанскае Т-ва налічвае 48 членаў і падзяляецца на сэкцыі і камісіі. Т-ва організавала сельска-гаспадарчы музэй і пачало працу па аб'яднаньню яго з гістарычным музеем, які існаваў у Воршы раней. За дапомагай Аршанскага Т-ва выдадзена кніжка краязнаўчага зьместу: „Матар'ялы 1-ай Аршанскай Партконфэрэнцыі". Члены таварыства праводзяць сыстэматычную працу на рабфаку, у Піонэрскім Клюбе і ў профсаюзах. Для друку т-ва рыхтуе зборнік: „Аршанская акруга".

Т-ва зьвярнула асаблівую ўвагу на організацыю краязнаўчых таварыстваў у раёнах Аршанскай акругі. Раённыя таварыствы ўжо організаваны ў Талачыне, Коханаве, Круглым, Копысі, Дрыбіне, Горках, Лядах, Дуброўне, Багушоўскім і пры фабрыцы „Чырвоны-Кастрычнік".

Найболей інтэнсыўную працу вядуць Горацкае і Дрыбінскае раённыя т-вы. *Горацкае раённае т-ва* організавалася 7 сьнежня 1924 г. і да 1 чэрвеня 1925 г. налічвала 363 члены. Дзякуючы Горацкому Сельска-Гаспадарчаму Інстытуту, праца т-ва мае агульна-рэспубліканскае значэньне.

Праз адпаведныя катэдры С-Г. Інстытуту т-ва дае заданьні студэнтам у парадку выпаўненьня вучэбнай праграмы. Члены т-ва на штомесячных настаўніцкіх конфэрэнцыях чытаюць навукова-популярныя даклады і даюць мэтодычныя дарады для працы ў розных галінах краязнаўства. На агульных сходах т-ва былі заслуханы даклады аб досьледах над піцьцёваю вадою, аб гідролёгічных досьледах, аб зьбіраньні народнай творчасьці, аб мэтэоролёгічных і фэнолёгічных назіраньнях, аб вывучэньні жывёльнасьці і расьліннасьці Горацкага раёну.

*Калінінскае Акруговае Таварыства* ў горадзе Клімавічах ўтварылася толькі 10 лютага г. г. У склад праўленьня ўвайшлі т. т. Аніхоўскі (старшыня), Калодкін (сэкрэтар), Садоўскі, Бакшылаў, Кузьма, Хоцкі і Ільлін. Таварыства організавала Музэй у г. Клімавічах і прыняла ўдзел у організацыі архіву. Дзякуючы дапамозе партыі і Акруговага Выканаўчага Комітэту, т-ва шырока разгарнула працу ў раёнах Калінінскае Акругі. Ува ўсіх раёнах пачалося зьбіраньне этнографічных матар'ялаў, асабліва народных песень і узораў тканіны. Раней за ўсё прыступіла да сталай пляновай працы Расьнянскае раённае таварыства, затым пачалася праца ў Касьцюковічах, Хоцімску, Чэрыкаве і ў Амсьціслаўлі.

*Барысаўскае Акруговае Т-ва Краязнаўства* організавалася 23 лютага 1924 г. У склад праўленьня ўвайшлі т. т. Самцэвіч, Мазінг, Сальмановіч, Лабач і Нікіфаровіч. Усіх членаў т-ва лічыцца 45. Паводле матар'ялаў, прысланых у ЦБК, адбылося 7 агульных сходаў т-ва, на якіх вырашаліся пытаньні чыста організацыйныя. За апошнія часы ЦБК ня гледзячы на ўсе свае стараньні, не атрымала ад Барысаўскага Т-ва ніякіх вестак аб яго працы.



*Мазырскае Акруговае Т-ва Краязнаўства* яшчэ толькі організуецца. 23 сакавіка г. г. па ініцыятыве АкрАНА утворана Організацыйная Камісія, у склад якой увайшлі прадстаўнікі ад АкрАНА, Саюзу Прац. Асьветы, Акругкому КПБ і Комсамолу. У некалькіх пунктах Мазырскае акругі вядуцца правільныя назіраньні над ападкамі і над пэрыодычнымі зьявамі ў прыродзе.

Першы організацыйны сход *Бабруйскага Акруговага Краязнаўчага Т-ва* адбыўся толькі 6 траўня г. г. На гэтым сходзе было абрана часовае бюро ў складзе пяцёх асоб. Апрача таго на Бабруйшчыне працуюць гурткі пры Краснабярэскім С-Г. Тэхнікуме і Рагачэўскім Белпэдтэхнікуме. Утвараюцца раённыя краязнаўчыя т-вы ўва многіх раённых цэнтрах. ЦБК мае некаторыя матар'ялы аб працы Сьвіслацкага і Асіпавіцкага т-ваў.

*Полацкае Акруговае Т-ва Краязнаўства* ўтварылася ў канцы сакавіка г. г. налічвае 60 членаў і падзяляецца на гісторыка-археолёгічную, экономічную і этнографічную сэкцыі.

*Менскае Акруговае Т-ва Краязнаўства* ўтварылася ўлётку г. г. і прыступіла да зьбіраньня матар'ялаў для зборніка: „Меншчына“. Апрача таго ў Менску працуюць краязнаўчыя гурткі пры Белпэдтэхнікуме, пры Пэдфаку БДУ, пры Рабфаку і пры некаторых сямігодках.

На Случчыне краязнаўчыя організацыі блізка-што зусім нічым сябе ня выявілі. *Слуцкае Акруговае Т-ва Краязнаўства* знаходзіцца ў пэрыодзе організацыі.

**Сэкрэтарыят ЦБК.**





Проф. З. Жарынаў

# Краязнаўства і працоўная школа

Думка аб тым, што краязнаўства павінна быць аднэй з найважнейшых асноў школьнага выхаваньня і навучаньня, была высунута ў Нямеччыне яшчэ ў сярэдзіне мінулага веку. Цяпер гэтая думка зрабілася грунтам усёй нашай савецкай і асабліва беларускай школы.

Пры гэтым савецкае рэволюцыйнае будаўніцтва сьмела паглыбляе на карысьць краязнаўства тыя довады, якія высунуты ў Заходняй Эўропе. З другога боку краязнаўчы падыход у нас зьяўляецца вынікам наагул усёй новай орыентацыі нашай працоўнай школы на стварэньне сьвядомага грамадзяніна савецкай працоўнай рэспублікі.

Адным з рашучых довадаў на карысьць прыняцьця краязнаўства за аснову школьнай працы зьяўляецца яго вучэбна-мэтодычны бок. У чым жа сутнасьць гэтага боку краязнаўства?

У выхаваньні і навучаньні заўсёды трэба пачынаць з простага і конкрэтнага матар'ялу, з чаго-сь такога, што лёгка можа зрабіцца першым азначальным зьвяном у ланцугу асоцыяцый, на якія будзе затым абапірацца дзіцё ў сваім далейшым інтэлектуальным разьвіцьці. Краязнаўства і дае акурат гэткага роду матар'ял.

Затым вельмі важна, каб дзіця мела магчымаць самастойна праводзіць дзіцячыя досьледы і выведы, важна даць месца ўсебаковаму індывідуальнаму падыходу дзіцяці да таго, чым яно цікавіцца, што з тыповай для дзяцей актыўнасьцю яно аглядае, мацае, вывучае. Краязнаўства як бы пертварае ўсё нашае атачэньне, усе жыцьцё ў адзін вялікі музэй, які адразьняецца ад звычайнага музэю тым, што тут кожнаму аглядальніку даецца самая шырокая магчымасьць самастойнага індывідуальнага падыходу.

Нарэшце важная мэтодычная асаблівасьць краязнаўства гэта сынтэз ведаў з розных галін навукі, з якім зьвязана вывучэньне таго ці іншага мясцовага кутка. Гэта вельмі дапамагае ўтварэньню суцэльнага жыцьцёвага сьветапагляду, і савецкая школа кіравалася гэтым, прымаючы комплексную сыстэму.

Далей—у сувязі з мэтодычным бокам краязнаўства стаяць навуковыя заданьні краязнаўства. Вывучаючы ваколічнае жыцьцё, працуючы над матар'ялам, у большасьці выпадкаў даступным і лёгкім, дзеці няпрыметна ўваходзяць у круг навуковай, грамадзка-карыснай працы. Гэта з аднаго боку павялічвае цікавасьць дзяцей да працы, а з другога боку ўносіць у вучэбную справу школы сур'ёзную навуковую

ўгрунтаванасьць. Надзвычайна шпаркі ход сучаснага жыцьця дае шырокую прастору для навуковых досьледаў і выведаў, і часам—пры нашай беднасьці ў навуковых установах—просты аматар, настаўнік або нават вучань, могуць вельмі сур'ёзна дапамагчы навуцы.

Што трэба вывучаць у першую чаргу?

Адказ на гэтае пытаньне нам дае комплексная схэма выкладаньня, якая прынята на Беларусі толькі для першага концэнтру школы, але бязумоўна накладае свой адбітак і на другі концэнтр. Об'ектам вывучэньня ў нашым жыцьці зьяўляецца матар'ял трох так званых колюмнак—прыроды, працы і грамады.

Матар'ял прыроды не выклікае асаблівых спрэчак. Трэба сказаць, што ня толькі савецкая, але нават і старая дарэволюцыйная школа выявіла ў гэтым кірунку досыць вялікую дзейнасьць і ініцыятыву. Экскурсіі ў прыроду адбываліся яшчэ тады, калі аб экскурсіях па экономічных і гуманітарных галінах ня было й гутаркі. Савецкая школа тут разьвівае і паглыбляе дасягненьні старой школы, але разам з тым уводзіць у працу дадатковы момант вывучэньня ролі прыродных зьяў у гаспадарнай дзейнасьці чалавека. Зразумела, што ў умовах нашага сучаснага савецкага будаўніцтва гэты момант выступае на першы плян. Вельмі важна ў парадку краязнаўчага абсьледваньня пазнаёміцца з рознымі прыроднымі багацьцямі нашага краю, з крыніцамі сырцу, з пачаткамі і з цячэньнем нашых рэк і г. д.; з агрономічнага пункту погляду набываюць асаблівае значэньне школьныя мэтэоролёгічныя назіраньні, зьбіраньне батанічных і энтомолёгічных колекцый і інш. На краязнаўчым зьезьдзе ў Маскве ў 1924 г. між іншым адзначалася, што вынікі аднэй вучнёўскай экскурсіі па геолёгіі дапамаглі выправіць мясцовую геолёгічную карту.

Ня так проста стаіць справа з працай над матар'ялам дзьвёх іншых колюмнак—працы і грамады. Тут сучасная школа разглядае краязнаўства па новаму, і з гэтым новым поглядам на краязнаўства павінен лічыцца кожны настаўнік.

Наглядаючы грамадзкае жыцьцё, мы звычайна бачым перад сабой два шэрагі зьяў. Адны зьявы відавочна маюць мясцовае пахаджэньне, абапіраюцца на гістарычную мінуўшчыну, моцна паўрасталі ў народнае быцьцё; другія зьявы, як бы нанесеныя, на першы погляд, здаюцца выпадковымі, штучна прышчэпленымі; яны або не ўвайшлі ў народнае быцьцё, стаяць да пэўнай меры ў баку ад яго, або маюць шансы пранікнуць у быт толькі з цягам часу ў будучыне. Такі характар мае, напрыклад, для нашай вёскі шэраг новых рэволюцыйна-культурных дасягненьняў. Як разумець тэрміны: „свой“, „мясцовы“, „тутэйшы“? Ці разумець пад імі толькі тое, што ўжо ўсталілася, ці таксама і тое, што для мясцовага краю зьяўляецца яшчэ новым, што часткаю зарадзілася ад мясцовай глебы, часткаю прынесена ў край з боку?

Яшчэ ня так даўно блізка-што ўся краязнаўчая праца па грамадазнаўстве мела выразны гісторыка-археолёгічны або этнографічны ўхіл. Пры гэтым вывучаўся быт у яго гістарычных асновах. Усё новае ў быце, што ўтваралася пад уплывам новых экономічных умоў, разглядалася, як нешта такое, што стаіць па-за межамі краязнаўчай працы: краязнаўцы глядзелі ў мінуўшчыну і нават у сучаснасьці стараліся бачыць толькі рэшткі старасьветчыны, як асабліва каштоўнае і важнае выяўленьне векавых асноў народнага быту.

Нельга сказаць, што гэты кірунак ня даў ніякіх вынікаў нават з пагляду інтарэсаў нашай сучаснай школы: рэшткі старасьветчыны зьнікаюць, а нам усё-ж-ткі трэба ведаць і старасьветчыну, паколькі яна зьяўляецца матар'ялам і грунтам для сучаснасьці. На пляцформе такога гісторыка-этнографічнага краязнаўства працавалі шмат якія краязнаўчыя гурткі Беларусі і суседніх краёў. Было праведзена досыць многа надзвычайна цікаўных раскопак, здабыта багата матар'ялаў па фольклёры, мове, асаблівасьцях матар'яльнага быту. Ува ўсім гэтым прымала некаторы ўдзел і беларуская школа. Але ці можа сучаснае школьнае грамадазнаўства пакласьці ў аснову сваёй працы такі гісторыка-этнографічны падыход?

Археолёгія, этнографія і гісторыя, паколькі яны павернуты тварам да мінуўшчыны, шукаюць рэшткі старасьветчыны, спыняюцца на сталасьці, жывучасьці старасьветчыны, цікавяцца галоўным чынам статыкай, а ня дынамікай. Наадварот, нас, сучасьнікаў рэволюцыі, цікавіць не рэакцыйная нярухомасьць старых асноў, а тыя зьмены, якія адбываюцца навокала нас, здольнасьць мясцовай грамады перайсьці ў процэсе свайго экономічнага разьвіцьця ад старога быту да новага. Калі мы ўглядаемся ў мінўшчыну, дык шукаем там довадаў таго, што няма нічога нязьменнага, што з цягам часу, па меры разьвіцьця вытворчых сіл зусім зьмяняюцца ўсе асаблівасьці грамадзкага жыцьця. Краязнаўцы новай рэволюцыйнай эпохі асабліва цікавяцца ўсялякімі новымі зьявамі ў грамадзе. І трэба сказаць, што гэты новы падыход да вывучэньня мясцовага краю зьяўляецца шырэйшым і да пэўнай меры больш навуковым, чымся стары гісторыка-этнографічны падыход. Для апошняга новыя зьявы ў грамадзе зьяўляюцца чымсьці выпадковым, што ўтварылася на грунце асабістай ініцыятывы або пад уплывам умелай агітацыі. Сялянская моладзь пачынае, напрыклад, цягнуцца да КСМ; —павінен краязнаўца зьвярнуць на гэта сваю ўвагу ці не? Старая навука абмінула бы гэтую зьяву, палічыла бы яе за штучную, часовую і выпадковую. Наадварот, новая навука, сучасная гісторыя культуры не дае веры ў выпадковасьці. Асабістая ініцыятыва, агітацыя, пропаганда—усё гэта такія зьявы, сіла якіх хаваецца ў дасьпяваньні патрэб пэўнай грамады. Адсюль ясна, што для вывучэньня гэтай грамады трэба ахапіць усё, што яна перажывае і ў чым яна цягнецца да новага. Толькі такім спосабам мы, пэдагогі, і самі, як сучасьнікі і супрацоўнікі будаваньня новага жыцьця, знойдзем сабе ў ёй адпаведнае месца і здолеем знайсьці такое месца для даручанай нашай школе моладзі.

Нарэшце ёсьць яшчэ адзін довад за орыентацыю школьнага краязнаўства на сучаснасьць. Раней або пазьней праца гісторыка-этнографічнага краязнаўства дасягне ў абсьледваньні народнага быту такога рубяжа, далей і глыбей якога ў маштабе школьнага краязнаўства яна пайсьці і ня здолее, бо школа ў сваёй працы павінна абмежвацца маленькім раёнам. Усе курганы апісаны, усе волакі абсьледваны, матар'ял па фольклёру сабраны,—застаецца толькі перапрацоўваць сабранае. Для дасьледчых краязнаўчых экскурсій не застаецца месца, або, у кожным выпадку, яны ў значнай меры трацяць сваё навуковае значэньне. Зусім іншая справа з сучасным дынаміка-грамадзкім падыходам. Тут кожны год, часам нават кожны месяц нясе з сабой новыя краязнаўчыя тэмы. І паколькі нам асабліва цікава прасачыць тэмп грамадзкай эволюцыі, пастолькі надзвычайна цікаўнымі зьяўляюцца пэрыодычныя,

паўторныя абсьледваньні нават аднаго й таго самага матар'ялу. Як разьвіваецца савецкая гаспадарка, як расьце коопэрацыя, як зьмяняюцца яе абароты, як паляпшаецца мясцовая сялянская гаспадарка? Групу за групай можна вывучыць адзін і той самы об'ект, але ён разьвіваецца, і кожны новы момант абсьледваньня дае новыя, вельмі цікаўныя вынікі.

З паказанай намі орыентацыі школьнай краязнаўчай працы на сучаснасьць выцякае яшчэ адно заданьне, з якім мусіць лічыцца краязнаўства ў школе. Краязнаўца—настаўнік працоўнай школы, як і ўвесь даручаны яго апецы школьны колектыў, ня могуць быць толькі пасыўнымі дасьледчыкамі і наглядальнікамі мясцовага жыцьця; яны павінны працаваць над паляпшэньнэм гэтага жыцьця, павінны нясьці ў яго новыя погляды, новыя звычаі і новыя веды. У гэтым найважнейшае выхаваўчае заданьне сучаснай школы.

Лепшыя элемэнты сучаснага настаўніцтва ўжо сталі на гэты шлях з належнай цьвёрдасьцю, і, мабыць, ня толькі свой асабісты погляд выказаў адзін настаўнік Мазырскае акругі, калі ў сваёй справаздачы заявіў, што жадае быць „ня шкрабам, а народным настаўнікам з грамадзкай дзейнасьцю“.

Кожная краязнаўчая экскурсія зьяўляецца сродкам ня толькі даведацца аб тым, што ёсьць, але таксама сабраць матар'ял для крытыкі таго, што існуе, для магчымага палепшэньня і перабудоўкі, для навуковага разьвязаньня мясцовых гаспадарчых і грамадзкіх заданьняў.

У гэтым кірунку могуць быць карыснымі розныя грамадзкія выступленьні школы ў рэволюцыйныя сьвяты і іншыя памятныя дні.

Цяпер зьвернем увагу на мэтоды школьнай краязнаўчай працы.

Наагул галоўнымі з даступных для школы мэтодаў трэба лічыць нагляданьне, колекцыянаваньне і апытаньне за дапамогай анкет. Усё гэта зьдзяйсьняецца або ў час экскурсій*) або за дапамогай доўгай індывідуальнай працы настаўніка і вучняў.

Як рабіць нагляданьні?

З аднаго боку гэта найбольш даступны і як-бы лёгкі мэтод краязнаўчай працы. Аднак і тут трэба трымацца ад самага пачатку пэўнай сыстэмы, каб не заблудзіць у драбязе і каб вынікі нагляданьняў маглі мець навуковае значэньне.

Дагэтуль найлепш распрацована мэтодыка прыродазнаўчых нагляданьняў. Па ўсіх галінах прыродазнаўства ёсьць ужо багатая літаратура. Зразумела, што нагляданьні прыродазнаўчага характару найлепей пастаўлены ў нашай школе. Аднак патрэбны больш грунтоўная фіксацыя і сумаваньне гэтых нагляданьняў. Мэтэоролёгічныя нагляданьні, напрыклад, можна замацаваць і сумаваць у агульнай дыяграме, якая-б занатавала працу некалькіх школ; здабытыя даныя важна было-б параўнаць з тымі сярэднімі данымі, якія ўжо ёсьць для гэтага раёну ў навуцы. Пры школе наагул трэба весьці дзеньнік усялякіх мэтэоролёгічных, фэнолёгічных і іншых назіраньняў. Паўсюды, дзе толькі можна, трэба выражаць вынікі нагляданьняў у ліках; побач з гэтым трэба даваць апісаньні кожнай зьявы і, пры магчымасьці, яго малюнак.

У важнай працы па сумаваньню ўсяго гэтага матар'ялу (а ён ужо ёсьць ува многіх беларускіх школах) могуць вельмі каштоўную дапамогу даць мясцовыя краязнаўчыя таварыствы.

*) Аб экскурсійна-краязнаўчай працы глядзі «Асьвета» 1923, 2 «Да мэтодыкі краязнаўчых экскурсій», проф. Жарынава.

Прыродазнаўчыя назіраньні прывучаюць да пляновасьці і дакладнасьці і зьяўляюцца добрым уступам да нагляданьняў над грамадой. Пры вывучэньні прыроды па комплекснай сыстэме выкладаньня кожны раз няўхільна паўстае пытаньне аб яе значэньні і ролі ў чалавечай працы і ў грамадзе. Першыя грамадзнаўчыя нагляданьні і трэба весьці па лініі чалавечай працы. Ад працы лёгка перайсьці і да тых зьяў грамадзкага жыцьця, якія з гэтай працы выцякаюць. Пры гэтым трэба пачынаць ад зьяў сучаснага жыцьця; аднак можна дапусьціць адначаснае, роўналежнае нагляданьне над рэшткамі мінуўшчыны, калі яны выяўлены асабліва выразна і дапамагаюць зразумець сучаснасьць. (Такі характар маюць, напрыклад, зруйнованыя кварталы Менска—помнікі польскай окупацыі).

Усё, што гаварылася аб фіксацыі прыродазнаўчых назіраньняў, трэба, разумеецца, паўтарыць і пра нагляданьні над працай і грамадой. Але, вядома, тут прыдзецца даць многа болей месца апісаньням.

Гэта, між іншым, яшчэ раз падкрэсьлівае, што, не адмаўляючыся ад асобных грамадазнаўчых нагляданьняў і ў першым концэнтры (паколькі гэтага вымагае комплексная сыстэма), трэба аднак перанесьці большасьць з іх у вышэйшы концэнтр, дзе вучні ўжо могуць ня толькі пералічыць тое, што бачылі, але могуць крытычна разабрацца ў гэтым і апісаць яго больш—менш сыстэматычна.

Гаворачы аб колекцыянаваньні, таксама ў адносінах да прыродазнаўства можна толькі зьвярнуць увагу на багатую адпаведную літаратуру. Але што зьбіраць па лініі працы і грамады?

Некаторыя школы ўжо пасьпелі ўзбагаціць свае школьныя музэі рознымі экспонатамі, якія адбіваюць мясцовую прамысловасьць. Трэба толькі ўпарадкаваць гэты матар'ял, уважна і прыгожа разьмясьціць яго, бо толькі ўважныя і сур'ёзныя адносіны да сабранага матар'ялу могуць падтрымаць у вучнях імкненьне да далейшага яго зьбіраньня.

Хутка назьбіраць матар'ял нельга, і няма ніякай патрэбы сьпяшацца з гэтым. У большасьці выпадкаў ад кожнай экскурсіі застаецца той ці іншы матар'ял, але, зразумела, ён падлягае перагляду, і ў музэй трэба адбіраць толькі найлепшае, найболей важнае і каштоўнае. Калі трапяцца дублікаты, дык іх трэба захаваць асобна, бо потым іх можна скарыстаць, як навочныя дапаможныя прылады, і нарэшце, калі яны зусім не патрэбны, іх можна і трэба перадаваць іншым школам, якія іх ня маюць. Наагул пры колекцыянаваньні школы павінны мяняцца матар'ялам.

Апрача зьбіраньня ўзораў, характарных для мясцовай прамысловасьці, школа можа зьбіраць тыповыя для данай мясцовасьці прыкрасы, адзеньне, пасуду і г. д. Пры гэтым, калі стары быт стыкаецца з новым, важна ў школьным музэі зьмясьціць разам для параўнаньня прадметы старога быту з продуктамі новых уплываў.

Усяк матар'ял, як па старому, гэтак і па новаму быту натуральна прыводзіць нас да зьбіраньня з аднаго боку матар'ялаў па гісторыі працы, з другога боку—па гісторыі імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, мясцовага работніцкага і сялянскага руху і рэволюцыі. Матар'яламі па гісторыі працы могуць быць розныя старасьвецкія прылады, якімі народ ужо не карыстаецца, і інш.; сюды ж можна далучыць архэолёгічны матар'ял, сабраны на месцы даўных волакаў, выараны сялянамі на полі, знойдзены ў гарадзішчах, на месцы старадаўных становішчаў і г. д. Матар'ял ваенны можна знайсьці на месцах

бітв, у закінутых акопах і ўмацаваньнях. З другога боку як ваенным матар‘ялам, гэтак і матар‘ялам па гісторыі рэволюцыйнага руху могуць быць выразкі з старых ілюстраваных часопісаў, старыя плякаты, проклямацыі, грошы. На жаль гэты матар‘ял таксама хутка зьнікае, але дзе-ня-дзе яго яшчэ можна адшукаць.

Зразумела, што вельмі цяжка пералічыць тут увесь той матар‘ял, які можа сабраць, а часткай ўжо і зьбірае беларуская школа ў парадку краязнаўчай працы. Тут перад школай шырокае поле для выбару і ініцыятывы.

Побач з матар‘ялам рэчавым можна паставіць матар‘ял археографічны рукапісны—школа павінна ратаваць ад зьнішчэньня старыя рукапісныя акты, запіскі, мэмуары, лісты і інш. Гэты матар‘ял можа часам вельмі выразна адбіваць і старое і новае жыцьцё краю. Але, бязумоўна, аб зьбіраньні яго можна напісаць цэлы асаблівы артыкул.

Трэці мэтод краязнаўчай працы ў школе—мэтод апытаньняў—абапіраецца пераважна на гатовыя, загадзя апрацаваныя анкеты. Тут на першым пляне стаяць ня прыродазнаўчыя, а грамадазнаўчыя заданьні. Апытаньні могуць датыкацца і да сучаснасьці, і да мінуўшчыны, і самі па сабе маюць для школы вялікае грамадзка-пэдагогічнае значэньне, бо беспасрэдна вядуць школу ў круг мясцовых інтарэсаў, прымушаюць яе бліжэй падысьці да мясцовай люднасьці. Анкета па зьбіраньню пэўных ведамасьцяй за дапамогай апытаньня мясцовых насельнікаў зьяўляецца адным з важнейшых элемэнтаў сучаснай грамадазнаўчай працы. Анкету складае настаўнік разам з школьным або пазашкольным гуртком краязнаўства. Па магчымасьці анкету трэба разьбіць на концэнтрычныя групы пытаньняў: болей простую, трохі болей складаную і яшчэ болей складаную. Карыстаючыся мэтодам анкеты, трэба, аднак, мець на ўвазе дзьве ўмовы: 1) анкету ня трэба даваць той ці іншай групе асоб для самастойнага запаўненьня, бо гэта рэдка калі дасягае мэты і адрывае працаўнікоў-краязнаўцаў ад жывой сувязі з тымі, каго пытаюць; 2) даваць адказы на анкетныя запытаньні трэба ня адразу, а паступова, у сувязі з экскурсіямі і беспасрэдным практычным падыходам да кожнага запытаньня.

Здабытыя анкетным шляхам матар‘ялы, як і матар‘ялы, здабытыя нагляданьнем, трэба сумаваць у агульных справаздачах, дыяграмах, плянах. Сабраным матар‘ялам школы мяняюцца паміж сабой, абгавараюць яго ў краязнаўчых гуртках і на конфэрэнцыях.

Беларуская школа гатова адгукнуцца на ўвесь той цыкль працы па краязнаўству, які мы стараліся адзначыць вышэй. Аднак галоўныя дасягненьні яшчэ застаюцца наперадзі. Масавы настаўнік дае ўсё, што можа, але яму патрэбна падтрыманьне.

На Маскоўскім Усесаюзным Краязнаўчым Зьезьдзе гэтае падтрыманьне было намечана ў двох кірунках:

1. Настаўніку патрэбна цесная сувязь з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі, якія павінны дапамагчы плянаваньню краязнаўчай працы, дапасаваўшы яе да найважнейшых сучасных пытаньняў мясцовай гаспадаркі і грамадзкасьці. Настаўнік мусіць падтрымліваць сувязь з усімі організаціямі, якія так або йначай зацікаўлены ў краязначым падыходзе. Гэта асабліва важна пры правядзеньні грамадзка-асьветнай краязнаўчай працы.

2. Каб краязнаўчая праца школы мела навуковы характар, трэба таксама наладзіць сувязь настаўнікаў з навукова-краязнаўчымі арганізацыямі, ня толькі мясцовымі, але й цэнтральнымі. Пажадана наладзіць сувязь з Інбелкультам, Дзяржплянам, Цэнтральнай Статыстычнай Управай, Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам, Сельска-Гаспадарчай Акадэміяй. Настаўнікі мусяць быць корэспондэнтамі навукова-краязнаўчых арганізацый. З другога боку гэтыя арганізацыі павінны дапамагчы настаўніку сваім аўторытэтным словам, даць яму анкеты, падручнікі і дарады па зьбіраньню колекцый і найважнейшую краязнаўчую літаратуру.

У зьвязку з гэтым для беларускага настаўніка мае асаблівае значэньне часопіс „Наш Край“, за выданьне якога бярэцца цяпер Інстытут Беларускай Культуры. За дапамогай гэтага часопісу настаўнік можа азнаёміцца з тымі пытаньнямі, якія ставіць у першую чаргу школьная краязнаўчая праца, і разам з тым даведаецца аб найважнейшых дасягненьнях, якія затым можа ўзяць за аснову сваёй школьнай працы.

Беларуская школа, беларуская навука і маладая беларуская грамадзкасьць—цесны саюз гэтых трох сіл, якія з кожным днём растуць і ўзмацняюцца, дае надзею на самыя шырокія і радасныя пэрспэктывы ў справе беларускага краязнаўства.





**М. Шчакаціхін**

# Фрэскі Полацкага Барысаглебскага манастыра

Руіны Барысаглебскага манастыра на Бельчыцы ў Полацку зьяўляюцца рэшткамі аднаго з найбольш старадаўных архітэктурных помнікаў Беларусі. Разам з Сьмядынскімі руінамі ў Смаленску, царквой Благавешчаньня ў Віцебску, Калоскай царквой у Горадн', полацкай Спаса-Еўфрасіньеўскай царквой і Сафійскім саборам у тым-жа Полацку—у сучасны момант напалову зруйнаваныя будынкі Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра ўваходзяць у групу беларуска-бізантыцкіх помнікаў каменнага будаўніцтва XII сталецьця. З дакладнасьцю, праўда, час пабудаваньня Барысаглебскага манастыра вызначыць немагчыма. Адзінай крыніцай тутака зьяўляюцца весткі стара-беларускіх (г. зв. „літоўскіх") летапісаў, розныя сьпісы якіх у розных больш-менш блізкіх паміж сабою варыянтах паведамляюць, што ў канцы XII сталецьця (каля 1190 г.) Полацкам апанаваў літоўскі князь Мінгайла, які княжыў у ім на працягу нейкага кароткага часу, потым-жа *„оставил по собѣ двух сынов своихъ одного Скирмонта, а другого Кгинвила и Скирмонтъ почнеть княжыти на Новегородъцы, а Кгинвил на Полоцку, и поиметь Кгинвилъ дочку у великого князя Тверского у Борыса именем Марю для которое ся окрестилъ у Рускую вѣру и дали ему имя Борысъ и мѣл с нею сына именем Рогволода которого назвал Руским именем Василеи, и тот Кгинъвил реченыи Борыс вчынилъ город на имя свое на рецэ Березыни и назвал его Борысов, и будучы ему Русином был велми набожон и вчынилъ цэрковъ каменную в Полоцку святое Софѣі, а другую святого Спаса девичыи манастыр у верхъ реки Полоты от города у полумилю, а третюю цэрковъ манастыр на Бельчыцы святого Борыса и Глѣба"* [1]). Гэтае паведамленьне, працытаванае намі па сьпісу *Рачынскага,* у амаль-што аднальковых словах паўтараецца ў іншых сьпісах стара-беларускіх летапісаў, а ўласна, у сьпісах *Красінскага* [2]), *Архэолёгічнага т-ва* [3],) *Альшэўскім* [4]) і *Яўрэінаўскім* [5]), за выключэньнем толькі таго, што ў чатырох апошніх сьпісах зусім няма слоў: *„и мѣлъ с нею сына Рогволода. . ."* і г. д., але пасьля слоў *„и дали ему*

---

[1]) Па сьпісу *Рачынскага,* арк. 230. „Полное собрание русских летописей" выд. Архэографічн. Камісіі, Т. XVII, стар. 300-301. [2]) Ibid. 232. [3]) Ibid. 245. [4]) Ibid. 426-427. [5]) Ibid. 362.

*имя Борысъ*“ ідзе беспасрэдна працяг: *„и тот Кгинвил реченыи Борыс вчынил город...*“ і г. д., як у сьпісе Рачынскага. Такім парадкам, большая частка стара-беларускіх летапісаў адносіць заснаваньне Бельчыцкага манастыра да часоў князя *Барыса-Гінвіла*, сына Мінгайлы, г. зн. да канца XII, або самага пачатку XIII сталецьця.

Некалькі іншы варыянт дае толькі сьпіс *Быхаўца*, дзе замест *„и дали ему имя Борысъ*“, мы знаходзім: „y dali imia jemu Jurij, y tot Jurij panował nemnoho let y umre. A po sobi zostawił syna swojeho Borysa na Połocku, y tot kniaź Borys wczynił horod . . . і г. д., як раней,. . . tretiuiu cerkow monastyr na Bełczycy swiatoho Borysa y Hleba“ [1]). Варыянт гэты значна менш верагодны, як і наагул сьпіс Быхаўца, які, як вядома, у рукапісе да нашага часу не захаваўся, і з якім мы знаёмы выключна па выданьню *Нарбута* ў кнізе *„Pomniki do dziejów Litwy*“ (*Wilno 1846*); але падобным сьпісам карыстаўся ў свой час, як відаць, вядомы *Стрыйкоўскі* пры ўкладаньні сваёй *„Хронікі*“, дзе мы знаходзім тую-ж самую вэрсію, згодна якой заснаваньне Барысаглебскага манастыра прыпісваецца ня Барысу-Гінвілу, *сыну* Мінгайлы, але *ўнуку* Мінгайлы, мітычнаму *Барысу Гінвілавічу*, і тым самым пераносіцца на некалькі дзесяцілецьцяў пазьней, ужо ў XIII век; гэты факт зьявіўся прычынай, што гэта-ж вэрсія ўмацавалася ў спэцыяльнай літаратуры, напрыклад у *Гаворскага* [2]) і *Сапунова* [3]), якія грунтуючыся на аўторытэце Стрыйкоўскага, пакінулі бяз увагі ўсе іншыя варыянты, не скарыстаўшы беспасрэдна стара-беларускія летапісы.

Аднак, аднесьці Бельчыцкія будынкі да эпохі ўнука Мінгайлы г. зн. да XIII сталецьця, фактычна няма ніякіх падстаў. Магчыма, адчуваючы гэта, Сапуноў разам з вэрсіяй аб „Барысе Гінвілавічы“ ў той-жа час робіць увагу, што існаваньне яго наагул павінна лічыцца спрэчным, пабудаваньне-ж Барысаглебскага манастыра аднесена да часоў іншага Барыса—*Усяславіча*, якога „літоўскія“ летапісы, быццам, і называюць Барысам Гінвілавічам і які памёр у 1128 годзе [4]),—г. зн. пераносіць заснаваньне манастыра да першае чвэрці XII сталецьця.

На наш погляд, абедзьве апошнія вэрсіі—і „Барыс Гінвілавіч“ і „Барыс Усяславіч“—аднолькова няправільны. Самы характар цаглянае кладкі Барысаглебскіх будынкаў, зусім аднальковы з кладкай полацкіх Спаса і Софіі, а таксама іншых помнікаў XII веку, выразна сьведчыць аб прыналежнасьці іх уласна да XII сталецьця, і выключае магчымасьць адносіць іх да XIII сталецьця,—хіба толькі да самага яго пачатку. З другога боку, дапушчэньне Сапунова ўстанаўляе занадта раньні тэрмін, бо ў першай чвэрці XII сталецьця мала магчымы характэрныя для Полацка-Віцебскай зямлі аднаабсідныя конструкцыі Барысаглебскіх цэркваў, якія цесна набліжаюцца да конструкцый віцебскай Благавешчанскай і полацкай Спаскай цэркваў, пабудаваных, ува ўсякім выпадку, не раней трэцяй чвэрці XII веку, як вынік некаторае відазьмены традыцыйных бізантыцкіх форм, у той час, як раней,—што паказвае, напр., Софія—і тут яшчэ панавала звычайная трохабсіднасьць.

Такім парадкам, найбольш верагоднай, на наш погляд, зьяўляецца усё-ж першая вэрсія, найбольш пашыраная пры гэтым у летапісных крыніцах,—г. зн. заснаваньне Бельчыцкага манастыра ў часы *Барыса-Гінвіла Мінгайлавіча*, у канцы XII сталецьця, пры чым застаецца спрэч-

[1]) Jbidem стар. 479. [2]) *К. Говорский*. Историческое описание Полоцкого Борисоглебского монастыря „Вестник Западной России“ 1865. Лістапад. [3]) „Витебская Старина“ Т. V, стар 10 (увага). [4]) Jbidem. Таксама: „Река Западная Двина“. Віцебск 1893. Стар. 421.



най толькі адзначаная ў гэтых крыніцах аднодачаснасьць пабудаваньня Софіі, Спаскай царквы і Барысаглебскага манастыра, і на падставе стылістычных даных больш імавернай здаецца вядомая пасьлядоўнасьць, дзе Сафійскі сабор са сваёй трохабсіднай конструкцыяй зьяўляўся першым, а Бельчыцкія цэркві—апошнімі помнікамі, але ў межах таго-ж XII сталецьця.

З розных прычын, як мы ўжо зазначалі, у сучасны момант Бельчыцкі манастыр выяўляе сабой адны толькі руіны. З трох цэркваў, якія першапачаткова ўваходзілі ў яго склад, адна, найбольш старажытная, ужо канчаткова зьнішчана, і ад яе засталіся адно ледзь прыметныя сьляды падмуроўкі ўва ўсходняй частцы былае тэрыторыі манастыра, апісаныя ў свой час *Паўлінавым* [1]); царква гэтая, як відаць з падмуроўкі, у процілегласьць дзьвём іншым, мела трохабсідны плян.



Мал. 1.—Руіны Пятніцкае царквы.

Дзьве другія, аднаадбсідныя ў пляне, значна папсаваныя і напалову разбураныя, у агульных сваіх масах застаюцца яшчэ і цяпер. Адна з іх, разьбітая ў час вайны маленькая *Параскева-Пятніцкая* царква, аб якой Сапуноў чамусьці памылкова паведамляе, як быццам яна была пабудавана ў 1670 годзе прыарам манастыра архімандрытам *Чудоўскім* [2]), у сучасны момант мае выгляд рэштак невялічкага амаль-што кубічнага (квадратовага ў пляне) будынка, разьмерам 6×6 мэтраў, ад якога захаваліся паўночны і паўднёвы муры, а таксама масыўныя перадаўтарныя слупы, на палове сваёй вышыні злучаныя тоўстымі ўнутранымі

[1]) „Древние храмы Витебска и Полоцка“ у „Трудах IX Археологического С'езда в Вильне“. Т. I. М. 1895. [2]) „Река Западная Двина“. Стар. 422.

сьценкамі з бакавымі мурамі. Старая характэрная кладка XII сталецьця з тонкае цэглы разьмерам 3×18×25 сант. ў сярэднім, уперамешку з пластамі цэмэнту таўшчынёю ад 5 да 12 сант., падымаецца да пят скляпеньняў, а дзе-ня-дзе і некалькі вышэй; у шмат якіх мясцох відаць пазьнейшыя папраўкі пры дапамозе больш буйное цэглы. З заходняга боку знаходзяцца рэшткі зруйнаванае пазьнейшае прыбудоўкі і скляпеньне над сутарэньнем, таксама пазьнейшага пахаджэньня: магчыма, што гэта і ёсьць тыя будовы XVII сталецьця, аб якіх паведамляе Сапуноў, няправільна адносячы да іх усю царкву цалкам.—Падлога царквы зруйнавана. З надворнага боку бакавыя фасады маюць даволі шырокія плоскія лапаткі па рагох. Аўтарная частка зусім зьніштожана і на месцы яе знаходзіцца вялікая груда цаглянага сьмецьця; аднак, па абрысу вялікае паўкруглае аркі на сучаснай надворнай сьцяне, якая некалі была ўнутранай сьцяной аўтара, можна гадаць, што ён меў выгляд аднэй вялікай, выпуклай і ня надта высокай паўкруглай абсіды, якая прылягала з усходу да асноўнага кубічнага масыву будынка. Адсутнасьць унутраных слупоў, якая вымагала беспасрэднае абапоры купала на асноўныя муры, паказвае, што ў даным выпадку меў месца адзін з найбольш спрошчаных варыянтаў бізантыцкага кубічнага тыпу пры аднаабсіднай конструкцыі.



Мал. 2.—Руіны Барысаглебскае царквы.

Другая царква, *Барысаглебская*, яшчэ нядаўна цалком захаваная і паступова разбураная ў самыя апошнія часы, мае выгляд высокага прадоўжнага будынка, значна большых за Пятніцкую разьмераў—9×15 мэтраў. Старая кладка XII сталецьця таксама падымаецца тут да пят

скляпеньняў і вышэй, але ў шмат якіх мясцох, як і ў Пятніцкай царкве, відаць сьляды паднаўленьня больш позьняй цэглай. З захаду і з усходу некалі існавалі пазьнейшыя прыбудоўкі, у сучасны момант зруйнаваныя; першапачаткова-ж з усходу была, як відаць, адна аўтарная абсіда, аналёгічна Пятніцкай царкве, або Спаскай царкве Еўфрасіньеўскага манастыра. Падзел бакавых муроў унутры—трохчленны, пры дапамозе дзьвёх плоскіх лапатак з кожнага боку, на якія раней абапіраліся скляпеньні. Знадворку падзел пяцічленны; пры гэтым чатыры асяродкавыя лапаткі разьмеркаваны па-парна, і ў прамежках паміж іх знаходзяцца вузкія закладзеныя вокны ў два ярусы. Заходні фасад мае ўсяго чатыры лапаткі і, значыцца,—трохчленны падзел. Такім парадкам, уся конструкцыя будынка амаль-што аднолькова з конструкцыяй вышэйпамянёнай царквы Спаскага манастыра.

Сумнае палажэньне, у якім знаходзяцца абодва гэтыя помнікі, асабліва з прычыны надзвычайна добрае захаванасьці ў тым-жа Полацку блізка падобнае да іх Спаскае царквы, безумоўна пазбаўляе іх вялікага гістарычна-архітэктурнага значэньня, але, зразумела, што не з архітэктурнага боку яны выяўляюць выдатную мастацка-археолёгічную каштоўнасьць. Найбольш істотным зьяўляецца *фрэскавы росьпіс*, што пакрываў у абодвых будынках пласты першапачатковага тынку, які нядаўна адкрыты ў параўнальна нямногіх і нязначных фрагмэнтах і пакуль-што зьяўляецца *адзіночным прыкладам фрэскавага малярства ў беларускіх цэрквах XII сталецьця.* Да апошняга часу мы ведалі толькі тыя маленькія рэшткі фрэсак, якія былі знойдзены ў 1909 годзе пры раскопках Сьмядынскіх руін у Смаленску [1]); але гэта былі выключна фрагмэнты орнамэнтальных мотываў, якія апроч таго ў часе раскопак зьнішчыліся, і ў большасьці нават ня былі сфотографаваны. Таксама фрагмэнты орнамэнтальнага росьпісу існуюць у асяродкавай абсідзе полацкае Софіі; але яны нязначны і мала цікавы. Апрача гэтых двох помнікаў, фрэскавыя росьпісы ў беларускіх цэрквах XII сталецьця нідзе не захаваліся; фрэскі горадзенскае Калоскае царквы канчаткова зьніштожаны пры рэмонтах; у полацкай Спаскай царкве першапачатковы росьпіс безнадзейна папсаваны шматразовымі пазьнейшымі замалёўкамі, так што напэўна там не маглі захавацца нават старажытныя копмозыцыі. Магчыма, што некаторыя вынікі магла бы даць рэстаўрацыйная праца ў віцебскай Благавешчанскай царкве,—але пакуль гэтая праца не праведзена,—Барысаглебскія фрэскі ў Полацку застаюцца адзіночным і з гэтай прычыны надзвычайна рэдкім узорам.

У свой час фрэскавым росьпісам былі пакрыты абедзьве—Пятніцкая і Барысаглебская—цэрквы. Ён зроблены па першаму, найбольш старажытнаму пласту тынку, які ляжыць беспасрэдна на старадаўнай цаглянай кладцы. Паверх гэтага пласту і фрэсак з цягам часу наклаліся шматлічныя пазьнейшыя напластаваньні з тынку і розных фарб; у Пятніцкай царкве колькасьць гэтых пазьнейшых пластоў дасягае чатырох, пры чым на першым з іх сустракаюцца graffiti XVII сталецьця: „Bazili", „Hrehori", а ў адным месцы, ужо на першапачатковым тынку відаць кароткі мала выразны надпіс кірыліцай, дзе апрача літары *„з"* нічога прачытаць немагчыма. У Барысаглебскай царкве пазьнейшыя напластаваньні менш роўнамерны: у некаторых мясцох беспасрэдна па

[1]) Гл. Е. *Клетнова.* О раскопках на Смедыни, произведенных Смоленской Ученой Архивной Комиссией в сентябре 1909 г. (Году і месца выданьня няма).

фрэсках муры проста афарбаваны клеявой фарбой, у другіх жа на фрэсках таксама ляжыць па некалькі пластоў пазьнейшага тынку. На першым з іх, а дзе-ня-дзе і на самых фрэсках, сустракаюцца падобныя да пятніцкіх graffiti, але яшчэ гусьцей; так на паўднёвай сьцяне можна прачытаць „*RD*", „*A⁰1674*", „*S. P. A.*", „*Ioze*", „*iuni 7*", „*zef*" на паўночнай: „*Stefan 164*"... „*Andrzey*" і інш.

Як відаць з вышэйпамянёнага намі апісаньня Гаворскага, аб існаваньні Барысаглебскіх фрэсак было вядома яшчэ ў 1865 годзе, калі ў Барысаглебскай царкве „з-пад некалькіх пластоў выпадкова зьбітага тынку было відаць старажытныя фрэскі яскравых колераў"[1]). Але ў той час, можна думаць, ніхто не зьвярнуў на іх належнае ўвагі, і пры пазьнейшых рэмонтах ізноў яны былі затынкаваны і зафарбаваны. Толькі ў бягучым годзе выпадковае разбурэньне будынкаў пры спадзе тынку дазволіла членам Полацкага Т-ва Краязнаўства прымеціць фрэскавы росьпіс у руінах Пятніцкае царквы, пасьля чаго, па даручэньню Інстытуту Беларускае Культуры мной былі зроблены дэтальныя яго дасьледзіны.



Мал. 3.—Фрагмэнт „Укрыжаваньня" каля праходу ў афярнік Пятніцкае царквы.

Найбольшая колькасьць Пятніцкіх фрэсак захавалася ў паўночна-заходнім куце і на перадаўтарных слупох. У частцы паўночнага мура, каля праходу ў афярнік, знаходзяцца рэшткі вялікае композыцыі „Укрыжаваньня", некалькі папсаванае пазьнейшым пашырэньнем праходу. На жоўта-шэра-цынамонавым натуральным фоне тынку выступае змроклы, пажоўклы абрыс высокага крыжа з часткай німбу над галавой Ісу-

[1]) „Вестник Западной России". 1865. Лістапад. Стар. 14.

са; направа ад яго—багародзіца па пояс (магчыма адцятая пры пашырэньні праходу); за ёю яшчэ адна фігура, ад якой засталася амаль-што адна галава. Фарбы малюнку, як відаць, зьмененыя ў сваім выглядзе ад часу, надзвычайна цьмяныя і змроклыя: увесь малюнак выкананы гразкім аднастайным сурыкам па натуральнаму фону тынку; у адзеньні ў абедзьвёх фігурах ледзь прыметны рэшткі зялёнае фарбы.—У тымжа куце на сьценцы паміж слупом і бакавым (паўночным) мурам, зьмешчаны надзвычайна кепска захаваны пакаленны вобраз нейкага сьвятога, на эпітрахілі якога відаць пракладзены тонкімі цёмнымі лініямі орнамэнт з шэрагу концэнтрычных акружын.

Значна лепш адносна фарбы захаваліся росьпісы, на перадаўтарных слупох. У верхняй частцы паўночна-ўсходняга слупа, у аўтарным праходзе, знаходзіцца палова мужчынскай фігуры—як відаць сьв. Міколы; у даным выпадку фон цёмны з лілёва-сіняватым адценьнем; ніжняя частка адзеньня фігуры цёмна-зялёная, верхняя—з натуральнага колеру тынку, абведзеная сурыкавымі контурамі; з-пад яе відаць белая эпітрахіль з сурыкавым канцом і пачаткам падоўжнага орнамэнту з акружын; у левай руцэ фігуры—кніга, таксама пракладзеная сурыкам; у німбе відаць сьляды тэй жа сурыкавай афарбоўкі. Пропорцыі фігуры былі, як відаць, ня больш, як у пяць галоў; трактоўка яе чыстароўнічная, зборкі намечаны схэматычна, галоўным чынам простымі лініямі. Заслугоўвае ўвагі блізкае падабенства лілёва-сіняй і цёмна-зялёнай фарб да фрагмэнтаў фрэсак у абсідзе Сафійскага сабору, што можа быць адным з довадаў бясспрэчнай прыналежнасьці пятніцкіх фрэсак да XII сталецьця.

Насупроць гэтай фігуры, у тым-жа праходзе, у верхняй частцы паўднёва-ўсходняга слупа знаходзіцца другая, таксама толькі напалову захаваная фігура нейкага невядомага сьвятога; ніжняя частка яго адзеньня і німб пракладзены сурыкам; фон сінявата-лілёвы, унізе кавалак цёмна-зялёнага; верхняя частка адзеньня натуральнага жаўтаватага колеру тынку, краі-жа і зборкі адзначаны сурыкам і сьветла-зялёнай фарбай. Як і „Мікола“, фігура гэта зьяўляецца аднэй з найлепшых фрэсак па захаванасьці і яскравасьці фарб.

Усе іншыя фрагмэнты Пятніцкае царквы значна менш цікавы. У заходняй частцы паўночнае сьцяны ледзь прыметны рэшткі вялікае композыцыі,—мабыць „Срэценьня“, з некалькіх фігур; у асяродку як быццам багародзіца з младзенцам, за ёй яшчэ адна фігура; пад гэтай композыцыяй ўнізе частка німбу ад нейкага паяснога вобразу; увесь малюнак, падобна да „Укрыжаваньня“, выкананы бруднаватым сурыкам па натуральнаму фону тынку.—Насупроць яго, на паўднёвай сьцяне таксама прыметны рэшткі нейкае композыцыі; але яна ўжо гэтак папсавалася, што нічога ўжо пазнаць немагчыма.—Нарэшце на паўночнай сьцяне ў праходзе ў афярнік, на натуральным фоне тынку відаць рэшткі некалькі нязвычайнага для XII сталецьця расьліннага орнамэнту, пракладзенага чырвонай фарбай, у выглядзе буйных кветак, віткоў і доўгіх сьцяблоў асымэтрычнага рысунку.

Гэтымі нямногімі фрагмэнтамі пры дасьледзінах Пятніцкіх фрэсак прышлося абмежавацца, бо спробы расчысткі муроў у іншых мясцох скончыліся няўдала: першы пласт пазьнейшага тынку трымаецца тут гэтак моцна, што пры аддзяленьні яго зрываецца таксама і першапачатковы тынк разам з фрэскамі,—у тых-жа мясцох, дзе фрэскі проста зафарбаваны, сьветла-жоўтая фарба глыбока ўелася ў тынк і ў фарбы росьпісу, так што ані зьняць яе, ані адмыць было немагчыма.

У процэсе далейшае дасьледчае працы ня меншая колькасьць фрагмэнтаў выявілася таксама і ў руінах Барысаглебскае царквы. Спачатку, ужо ў раскрытым відзе, у пралёце маленькага, пазьней закладзенага вакна ў паўночна-заходнім куце будынка былі заўважаны добра захаваныя фрагмэнты орнамэнтальнага мотыву ў выглядзе сымэтрычна разьмешчаных віткоў з атожылкамі сьветла-зялёнага колеру, блізкага па свайму рысунку да падобнага орнамэнту, які знаходзіцца на сходах кіеўскага Сафійскага сабору[1]). Прамежкі паміж віткоў некалі былі запоўнены сурыкам і сьветла-блакітнай фарбай, рэшткі якіх прыметны цяпер на натуральным фоне тынку. Навокал вакна раней было абрамленьне, рысунак якога не захаваўся; відаць толькі фарбы: чырвона-цынамонавую, цёмна-зялёную з сіняватым адценьнем, сьветла-зялёную, блакітную і бруднаватую вохру.



Мал. 4.—Орнамэнтальны мотыў у вакне Барысаглебскае царквы.

У іншых частках муроў нідзе ня было цэлых фрагмэнтаў, але дзеня-дзе, з-пад розных напластаваньняў прасьвечвалі каляровыя плямы фрэскавых фарб. Тады была пачата рэстаўрацыйная праца, у выніках якой, пры асьцярожным здыманьні пазьнейшага тынку і афарбоўкі, удалося выявіць яшчэ шэсьць кавалкаў фрэскавага росьпісу.

На бакавым канце першае з захаду лапаткі на паўднёвай сьцяне пад надзвычайна тоўстым пластом тынку аказаўся прымітыўна і вельмі дрэнна захаваны орнамэнт з ордынарных цынамонавых віткоў па натуральнаму фону.

[1]) Гл. *Грабарь*. Истори і русскогэ искусств і, вып. XIX, стар. 121.

У частцы тэй-жа сьцяны, каля маленькага закладзенага ваконца, быў знойдзены прымітыўны орнамэнт, намаляваны сурыкам па натуральнаму фону тынку ў выглядзе краткі з невялічкіх ромбаў у асадцы з шырокіх сурыкавых палос, і падобнай жа паласой наўкола самага ваконца. Тут-жа на першай з усходу лапатцы паўднёвае сьцяны раскрылася частка цынамонавага абрамленьня, навакол якога і ўнутры сьцяна аказалася пакрытай яскрава-вохранай і чырвонаватай фарбай; аднак ніякіх паасобных вобразаў прымеціць тут было не магчыма.

Затое ў асяродкавай частцы тэй-жа сьцяны ў асадках з падвойных—сурыкавай і зялёнай палос, былі знойдзены два паясныя вобразы традыцыйнага тыпу, блізкага, напр., да мэдальёнаў „сьвятых жэн“ у Кіеўскай Софіі[1]), намаляваныя цёмным сурыкам з пераходам у чырвона-цынамонавы тон. У жаночай фігуры налева ў мафорыі прыметны рэшткі цёмна-зялёнае фарбы. Направа другая фігура моцна папсавана. Паміж іх, напэўна, знаходзілася трэцяя, але ў гэтым месцы ў сьцяне нібыта замураваны нейкі пралом, так што ані першапачатковы тынк, ані фрэскі тут не маглі захавацца.

Некаторыя вынікі дала таксама расчыстка і супроцьлеглай паўночнай сьцяны. З боку на вузкім канце першае з захаду лапаткі быў знойдзены дробны орнамэнт у вузкай палосцы паміж дзьвёх цынамонавых палос, дзе на натуральным фоне жаўтаватага тынку паўтараецца намаляваны змрокла-зялёнай фарбай рысунак з трыкутнікаў і зьмешчаных унутры гэтых апошніх дэкарацыйных віткоў. Тут-жа другая ад усходу лапатка дала адну з самых лепшых знахадак: прыблізна на палове яе вышыні пад тонкім пластом зялёнай клеявой фарбы была раскрыта вялікая мужчынская фігура на шэра-зялёным фоне ў адзеньні рожава-жоўтага колеру з зеленаватым адценьнем у зборках ніжняга хітону і цёмна-цынамонавым у верхняй фэлоні. Асаблівае ўвагі заслугоўвае тут надзвычайна мяккая трактоўка адзеньня; зборкі пачынаюцца ад шыі і левага пляча; у фэлоні яны цёмныя просталінейныя, у ніжнім хітоне-ж, хаця ў сярэдзіне яны і падаюць трыма таксама простымі лініямі, але далей загінаюцца і свабодна кругляцца на левым калене. Сагнутая левая рука фігуры, захаваная вельмі нявыразна, як відаць, падтрымлівала кнігу, ад якой цяпер захавалася адна толькі дэформаваная пляма сурыкавага колеру. Таксама, на жаль, канчаткова папсаваны частка галавы і ўвесь твар. Німб, як і ў іншых вобразах, пракладзены гразкім цёмным сурыкам. З атрыбутаў захаваўся яшчэ толькі маленькі будынак—магчыма царква—каля ног фігуры справа. Агульны колёрыт фрэскі набліжаецца да „Міколы“ з Пятніцкае царквы, хоць фарбы некалькі больш сьветлыя і змроклыя. Агульная-ж пастаноўка фігуры блізка падобна да традыцыйных фігур „сьвяціцеляў“, вядомых нам, напр., па вобразах правага прыдзелу Кіеўскае Софіі[2]), або росьпісу наўгародзкае Спаса-Нярэдзіцкае царквы[3]).

Апошні факт і наагул паказвае нам, магчыма, на нейкія падвойныя адносіны Полацкіх фрэсак—з аднаго боку да Кіеву, з другога боку—да Наўгародзкіх росьпісаў. Але ў даным выпадку, асабліва з прычыны ўсё-ж нязначнае колькасьці Барысаглебскіх фрагмэнтаў і ня зусім дасканалай іх захаванасьці прыходзіцца, зразумела, быць надзвычайна асьцярожным у вывадах. Бясспрэчна, усяго прасьцей было-бы

[1]) *Кондаков и Толстой.* Русские древности в памятниках искусства, вып. IV, стар. 144—145, мал. 122—125. [2]) *Грабарь.* История русского искусства, вып. XIX, стар. 117. [3]) *Кондаков и Толстой.* Русские древности в памятниках искусства, вып VI, стар. 135, мал. 159.

шукаць крыніцы полацкага фрэскавага малярства XII ст. ў Кіеве, як у тагочасным асяродку ўсходня-славянскага „бізантынізму“; але зробленыя намі набліжэньні некаторых Барысаглебскіх фрагмэнтаў да падобных-жа кіеўск'х помнікаў яшчэ не даюць нам патрэбных для гэтага падстаў. Фактычна толькі орнамэнтальны мотыў у пралёце ваконца Барысаглебскае царквы зьяўляецца блізка падобным да кіеўскіх вузораў, з чаго яшчэ нельга зрабіць заключэньне аб беспасрэдным кіеўскім уплыве; у другіх выпадках, як напр. у паясных вобразах, падабенства да кіеўскіх росьпісаў можа тлумачыцца агульнай пашыранасьцю данага тыпу у бізантыцкім мастацтве: досыць хаця-бы параўнаць і тыя і другія з аналёгічнымі фігурамі Палацінскае капэлі ў Палермо[1]), або з іншымі бізантыцкімі мозаікамі і фрэскамі.

Да таго-ж, вядомая розьніца наглядаецца і ў іконаграфічных, і ў формальных адносінах. З іконаграфічнага боку, самае разьмяшчэньне полацкіх фрэсак на мурох зусім ня ўзгоднена з традыцыйнымі кіеўскімі канонамі; асабліва незразумелым з пункту погляду сталых кіеўскіх царкоўных правіл зьяўляецца зьмяшчэньне „Укрыжаваньня“ і „Срэценьня“ разам з паасобнымі вобразамі на аднэй паўночнай сьцяне, якое мы бачым у Пятніцкай царкве; у гэтым-жа сэнсе некалькі зьдзіўляе адсутнасьць сярод Барысаглебскіх росьпісаў шматфігурных сюжэтавых композыцый. Таксама з формальнага боку полацкія фрэскі значна ўхіляюцца ад кіеўскіх прынцыпаў: з дзьвёх асноўных тэндэнцый—мозаічнай і маляўнічай—якія вялі паміж сабой барацьбу ў бізантыцкім мастацтве XII сталецьця,—тэндэнцыя маляўнічая заўсёды пераважвала ў Кіеве, дзе нават мозаікі імкнуліся да маляўнічых эфэктаў. У Полацку-ж, наадварот, пры фрэскавай тэхніцы выкананьня малюнкаў ўсе-ж пануе нейкая мозаічная монумэнтальнасьць асноўных форм, як быццам падмена багатай мозаікі больш даступнай і таннай фарбай; у гэтым выяўляецца вядомы „провінцыялізм“, вядомая адарванасьць ад цэнтраў тагочаснага бізантыцкага мастацтва; але ў гэтым полацкія росьпісы ўжо цясьней набліжаюцца да росьпісаў наўгародзкіх, часткова да вышэйпамянёных фрэсак Спаса-Нярэдзіцы.

Магчыма, што гэта зьяўляецца вынікам аналёгічных узаемаадносін паміж беларускім, кіеўскім і наўгародзкім фрэскавым малярствам XII сталецьця, якія ў гэтую эпоху мелі месца ў галіне царкоўнае архітэктуры, дзе кіеўскія формы пераходзілі ў Ноўгарад праз пасярэдніцтва Беларусі, відазьмяняючыся на беларускай тэрыторыі і ўтвараючы тут, у тым ліку ў тым-жа Полацку, вядомыя першаўзоры для некаторых пазьнейшых форм наўгародзкага будаўніцтва. У фрэскавым малярстве мог адбывацца аналёгічны процэс, дэталі якога маглі-бы быць высьветлены толькі ў тым выпадку, калі-б была знойдзена значна большая за полацкія фрагмэнты колькасьць добра захаваных беларускіх помнікаў гэтага часу. Але паколькі на гэта мала прыходзіцца спадзявацца,—патолькі, напэўна, гэтае цікаўнае і важнае пытаньне павінна будзе, на жаль, застацца неразьвязаным.

---

[1]) «Русские древности“, IV, 144.



**А. Сянкевіч**

# Аграрны рух на Меншчыне ў 1905-6 г.[1])

Аграрны рух на Меншчыне асабліва выразна выявіўся ў 1905 годзе і найбольшай сілы дасягнуў улетку 1906 году. У большай сваёй частцы гэты рух выліваўся ў забастоўкі ў часе жніва, касавіцы, капаньня бульбы, аднак жа было досыць выпадкаў захопу сялянамі памешчыцкіх сенажацяй а мясцамі і зямлі, і „самавольнай“ парубкі лясоў.

Аграрны рух прымаў большыя размеры там, дзе альбо знаходзілася мясцовая рэволюцыйная інтэлігенцыя, галоўным чынам настаўніцтва (Мікалаўшчына, Шчорсы, Блонь), альбо дзе існавала соц.-дэм. ц моцная бундаўская організацыя (Капыль, Лоеў, Мір).

Пры забастоўках ужываўся прымітыўны спосаб распаўсюджваньня лістовак-проклямацый, якія часта друкаваліся на гэктографе, а то проста пад капіравальную паперу. Штрэйкбрэхараў сяляне і сьвядомыя рабочыя праганялі, а больш упартых здымалі пагрозай пусьціць чырвонага пеўня, а то і проста давалі па загрыўку.

Цікаўным зьяўляецца тое, што гвалтаў над панамі нават ня мог занатаваць у сваіх данясеньнях губэрнатар Курлоў.

Усё-такі, ня гледзячы на гэта, мірны аграрны сялянскі рух супакойвалі крываваю рукою. Апроч наймітаў-стражнікаў, па вёсках гулялі казакі, высылалася пяхота,—у сялян стралялі, секлі іх розгамі, а „зачыншчыкаў“ на цэлыя гады кідалі ў турмы.

Наступныя радкі ёсьць амаль-што копія данясеньня у Дэпартамэнт Паліцыі вядомага ката—губэрнатара Курлова аб аграрным руху на Меншчыне.

Аграрны рух сярод сялян Менскай губэрніі перш за ўсё распачаўся ў Наваградзкім павеце ў траўні 1905 г. Мясцовая ўлада, даносіць губэрнатар, не зьвярнула на гэты рух адпаведнай увагі, лічачы яго часовым і лёгка „подавимым“. Але-ж ужо ў чэрвені запатрабавалася выехаць на месца віцэ-губэрнатару Чэрнцову, які перад сваёй паездкай выслаў у раён, ахоплены аграрным рухам, конныя і пяхотныя вайсковыя часьці.

1) Аўтар ня мог даць назваў валасьцей памянёных у артыкуле вёсак і падробных дат сялянскіх бунтаў у кожнай мясцовасьці паасобку дзеля таго, што гэта не паказана і ў матар'ялах губэрнатара Курлова, паводле якіх і напісан гэты артыкул. Іншых крыніц аўтар ня меў.

*Рэдакцыя.*

Крыніцай беспарадкаў зьяўляліся мястэчка Мір і сяло Шчорсы.

Віцэ-губэрнатар, як відаць, добра стараўся, каб абараняць памешчыцкія сялібы ад разгрому. „Ува многіх выпадках“,—піша Курлоў,—„прыходзілася дзейнічаць сілаю і арыштоўваць зачыншчыкаў“. У сувязі з рухам у наваградзкую турму было кінута 16 чалавек, якіх чакала як кажа губэрнатар, высяленьне за межы губэрні (на падставе палажэньня аб „усіленной охране“).

У Шчорсах і Міры праз усё лета стаялі казацкія і іншыя вайсковыя часьці.

Паглядзім, што рабілася ў Рэчыцкім павеце. Як Курлоў піша, у Рэчыцкім павеце „брожение“ сярод сялян пачалося ў траўні ў маёнтках Ваньковіча, графіні Ракіцкай, Аляксандры Горвата. Аграрны рух тут выліўся ў патрабаваньні павялічэньня заработнай платы, у самавольнай пасьбе скаціны, у пагрозе тым, хто выйдзе на работу, а ў маёнтку Горвата ў парубцы засьцянковаю шляхтаю лесу. Спрэчка аб лесе ў шляхты з Горватам вялася доўгі час. Шляхта засьценка Куставіцы даводзіла, што лес у 500 дзесяцін падарован ёй польскім каралём і што Горват няправільна налажыў руку на гэты лес.

Як відаць, з забастоўшчыкамі тут расправіліся мясцовымі сіламі; аб вызаве войска ў гэты раён губэрнатар ня піша.

Больш сур‘ёзны характар прымаў аграрны рух у сяле Стрэнічаве, дзе сяляне захапілі сенажаць у памешчыка Аврамава. На месца „беспарадкаў“, была выклікана рота пяхоты. Натоўп сялян разам з кабетамі ня толькі выказалі супраціўленьне паліцыі, але не паслухалі і войска. Камандзеру роты і спраўніку было „нанесено оскорбление действием“, і толькі ўзвод казакоў з бізунамі і пікамі затаймаваў рух непакорлівых сялян.

Былі яшчэ сялянскія беспарадкі ў мястэчку Юравічах—не пушчалі рабочых працаваць на памешчыцкай зямлі. Справа скончылася арыштам двох сялян (Павал і Якуб Тэлеш).

У горадзе Рэчыцы на ўсякі выпадак праз увесь час стаяў узвод пяхоты.

У Барысаўскім павеце сялянскія беспарадкі мелі месца ў маёнтку Завішні памешчыка Фалькоўскага, дзе сяляне вёскі Баброва адмовіліся выпаўніць загад паліцыі аб звароце скошанага імі сена з самавольна захопленага памешчыцкага вучастку.

Спраўнік доўга угаварваў сялян, каб аддалі сена дабрахвотна;--тыя не згодзіліся. Тады ён даў загад рабочым экономіі забраць сена. Натоўп сялян прагнаў рабочых, некаторым служачым, якія надта клапаціліся аб панскае дабро, дасталося па патыліцы.

Тады начальства выклікала эскадрон драгун з г. Барысава. „Парадак“ піша губэрнатар,--быў „восстановлен“, а вінаватыя накіраваны ў суд.

Апроч гэтага на Барысаўшчыне мела месца непаразуменьне з сялянамі ў маёнтках гэнэрал-лейтэнанта Мезенцава і памешчыка Роткевіча. У маёнтку Роткевіча „Бястроск“ сяляне рабілі „самавольныя“ запашкі, пасьбу скаціны і секлі лес. Справа была закончана мясцовай уладай без вызаву войску.

У Менскім павеце непарадкі пачаліся ў маёнтку Станькава графіні Чапскай. Сяляне прышлі ў маёнтак і як, кажа Курлоў, у грубай форме зрабілі заяву, што больш ня хочуць ніякай апекі і патрабавалі адвясьці месца для пашы. Каб памірыць сялян с графіняй, на месца выехаў „Непременный Член Губернскага Присутствия“ Фон-Брынкман. У

воласьці яго чакалі ня толькі сяляне з маёнтку Чапскай, але і з суседніх вёсак. Ніякім чынам на словах пераканаць сялян фон-Брынкман ня мог і павінен быў вызваць узвод казакоў. Гэтыя, вядома, скора „навялі парадак“.

У мястэчку Сёмкаў-Гарадок сяляне прарылі канаву ў грэблі і выпусьцілі ваду з млына памешчыка Хялкоўскага. Ні прыстаў, ні земскі начальнік з спраўнікам ня здолелі угаварыць сялян з-пад Сёмкова. На дапамогу былі выкліканы казакі, якія бізунамі прымусілі сялян засыпаць канаву.

У маёнтку Чуйкевіча сяляне вёскі Заямнае пабілі рабочых (штрэйкбрэхараў), арэндатара маёнтку Сыркіна, так што некаторых трэба было накіраваць у шпіталь. Чатырох сялян арыштавалі, а рэшта заспакоілася.

У памешчыцы Вашчынінай у маёнтку Дзягільна сяляне свавольна пасьвілі быдла і захапілі сенажаці. Земскі начальнік і прыстаў разам з спраўнікам прабавалі заспакоіць сялян і настойвалі на выдачы правадыроў, але гэта не памагло. Дапамаглі казакі. Была зроблена ацэнка страт і разложана на сялян, а так званых правадыроў пасадзілі ў турму.

Сяляне с. Мікалаўшчыны ня пускалі рабочых касіць і жаць у маёнтках князя Радзівіла. Мелі месца значныя непаразуменьні і ў іншых частках Менскага павету. Так, у адным маёнтку на жытнім полі, якое жалі машынамі, хтось наўбіваў жалезных калоў машына зламалася, а жней не дастаць.

Што тычыцца Мазырскага павету, дык згодна інфармацыі таго-ж Курлова, меў месца толькі адзін выпадак, калі трэба было вызваць войска—гэта у маёнтку „Алескае“ Аляксандры Ансэльма. Там выдзеленыя гадоў дзевяць назад судовым парадкам 40 чалавек арэндатараў прыехалі на пяцёх фурманках узброеныя кіямі і зрабілі біwуак на памешчыцкім двары. Натоўп павялічваўся, бо прыходзілі сяляне суседніх, вёсак і арэндатары з маёнтку Горвата.

Ня гледзячы на ўгаворы земскага начальніка і спраўніка, арэндатары стаялі на сваім і заявілі, што ня выйдуць з маёнтку, бо лічаць яго сваім. Была выклікана сотня Таманскага казачага палка, якая навяла парадак пры чем восем правадыроў было арыштована. Для аховы маёнтку там пакінулі на ўсё лета 15 казакоў.

У Бабруйскім павеце былі выпадкі абурэньня сялян у маёнтках Жамчужнікава (паэты) і Кутаева. Сяляне не пайшлі на работу і ня пушчалі іншых працаваць на панскім полі. Ані войска, ані казакі туды не пасылаліся.

Па Ігуменскаму (Чэрвенскаму) павету выклікалася вайсковая часьць у мястэчка Ляды, бо там чакалі „крупных беспорядков“ у часе кірмаша.

Аграрныя непаразуменьні здараліся ў маёнтку Сінча памешчыка Рашынскага. У забастоўцы парабкаў прымалі чынны ўдзел політычныя агітатары—як памешчык з Блоні Бонч-Асмалоўскі і яго служачыя.

На месца была выслана рота солдат. Чатырох галоўных агітатараў арыштавалі і кінулі ў турму, а на месцы засталася палурота солдат да аканчальнага заспакаеньня.

Апроч гэтага былі непаразуменьні ў памешчыкаў Ваньковіча, Прушынскага, Наркевіча-Іодка, Горвата; усе яны былі затаймованы мясцовай адміністрацыяй.

Па Слуцкаму павету, пачынаючы ад траўня, прымячалася бушаваньне сярод сялян. Былі спробы захопу памешчыцкіх угодзьдзяў, забастоўкі і зьніманьне натоўпам наймітаў. Асаблівай вострасьці абурэньне сярод сялян дасягнула ў вёсцы Бучацін, Клецкай воласьці, у маёнтку князя Радзівіла „Орлек“, у маёнтку шляхціца Наркевіча, у мястэчку Капылі ў памешчыка Тышкевіча, у вёсцы Жаулка, Пацеўкаўскай воласьці, у маёнтку Какорычы Тышкевіча, у вёсцы Гарнастаева і ў вёсцы Дубені ў маёнтку Шаркова. У вёсцы Гусакі сяляне забралі зямлю ў урочышчы Сукорды памешчыка Абуховіча і пакалацілі рабочых гэтага пана. У г. Слуцку і ў Капылі праз увесь час стаяла па аднэй роце салдат.

У Пінскім павеце асаблівых сялянскіх непарадкаў ня было. Былі непаразуменьні дзеля сэрвітутных паш у Дольску ў паноў Альшанскага і Васюковіча. У маёнтку Твардоўскага былі знойдзены падмётныя лісты, а ў гаспадара маёнтку стралялі.

Вось кароткі пералік аграрных абурэньняў, якія згодна дакладу губэрнатара Курлова, мелі месца па Меншчыне на працягу аднаго толькі лета. Не абмылімся, калі скажам, што ня было таго маёнтку, у якім ў тэй ці іншай форме ня было непаразуменьняў сялян з памешчыкамі.

Якое значэньне і якія вынікі меў гэты аграрны сялянскі рух? Перш за ўсё ён зьяўляўся часткаю таго вялізарнага руху, які агарнуў усю тэрыторыю царскай імпэрыі і падрываў самае карэньне памешчыцкай дзяржавы.

Памешчыкі бачылі, што за гэтым рухам крыецца імкненьне сялян захапіць усю памешчыцкую зямлю ў свае рукі.

Асабліва гэта зразумелі памешчыкі Менскага павету. З мэтай залагодзіць сялян і прыпыніць разьвіцьцё аграрнага руху яны на чале з прадвадзіцелем дваранства Калагрывавым у сьнежні 1905 году склікалі сялянска-дваранскі зьезд. Зьезд адбываўся ў салі дваранскага сабраньня (цяпер памяшканьне акругкому КПБ і клюбу ім. Карла Маркса); на гэтым зьезьдзе яны праз цэлы дзень дурылі галаву сялянам, што на забастоўкі падбухторваюць іх баламуты-агітатары, што сяляне павінны жыць у згодзе з памешчыкамі і абяцалі урэгуляваць сэрвітутныя непаразуменьні, а гэтак сама выдзеліць сялянам „адрэзкі“. Аўтар гэтых радкоў быў на гэтым зьезьдзе прадстаўнікам ад сяла Мікалаўшчыны. Ад імя сваёй і суседніх валасьцей я зачытаў праграму таго, чаго хацела сялянства. Праграма была зложана ў духу сялянскага саюзу. Да праграмы далучыліся ўсе сяляне, якія прысутнічалі на зьезьдзе. Пасьля гэтага ў салю пасяджэньня была ўведзена паліцыя. Сяляне дэманстрацыйна пакінулі зьезд.

Непасрэдным вынікам забастовак у панскіх маёнтках зьявілася павышэньне заработкаў. Замест 25-30 кап. пачалі плаціць касцу рубель, жняі—ад 50-ці кап. да рубля.





Проф. П. Салаўёў

# Некаторыя вывады з фэнолёгічных назіраньняў

У працягу 3-х гадоў я займаюся назіраньнем паступовай зьмены адных зьявішч у прыродзе іншымі. Гэтыя назіраньні абхопліваюць сабой невялікую плошчу, якая прылягае да Горацкага Сельска-Гаспадарчага Інстытуту (сады, лясочкі, фэрмскае поле). Абмежаваньне плошчы назіраньня мае свае выгадныя і нявыгадныя бакі. Да нявыгадных бакоў адносяцца тыя абставіны, што вынікі назіраньняў ня могуць быць без паправак і дадаткаў распаўсюджаны на воласьць, раён і акругу. Да выгадных абставін адносіцца тое, што пры абмежаванай плошчы назіраньня ёсьць магчымасьць штодня абхадзіць яе і ёсьць цьвёрдая упэўненасьць у тым, што бадай ніводная сэзонная зьмена ў прыродзе не абміне назіральніка. Такім чынам, вузкасьць кругагляду дапаўняецца падрабязнасьцю назіраньня данага пункту. Вывад адгэтуль такі, што шырокі абшар і шырокі размах у назіраньнях на вялікай прасторы бадай-што не даступны для аднаго назіральніка: для гэтага патрэбна цэлая армія. У той-жа час адзін назіральнік можа пільна сачыць за ўсімі зьменамі ў прыродзе, абмежаваўшы сябе невялічкім вучасткам, дзе ўсе падрабязгі зьмен у прыродзе пройдуць перад ім без усялякіх пропускаў. Я ня лічу патрэбным спыняцца на высьвятленьні значэньня назіраньняў, якія робяцца па глухіх кутках, бо гэтая думка ўжо выказана ў „Программах и наставлениях для наблюдений и собирания коллекций по естественной истории“, выдадзеных Ленінградзкім Таварыствам Дасьледчыкаў Прыроды (выд. 5-ае, 1902, стар. 1—595).

У выніку сваіх назіраньняў 1925 г. я зьвяртаю ўвагу вось на які факт. Раньні веснавы пэрыод да прылёту гракаў, характарызаваўся прыметным і частым зьяўленьнем на вачох назіральніка зімуючых птушак. Атрымоўваецца такое ўражаньне, што і гэтыя птушкі ў сваёй масе прылятаюць да нас з болей паўднёвых месц. Гэтую думку я выказаў у 1908 годзе ў адносінах да польскіх гракаў (гл. маю брошуру „Весенние экскурсии“, дадатак да часопісу „Любитель Природы“, Ленінград). У сучасны момант гэтая думка знаходзіць сабе падтрыманьне ў назіраньнях над воронамі, сініцамі, гілямі (гл. „Известия Русского Общества Мироведения“, 1925, № 2 стр. 26).

У нас, у Горках, у канцы лютага пачалі ўпарта зьяўляцца гілі, якія ўзімку зусім не паказваліся. Вывад адгэтуль такі, што трэба весьці самыя пільныя назіраньні ўвясну, а апрача таго пры назіраньнях за

птушкамі адзначаць у дзеньніку,—многа ці мала гэтых птушак наагул, многа ці мала ў сучасны момант. Гэты падлік паможа разабрацца ў падрабязгах біолёгіі мясцовых птушак, з якіх адны карысны для сельскага гаспадара, а другія шкодны.

Таксама трэба адзначыць той факт, што кожны год на адных і тых самых мясцох зьяўляюцца адны й тыя самыя птушкі, так што ў выніку назіраньняў бадай беспамылкова можна загадзя сказаць, калі і дзе якую птушку можна пабачыць. Гэта адзначае і праф. Кайгародаў, кажучы, напрыклад, пра лясную завірушку (Accentor modularis), якую ён штогод сустракаў блізка-што кожны раз у адных і тых самых кустох („Из царства пернатых“ выд. 6-е Ленінград, 1923 г., стар. 213).

Вывад адгэтуль такі, што пры назіраньнях на абмежаванай плошчы можна досыць лёгка вывучыць некаторыя галіны біолёгіі птушак, тады як гэтыя галіны адпадаюць пры раскіданасьці увагі назіральніка, які мае вялікі раён для працы.

Нарэшце я спынюся на тых домыслах агульнага характару, якія выцякаюць з даных назіраньняў і з некаторых фактаў, супастаўленых з імі. Гэтыя домыслы маюць характар гіпотэзы (дапушчэньня), і выяўляюцца вось у чым. Можна ўявіць сабе, што веснавы пералёт птушак у масе адбываецца па пэўнай шырокай дарозе, па якой птушкі пералятаюць штогод. Далей, можна дапусьціць, што на розных географічных шырынях частка птушак адрываецца ад масы і адлятае направа і налева ад магістралі. Адны з гэтых птушак, якія адлятаюць у бакі, асядаюць на даным роўналежніку, другія вядуць далей то болей, то меней паўночны палёт па палудзеньніку, роўналежнаму галоўнай магістралі веснавога пералёту; рэшта птушак (па маёй гіпотэзе) вяртаюцца трохі бліжэй да паўдня. Калі моя думка спраўдзіцца далейшымі назіраньнямі, дык будуць ясны і зразумелы некаторыя факты, якія цяпер тлумачацца іначай. Магчыма, што веснавое зьяўленьне тых ці іншых птушак рэгіструецца на адным і тым самым палудзеньніку паўночным назіральнікам раней, чым паўднёвым. У сучасны момант такі факт тлумачыцца няўважлівасьцю або пропускам з боку паўднёвага назіральніка і наадварот, зіркасьцю паўночнага назіральніка. З прыняцьцем маёй схэмы веснавых пералётаў птушак можна будзе сказаць, што маюць рацыю абодва назіральнікі. Справа ў тым, што яны абодва знаходзяцца ў баку ад магістралі. Частка птушак на даным палудзеньніку адносіцца да тых, якія, праляцеўшы на поўнач з масай птушак, павярнулі затым у бок і адляцелі на поўдзень. На аснове маіх назіраньняў, Горкі не знаходзяцца на магістралі, і некаторыя птушкі могуць зьявіцца сюды пазьней, чым іх зарэгіструюць на поўначы. Каб згадзіцца або не згадзіцца з маёй гіпотэзай, бязумоўна трэба організаваць сыстэматычныя правільныя назіраньні ў розных пунктах многімі назіральнікамі. Вынікі назіраньняў на галоўным фэнолёгічным пункце дадуць магчымасьць строга выявіць увесь малюнак пералёту. Адгэтуль пасьля могуць быць зроблены вывады, якія могуць мець і практычнае значэньне.






**Проф. Васількоў**

# Як зьбіраць расьліны

У цяперашні час на Беларусі, як і ў іншых савецкіх рэспубліках, краязнаўчыя організацыі разьвіваюцца надзвычайна хутка. У краязнаўчую працу ўцягнуты і асобныя спэцыялістыя, і настаўніцтва, і шырокія грамады. Здаецца, што посьпех работы больш-менш забясьпечан. Але мы бачым, што вынікі работы краязнаўчых організацый далёка меншыя, чымся на тое можна было-б спадзявацца, нават у тых галінах краязнаўства, у якіх вельмі лёгка зрабіць многае.

У значнай меры затрымлівае краязнаўчую справу недахват належных інструкцый з боку спэцыялістых. Пры ўсім жаданьні нешта зрабіць, працаўнікі вясковых краязнаўчых таварыстваў і гурткоў часта ня ведаюць, з чаго пачаць і што рабіць. Між іншым гэта датыча і справы вывучэньня расьліннасьці краю.

А між тым у гэтай справе лёгка зрабіць вельмі многа, нават ня маючы шырокіх ведаў у батаніцы, ня маючы спэцыяльных прылад і сродкаў. Мясцовыя аматары-краязнаўцы могуць сабраць вельмі багаты і каштоўны матар'ял, які пасьля апрацоўкі спэцыялістымі, значна дапаможа выяўленьню пакуль-што невядомых асаблівасьцяй беларускай флёры.

Кожны аматар можа выканаць такія работы:

### I. Фэнолёгічныя нагляданьні над расьлінамі.

Трэба наглядаць і адзначаць час пэўных зьяў (фазы разьвіцьця) у жыцьці галоўных, хаця б самых звычайных, расьлін, як культурных, гэтак і дзікіх, дрэўных і травяністых. Так, напрыклад, час веснавога набраканьня і поканьня пучкоў на дрэвах і кустох, усходаў траў, пачатак і канец красаваньня, дасьпяваньня пладоў, выплываньня (калашэньня) і красаваньня збожжа, пачатак і канец жаўценьня і ападаньня лісьця з дрэў увосені, адміраньня надземных частак траў і г. д.

Пры гэтым, адзначаючы месяц і чысло тэй ці іншай зьявы, трэба паказаць дасканалы назоў расьліны, аб якой ідзе гутарка. Калі дасканалы назоў невядомы, дык тады трэба адзначыць расьліну якім-небудзь умоўным нумарам і пад гэтым нумарам сабраць і засушыць пару галінак гэтай расьліны (па магчымасьці з цьветам).

Усе гэтыя даныя—запісы разам з засушанымі расьлінамі (гэрбарным матар'ялам)—трэба за належным подпісам зьбіральніка паслаць у цэнтральную краязнаўчую ўстанову, дзе іх апрацуюць спэцыялістыя.

## II. Зьбіраньне колекцый засушаных расьлін (зельніка).

Калі гэтую работу зрабіць правільна, дык яна дасьць вельмі каштоўны матар'ял.

Якія-ж расьліны трэба зьбіраць і якія заданьні трэба сабе паставіць пры гэтым зьбіраньні? Заданьняў такіх можа быць некалькі.

Першае, самае агульнае заданьне—вывучэньне расьліннай шаты краю. Маючы вялікае навуковае значэньне, такое зьбіраньне дзікіх расьлін мае адначасна і практычную вартасьць—паводле тых або іншых расьлін мы часта можам разважаць аб глебе і іншых асаблівасьцях таго кутка, у якім яны растуць, а разам з гэтым аб прыгоднасьці гэтага кутка для гаспадаркі, бо дзікія расьліны зьяўляюцца дужа тыповымі для тых акалічнасьцяй, у якіх яны пашыраны. Калі прышлося сур'езна заняцца перасяленцкім пытаньнем, калі трэба было выявіць прыгоднасьць для пересяленцаў дзікіх бязьлюдных куткоў Сыбіру, дык побач з іншымі падрыхтоўчымі работамі было наладжана геоботанічнае абсьледваньне прызначаных для перасяленцаў мясцовасьцяй шляхам спэцыяльных геоботанічных экспэдыцый. Здабытыя гэтымі экспэдыцыямі матар'ялы былі надрукованы ў „Трудах Переселенческого Управления“, склалі цэлы шэраг тамоў і адыгралі ня малую практычную ролю.

Разумеецца, што такое пляновае ботанічнае абсьледваньне за дапамогай спэцыяльных экспэдыцый вымагае многа грошай і не даступна вясковым краязнаўцам, але і простае аматарскае зьбіраньне ботанічнага матар'ялу, які потым апрацоўваецца ў цэнтрах спэцыялістымі, можа даць многа каштоўнага ў справе пазнаньня краявой расьліннасьці.

Важна толькі, каб матар'ял зьбіраўся правільна.

Трэба:

1) Зьбіраць і засушваць *усе* віды расьлін, якія ў данай ваколіцы дзіка растуць.

2) Кожную расьліну зьбіраць не ў адным, а ў некалькіх экзэмплярах.

3) Пры кожнай засушанай расьліне павінны быць усе яе галоўныя часткі: абавязкова кветкі (у большасьці выпадкаў і плады), сьцябло, лісьце і, па магчымасьці, карэні. Калі расьліна занадта вялікая, дык можна браць яе ня ўсю, а асобнымі часткамі. Калі, напрыклад, на аднэй і тэй самай расьліне ёсьць лісты рознага выгляду, дык трэба, каб галоўныя характэрныя формы іх былі прадстаўлены ў гэрбарным экзэмпляры.

4) Кожны від расьліны трэба ўкладаць у асобны аркуш паперы. Ні ў якім выпадку ня можна ўкладаць у адзін аркуш некалькі розных расьлін.

5) Пры кожнай засушанай расьліне (гэрбарным экзэмпляры) абавязкова трэба даваць такія даныя:

а) Месца, у якім знайшлі расьліну (акруга, раён, сельсавет, вёска або мястэчка ці што).

b) Акалічнасьці, у якіх жыла расьліна [лес (сухі, вільгатны, сасновы, яловы, бярозавы, асінавы, мяшаны і г. д.), поплаў, балота (траваное ці імховае), поле, і г. д.].

c) Пашыранасьць расьліны (часта, рэдка, адзінкамі, групамі, масамі і г. д. сустракаецца).

d) Час зьбіраньня (год, месяц, чысло).

e) Глеба (па магчымасьці).

f) Прозьвішча асобы, якая зьбірала гэты экзэмпляр.

Вельмі важна паказаць мясцовую назву расьліны, калі яна ведама.

Такі пашпарт абавязкова трэба далучаць да кожнага гэрбарнага экзэмпляра.

Для ўкладаньня, засушкі і захаваньня засушаных расьлін у поўнай меры гадзіцца звычайная пакавальная („оберточная“) або нават старая газэтная папера (непраклееная, т. е. такая, што можа ўбіраць у сябе вільгаць; папера для пісаньня не гадзіцца, ды апрача таго яна дарагая).

Сьвежа-зьбіраныя расьліны, якія яшчэ не пасьпелі завянуць, укладаюцца ў аркушы такой паперы і распраўляюцца так, каб мелі нормальны выгляд. Да кожнай расьліны далучаецца запіска з ведамасьцямі, паказанымі ў п. 5.

Затым аркушы складаюцца пачкамі па 20 у кожнай, пры чым паміж аркушамі з расьлінамі пракладваюцца пустыя аркушы такой самай паперы.

Уся пачка кладзецца пад прэс (гладка адгабляваную дошку, прыціснутую парай цэглін) і пад такім прэсам ляжыць некалькі дзён, пакуль расьліны не высахнуць. Пры гэтым штодзень трэба вымаць з пачкі падмоклыя пустыя аркушы і замяняць іх новымі.

Многа хутчэй і лепей высыхаюць расьліны, калі пачкі з імі ляжаць не пад прэсам, а паміж дзьвюма драўлянымі асадкамі (рамкамі) з туга нацягнутай драцянай або, прынамсі, вяровачнай сеткай. Такія асадкі вельмі лёгка зрабіць самому, а сушка ў іх адбываецца многа хутчэй і ня вымагае перакладаньня пустых аркушаў.

Спосабы такой сушкі дэмонстраваліся аўтарам гэтых радкоў на адным з сходаў Горацкага Раённага Таварыства Краязнаўства.

У продажы ёсьць цэлы шэраг кніжак, ў якіх гэтыя спосабы апісаны вельмі падробна. Для прыкладу можна зьвярнуць увагу на дужа добрую і недарагую (30 кап.) кніжку проф. С. Растоўцава: „Как составлять гербарий“ (Москва, Госиздат, 1924 г.).

Аркушы паперы з засушанымі расьлінамі трэба пранумараваць, скласьці ў пачкі, запакаваць і пераслаць у Менск у Інбелкульт (Рэвалюцыйная, 21), дзе іх разьмяркуюць паміж спэцыялістых для азначэньня і апрацоўкі.

Пры зьбіраньні матар'ялаў па флёры краю можна абмежавацца вузейшымі чыста практычнымі заданьнямі; напрыклад, зьбіраць і сушыць паказаным вышэй спосабам *пустазельле* („сорные растения“). Пры гэтым важна адзначаць пры кожнай расьліне, у якіх культурах яна сустракаецца, г. зн. напр. у жыце, у аўсе, у лёне і г. д. Зразумела, што патрэбны побач і ўсе іншыя даныя, паказаныя ў п. 5 і інш.

Вельмі цікаўны матар‘ял можа даць гэрбарызацыя расьлін па іх хваробах. (Вугаль, іржа, ражкі на збожжы, хваробы дзікіх і культурных расьлін і г. д.). Трэба зьбіраць і сушыць паказаным вышэй спосабам розныя хворыя і папсаваныя часткі дрэўных і травяністых расьлін, напрыклад пакрытыя налётам, цьвільлю, плямамі, гузамі лісты, кветкі, сьцябло і г. д.

Пры такім матар‘яле апрача звычайных ведамасьцяй трэба адзначаць назоў расьліны, з якой узяты гэтыя хворыя органы (напр. лісьце), а таксама весткі аб пашыранасьці хваробы.

Сабраны матар‘ял таксама трэба накіроўваць у Інбелкульт, пры чым перасылка ў Інбелкульт не падлягае аплаце паштовымі маркамі.

Вось прыблізна тая, па сутнасьці лёгкая, даступная кожнаму працаўніку на ніве краязнаўства праца ў галіне ботанікі, якая часам можа даць і ўжо давала багатыя вынікі.



# Анкеты, праграмы і інструкцыі

## Статут . . . . . . Раённага Краязнаўчага Таварыства[1)]

### I. Агульныя палажэньні

1. . . . . . Краязнаўчае Таварыства мае на мэце аб'яднаньне ў межах . . . . . раёну асоб, якія навукова працуюць па краязнаўству, а так сама: навуковую апрацоўку зьвязаных з краязнаўствам пытаньняў, пашырэньне навуковых ведаў і зацікаўленасьці да краязнаўства сярод шырокіх колаў грамады.

2. Каб зьдзейсьніць свае заданьні, паказаныя ў п. 1, таварыства а) заслухвае і абгаварвае даклады на краязнаўчыя тэмы; б) організуе публічныя лекцыі, дыспуты і г. д.

Увага. Курсы вучэбнага характару таварыства можа адчыніць з дазваленьня належных органаў Наркамасьветы.

в) організуе нагляданьні, зьбіраньне колекцый і матар'ялаў, паездкі і экскурсіі; г) організуе лябораторыі, обсэрваторыі, дасьледчыя станцыі, наглядальныя пункты, музэі, пастаянныя і пэрыодычныя выстаўкі і г. д.; д) організуе бібліотэкі па сваёй спэцыяльнасьці; е) дае прэміі за дастаўленыя ў таварыства працы; ж) друкуе свае працы; з) наладжвае зьезды па сваёй спэцыяльнасьці і адчыняе філіяльныя аддзяленьні ў іншых пунктах.

Увага. Паказаныя ў п. 2 правы таварыства зьдзяйсьняюцца на падставе і ў межах адпаведных законапалажэньняў.

3. Таварыства мае сваю пячатку.

### II. Склад таварыства

4. Таварыства складаецца з членаў: правадзейных, ганаровых і супрацоўнікаў (корэспондэнтаў, прыхільнікаў).

5. Правадзейнымі членамі таварыства могуць быць усе асобы, якія працуюць па краязнаўству. Першымі правадзейнымі членамі зьяўляюцца організатары таварыства; новыя правадзейныя члены абіраюцца на агульных сходах таварыства.

6. Ганаровымі членамі таварыства могуць быць асобы, якія выявілі сябе сваімі краязнаўчымі працамі або маюць значныя заслугі перад таварыствам. Ганаровыя члены абіраюцца на агульных сходах т-ва і карыстаюцца ўсімі правамі правадзейных членаў.

7. Членамі-супрацоўнікамі (корэспондэнтамі, прыхільнікамі) могуць быць асобы, якія жадаюць дапамагаць таварыству ў яго працы. Члены-супрацоўнікі залічаюцца ў склад т-ва паводле пісаных заяў праўленьнем т-ва. На сходах т-ва яны карыстаюцца правам дарадчага голасу і ня могуць абірацца на службовыя пасады.

---

1) Кожнае раённае таварыства павінна, прыняўшы гэты статут, паслаць яго разам з сьпісам членаў т-ва ў Акруговы Выканаўчы Комітэт для рэгістрацыі.

8. Велічыня членскіх узносаў для правадзейных членаў і тэрмін іх выплаты вызначаюцца агульным сходам. Гэтаму сходу даецца права звальняць ад выплаты членскіх узносаў тых членаў, якія ня могуць заплаціць іх, або тых, якія зьяўляюцца актыўнымі працаўнікамі ў т-ве.

Увага. Лічыцца, што тыя члены, якія ня ўнеслі ў свой час вызначаных узносаў, выбылі з ліку членаў т-ва. Аднак яны могуць зноў увайсьці ў т-ва пасьля ўнясеньня належных узносаў бяз новага абраньня.

9. Сьпіс членаў т-ва ў 2 экзэмплярах дастаўляецца ў адпаведны орган Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў, у якім т-ва зарэгістравана.

10. Выключэньне з ліку членаў т-ва можа мець месца на падставе асабістай заявы члена, які просіць аб выключэньні, або на падставе пастановы 2/3 пастаяннага ліку членаў т-ва, прычым выключэньне ў апошнім выпадку можа быць выклікана ганебнымі для т-ва або крымінальнымі ўчынкамі з боку асобы, якая выключаецца.

## III. Сродкі таварыства

11. Сродкі т-ва складаюцца:

а) з субсыдый дзяржаўных і грамадзкіх установ;

б) з членскіх узносаў і ахвяраваньняў;

в) с прыбыткаў ад продажу выданьняў, збору за ўваход на лекцыі, выстаўкі, сходы і інш.

## IV. Сходы таварыства

12. Сходы т-ва склікаюцца праўленьнем таварыства с папярэднім паведамленьнем Раённага Выканаўчага Комітэту за тры дні да сходу і падзяляюцца на чарговыя і загадныя.

13. Сходы т-ва склікаюцца за дапамогай павестак і лічацца адбытымі—чарговыя—пры ўсякім ліку прысутных членаў, загадныя—пры прысутнасьці акрэсьленага кворуму, які адзначаецца праўленьнем у павестках.

14. Чарговыя сходы склікаюцца для заслуханьня і абгаварваньня навуковых дакладаў і пытаньняў, зьвязаных з бягучай дзейнасьцю т-ва, і зьяўляюцца адчыненымі.

15. Загадныя агульныя сходы склікаюцца ня менш аднаго разу ў год праўленьнем, а таксама па пастановах рэвізыйнай камісіі або паводле заявы ня меней 10 правадзейных членаў т-ва. У апошніх выпадках праўленьне абавязана склікаць сход у тыднёвы тэрмін.

16. Усе справы на сходах вырашаюцца галасаваньнем простай большасьцю прысутных правадзейных і ганаровых членаў т-ва, апрача пытаньняў аб выключэньні членаў т-ва і аб яго зачыненьні, для вырашэньня якіх патрэбна большасьць у 2/3 галасоў прысутных членаў. Перадача голасу не дапускаецца. Пры роўнасьці галасоў пытаньне лічыцца адхіленым.

17. Агульныя загадныя сходы:

а) выбіраюць старшыню т-ва, яго намесьніка, членаў праўленьня і іншых службовых асоб т-ва, членаў рэвізыйнай камісіі, а таксама ганаровых і правадзейных членаў;

б) зацьвярджаюць наказы для рэвізыйнай камісіі, службовых асоб і органаў т-ва;

в) разглядаюць і зацьвярджаюць проэкты, якія ўносяцца праз праўленьне т-ва;

г) організуюць філіяльныя аддзяленьні, сэкцыі і асобныя камісіі;

Увага. Конструкцыя аддзяленьняў т-ва падобна да конструкцыі т-ва. Адчыненьне аддзяленьняў падлягае дазваленьню ў паложаным для т-ва парадку;

д) выключаюць членаў т-ва;

е) вызначаюць велічыню членскіх узносаў;

ж) разглядаюць і зацьвярджаюць пастановы рэвізыйнай камісіі, справаздачы праўленьня аб дзейнасьці т-ва, проэкты адносна далейшае яго працы і проэктны коштарысаў;

з) абгаварваюць проэкты аб зьменах у агульным статуце.

Увага. Прынятыя т-вам зьмены ў статуце зацьвярджаюцца ў паложаным парадку;

і) абгаварваюць пытаньні аб зачыненьні т-ва.

## V. Праўленьне Таварыства

18. Праўленьне Т-ва зьяўляецца яго выканаўчым органам і складаецца з старшыні т-ва, яго намесьніка, скарбніка і членаў праўленьня, якія абіраюцца агульным сходам на 1 год і ў ліку, назначаным агульным сходам. Перавыбары членаў праўленьня могуць быць зроблены і раней тэрміну іх поўнамоцтва.

19. Аб складзе абранага праўленьня і аб усіх зьменах у ім паведамляецца належны орган Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў.

20 Праўленьне наглядае за выкананьнем пастаноў агульных сходаў і за правільнасьцю дзейнасьці т-ва, кіруе адміністрацыйна-фінансавымі і гаспадарчымі справамі і нясе ўсю адказнасьць за кірунак і вынікі працы т-ва.

21. Праўленьне т-ва, штогод робіць справаздачу перад агульным сходам т-ва аб дзейнасьці т-ва.

## VI. Ліквідацыя таварыства.

22. Таварыства можа быць зачынена як загадам урадавых органаў, гэтак і пастановай агульнага сходу т-ва.

23. У выпадку ліквідацыі т-ва згодна пастановы агульнага сходу праўленьне прадстаўляе аб гэтым мотываваны даклад Інбельульту і кіруецца яго ўказаньнямі.

24. Уся маёмасьць, што належала зачыненаму т-ву, паступае пад загад Народнага Камісарыяту Асьветы.

# Што рабіць раённым краязнаўчым таварыствам

Прымаючы пад увагу, што многія раённыя краязнаўчыя таварыствы і школьныя гурткі краязнаўства часам ня ведаюць, што яны павінны рабіць, з чаго пачынаць і па якому пляну весьці сваю працу, Цэнтральнае Бюро Краязнаўства лічыць патрэбным прапанаваць усім такім краязнаўчым організацыям паставіць сваім заданьнем у першую чаргу кароткае агульнае апісаньне свайго раёну. Узорам такога апісаньня можа быць апісаньне Нікольскай воласьці Раненбурскага павету Разанскай губ., зьмешчанае ў брошурцы: „Методические письма. Письмо второе. Наша волость. Москва 1924 г.“, выданай навукова-пэдагогічнай сэкцыяй „Гуса“. Аднак, нават для пачатковага агульнага апісаньня агляд прыроды роднага раёну там занадта кароткі. Кіраўнічыя ўказаньні аб спосабах вывучэньня роднага краю можа даць таксама брошурка Клетновой: „Изучение родного краю“, Феноменова і інш.

Лічачы, што гэтыя і падобныя да іх кніжкі не заўсёды бываюць пад рукой у раённых і школьных краязнаўчых організацыях, ЦБК прапануе пры пачатковым аглядзе роднага раёну трымацца прыблізна такога пляну.

Палажэньне і прастора раёну.

Паверхня. Ці многа ўзгоркаў? Апісаць іх схілы, звычайную і максімальную вышыню, разьмяшчэньне на тэрыторыі раёну. Ці няма якой правільнасьці ў гэтым разьмяшчэньні? Як завуцца і дзе знаходзяцца асабліва выдатныя горы і ўзгоркі, вядомыя мясцоваму насяленьню? Раўчакі, апісаньне іх. Абагаленьні, на якіх можна прасачыць, з якіх земных парод складаецца павярхоўны пласт земнай кары. Апісаньне іх. Ці ёсьць пячоры? Апісаньне іх. Ці многа ледавіковага каменьня? Ці зьбіраюць яго з палёў у крушні? У якой частцы раёну каменьня асабліва многа? Ці няма дзе асабліва выдатных камянёў? Велічыня найвялікшых камянёў. Апісаньне карысных выкапняў.

Гідрографія. Пералічыць па магчымасьці ўсе рэкі, рэчкі, ручаі, вазёры і балоты раёну. Даць як мага больш даных аб іх даўжыні, шырыні, глыбіні, аб прыгоднасьці рэк для сплаву, аб суднаходзтве, наагул аб значэньні, аб паводках, аб зьменах рэчышча, аб часе замярзаньня і ўзьніманьня, калі гэтыя даныя зьбіраліся і могуць лічыцца пэўнымі. Даныя аб крыніцах, легенды аб сьвятых крыніцах. Апавяданьні аб рэках, вазёрах і балотах.

Клімат. Сабраць і ўпарадкаваць усе нагляданьні за надвор'ем (погодой), праведзеныя школамі і прыватнымі асобамі. Дапоўніць іх новымі назіраньнямі. Прывесьці народныя прыметы на пагоду.

Расьліннасьць і глебы. Разьмяшчэньне на тэрыторыі раёну лесу, балот, лугоў, палёў. Падзел лесу паводле пераважнай пароды (сасновы бор, яловы, мяшаны, ліставы лес). Пароды галоўныя і падмешка, а па магчымасьці поўны склад расьліннасьці ў кожным тыпе лесу. Расьліннасьць на ўзьлесьсі і ў глыбіні лесу. Разьмяшчэньне тыпаў лесу на тэрыторыі раёну. Альхоўцы, высе-

чаныя лясы, зарасьнікі. Мурожныя, заліўныя і інш. сенажаці. Балоты імховыя (амшары) і травяныя. Апісаньне кожнага з іх. Штучныя насаджэньні і штучныя лясы, паркі і г. д. Па магчымасьці сабраць зельнік з кожнага расьліннага згуртаваньня. Прывесьці апавяданьні аб зьнішчаных лясох, асушаных балотах і г. д.

У сувязі з данымі аб разьмяшчэньні расьлінных згуртаваньняў прывесьці даныя аб пашырэньні глеб, галоўным чынам адзначыць, дзе пашыраны пяскі, суглінкі і гліны. Пры магчымасьці ўзяць маноліты глеб.

Апісаць карысныя і шкодныя расьліны, ядобныя і неядобныя грыбы, карэньне і травы, якія ядуць дзеці. Апісаць лекавыя і фарбоўныя расьліны, спосабы ўжытку іх, назначэньне. Для кожнай расьліны даць мясцовую назву і па магчымасьці навуковую (лацінскую). Калі ня можна даць лацінскай назвы, дык зазначыць, пад якім нумарам расьліну можна знайсьці ў сабраным зельніку (гэрбары).

Час зацьвітаньня, дасьпяваньня і зеляненьня галоўных расьлін паводле фэнолёгічнай анкеты. Апісаць выдатныя дрэвы, з якімі зьвязаны якія паданьні ці легенды, прывесьці гэтыя легенды.

Жывёльнасьць. Пералічыць па-магчымасьці ўсе мясцовыя жывёлы, якіх ведаюць на месцы. Адзначыць іх назвы мясцовыя і навуковыя. Якія жывёлы сустрачаюцца часта, якія рэдка? Калі прылятаюць з выраю і калі адлятаюць у вырай розныя птушкі (згодна фэнолёгічнай анкеты)? Карысныя і шкодныя жывёлы.

Архэолёгія і гісторыя. Апісаць усе помнікі старасьветчыны: курганы, гарадзішчы, старасьвецкія будынкі і руіны, старыя цэрквы і іх помнікі, касьцёлы, сінагогі, капліцы, панскія палацы, могілкі. Ахова іх. Сабраць ведамасьці аб усіх раскопках і іншых археолёгічных выведах, якія рабіліся ў межах раёну, аб выпадковых находках каменных і мэталёвых прылад і г. д. Сабраць усе легенды і паданьні, зьвязаныя з помнікамі старасьветчыны, апавяданьні старыкоў аб прыгоне, а таксама дакументальныя даныя аб старых панскіх фаміліях, якія ўладалі сялянамі ў межах раёну, народныя ўспаміны аб здарэньнях апошніх дзесяцілецьцяў. Біографіі мясцовых дзеячоў. Гісторыя рэволюцыйнага і нацыянальнага руху ў межах раёну.

Даныя аб сучасных насельніках. Лік насельнікаў паводле друкаваных і недрукаваных даных. Падзел насельнікаў паводле роду і веку. Даныя прымальных камісій аб росьце і абхваце грудзей новабранцаў. Даныя аб пашыраных хваробах і змаганьні з імі. Падзел насельнікаў паводле мовы, паводле рэлігіі (зьвярнуць увагу на лік асоб, якія лічаць сябе атэістымі і не належаць ні да якой царквы). Прырост і зьмяншэньне люднасьці. Эміграцыя і іміграцыя.

Быт кожнай з нацыянальных груп раёну. Адзеньне мужчын, жанчын і дзяцей, звычайнае і сьвяточнае. Мяшканьне. Плян і апісаньне тыповых хат, сядзіб. Плян і апісаньне паселішчаў (вёсак, хутароў і г. д.). Сьпіс паселішчаў з адзначэньнем кожнага асобнага хутару ў тых выпадках, калі якое паселішча падзялілася на хутары, і з указаньнем дакладнага палажэньня кожнага паселішча (за асобнае паселішча лічыць вёску, хутар або некалькі хутароў, не аддзеленых адзін ад другога незабудаванай прасторай). Апавяданьні аб кожным паселішчы. Апісаньне паселішчаў гарадзкога тыпу па асобнай праграме, (глядзі ніжэй). Яда. Улюбёныя стравы і пітво. Ці п'юць гарбату? Што пілі замест гарбаты, калі яе ня было? Спосабы гатаваньня піва, квасу,

брагі, самагонкі. Па магчымасьці апісаць дзень-у-дзень яду сярэдняй сялянскай сям'і з адзначэньнем сьвят, з паказаньнем рэцэптаў гатаваньня страў. Як і дзе сьпяць члены сям'і? Сямейныя адносіны. Гісторыя і радаводныя асобных сямей. Пашукаць і праглядзець пасямейныя сьпіскі ў сельсаветах. Утварэньне сям'і. Адносіны паміж маладымі людзьмі да вясельля і ў час вясельля. Склад сям'і. Сярэдняя, максімальная і звычайная па велічыні сям'я. Адносіны паміж мужам і жонкай, выпадкі разводу, палажэньне жанчыны; бацькі і дзеці. Выхаваньне дзяцей. Дзіцячыя гульні ды забавы. Дзіцячыя цацкі.

Грамадзкія адносіны. Ці ёсьць грамадзкае („общинное") землякарыстаньне? Грамадзкі выган, грамадзкія млыны, машыны і г. д. Наём і ўтрыманьне грамадзкіх пастухоў, старажоў, грамадзкае ўтрыманьне сірат. Апісаньне сельскіх сходаў, адносіны да раённай і акруговай улады. Адносіны да чужамоўных народаў і да чужаверцаў.

Абрады, звычаі, абрадавыя і бытавыя песьні, дапасаваныя да штогодніх сьвят (каляда, масьленіца, вялікдзень, купала і г. д., зажынкі, дажынкі і да таго падобн.), да асаблівых здарэньняў ў жыцьці чалавека (радзіны, хрэзьбіны, вясельле, пахаваньне). Народныя прыметы, прыказкі, казкі, апавяданьні. Новыя песьні і звычаі. Новы быт у вёсцы. Народныя пагляды і зьмены, якія ў іх адбываюцца ў апошнія часы. Народная мэдыцына. Звычаёвае права. Народныя танцы, музыка, музычныя прылады. Дудары, лірнікі, цымбалістыя і г. д.

Мова. Слоўнік мясцовых слоў і зваротаў, асабліва характэрных для раёну. Народная тэрмінолёгія па розных галінах веды.

Гаспадарка. Зямельная справа. Савецкія гаспадаркі, колькасьць зямлі ў іх. Сельска-гаспадарчыя комуны і арцелі, колькасьць зямлі ў іх. Колькасьць зямлі ў асабовым карыстаньні сялян. Сярэдняя забясьпечанасьць сялян зямлёй. Цераспалоснае, хутарское, атрубное землякарыстаньне. Сучаснае земляўпарадкаваньне. Пляны зямельных пляцоў асобных вяскоўцаў і хутаран. Бюджэт сялян заможных, сераднякоў і беднякоў, вяскоўцаў і хутаран. Бюджэты савецкіх гаспадарак. Разьмеры сельска-гаспадарчых падаткаў перад вайной, у час разьвёрсткі і цяпер. Працоўнае жыцьцё сялян, работы моладзі, дарослых і старых. Працоўны каляндар. Праца на працягу году. Сельска-гаспадарчыя прылады. Лік і апісаньне сох, плугоў, барон новых і старых і г. д. Апісаць і зарысаваць спосабы запражкі. Спосабы земляробства. Калі адбыўся пераход ад трохпалёўкі да чатырохпалёўкі, дык даць гісторыю гэтага пераходу. Падзел зямлі па ўжыткоўнасьцях (по угодиям). Галоўныя палявыя расьліны. Ураджайнасьць з дзесяціны кожнай з іх. Агульныя зборы. Сады і гароды. Сенажаці. Збор сена з дзесяціны. Агульныя зборы сена. Паша і выган. Гадоўля жывёлы. Колькасьць жывёлы. Забясьпечанасьць сялянства жывёлай. Зьмены ў ліку жывёлы за апошнія гады. Пароды жывёлы. Злучныя пункты. Дагляд за жывёлай. Малочная коопэрацыя.

Рыбацтва, паляваньне. Лясныя промыслы. Возьніцкі і адходны промыслы.

Землякапальныя промыслы.

Рамествы, хатняя, саматужная („кустарная") і фабрычная прамысловасьць. Па якіх вёсках асабліва пашыраны якія промыслы? Лік асоб, занятых кожным асобным промыслам. Апісаць процэсы апрацоўкі лёну, воўны, дрэва, гліын і г. д. Прылады гэтай апрацоўкі. Зары-

соўка іх з адзначэньнем назоваў паасобных частак. Фабрыкі, іх апісаньне, продукцыя, лік работнікаў. Быт работнікаў. Як адбіваецца суседзтва фабрык на быце ваколічных сялян?

Гандаль. Гандлёвыя асяродкі раёну (адзначыць пункты, дзе прадаюць і купляюць тавары сяляне кожнай вёскі). Лік гандляроў у кожным паселішчы. Апісаньне крам. Коопэрацыя.

Дарогі.

Пошта і тэлеграф.

Школы і пазашкольная асьвета. Дзіцячы рух. КСМ. Селькоры.

Мясцовыя савецкія ўстановы. Іх дзейнасьць. Адносіны да іх мас і г. д.

Увага. Апісваючы той ці іншы об'ект, трэба дакладна адзначыць палажэньне яго, прывесьці ўсе народныя паданьні, байкі, легенды, зьвязаныя з ім; абавязкова даваць мясцовую назву яго. Запісваючы песьню, казку, загавор, прыказку, адзначаючы тую ці іншую зьяву, трэба зазначыць,—калі, дзе і ад каго аб гэтай зьяве даведаліся, калі, дзе і ад каго апавяданьне ці песьня запісаны. Таксама пры кожным экспонаце для музэю або для колекцыі (напрыклад, пры кожнай засушанай расьліне, пры узорах тканіны, глебы, карысных выкапняў, пры рысунках) павінен быць ярлычок з надпісам, калі, дзе і пры якіх умовах гэтая рэч здабыта і як на месцы называецца.

---

Пажадана, каб кожны член раённага краязнаўчага таварыства ўзяў на сябе абавязак скласьці апісаньне пэўнага кутка свайго раёну. Пры гэтым няма патрэбы старацца абавязкова адразу выканаць ўсю праграму апісаньня. Трэба помніць, што нават адна запісаная песьня ці казка ёсць ужо каштоўны ўклад, калі пры ёй ёсьць даныя, дзе, ад каго, калі і кім яна запісана.

Таксама ўжо агульны агляд таго ці іншага кутка раёну будзе моцным падмуркам для далейшай краязнаўчай працы ў гэтым кутку.

---

# Праграма-інструкцыя

## для зьбіральнікаў беларускай музычна-этнографічнай творчасьці

*(Апрацована сэкрэтаром Песеннай Камісіі ІБК А. Грыневічам).*

1. Кожны музыка, які захоча запісваць мэлёды народных песень павінен азнаёміцца з гісторыяй і этнографіяй народу, прачытаць друкаваныя зборнікі вуснай і музычнай яго творчасьці і зазначыць з іх асаблівасьці мовы таго раёну, у якім будзе вясьці працу. Пры гэтым карысна будзе таксама выпісаць са зборнікаў найбольш тыповыя па зьместу песенныя вершы і распытацца пра іх у часе працы, каб дапісаць да іх музыку, а ў некаторых выпадках і дадаць новы варыянт вершу, ведаючы, што для навукі вельмі пажадана мець як варыянты аднаго і таго самага мотыву ў розных адменах—з розных куткоў Беларусі, так і варыянты адных і тых самых па зьместу песенных вершаў.

*Літаратура.* Гісторыя Беларусі—У. Ігнатоўскага, географія—А. Смоліча, асаблівасьці мовы—Карскі (II том, і „Программа для собиранія особенностей белорусского наречия") ; вусная і музычная творчасьць: З. Радчанка, Шэйн, Раманаў, і. Сербаў, А. Грыневіч, У. Тэраўскі; адна вусная творчасьць: Насовіч, Федароўскі, Дабравольскі, Нікіфароўскі, Дамбавецкі, Малевіч, Розэнфэльд.

2. Прыехаўшы ў незнаёмы раён, перш за ўсё трэба завязаць сувязь з мясцовым сялянствам праз вядомую і паважаную тут асобу, каб дабіцца ў ім давер'я да сябе. Пры гэтым трэба мець на ўвазе адарваны ад працы час сьпявачак (—каў) так ці інакш аплаціць.

3. За плян працы лепш за ўсё ўзяць гадавы круг абрадных песень і дадаць да іх бытавыя і іншыя песьні:

а) *Калядныя песьні* (песьні на Раство, на Новы Год, на Васіля, батлейкі, шчадроўкі і калядкі і песьні пры розных калядных гульнях, напрыклад: Каза, Яшчур і інш);

б) *Песьні на масьленку;*

в) *Веснавыя песьні* (у вялікі пост, замыканьне зімы, адмыканьне вясны, саракі, вясьнянкі, кліч вясны, вялікодныя, валачобныя, юраўскія, мікольскія);

г) *Русальныя песьні* (куставыя, граныя, траецкія, духаўскія, песьні на „Зялёныя Сьвяткі");

д) *Купальскія і пятроўскія* песьні (Ярыловіца, песьні на Ярылу, на „Пятра і Паўла", кумаўскія і г. д.);

е) *Жніўныя абрадныя песьні* (зажыначныя, на постаці, дажынковыя, ярныя, спарышовыя, жніўная талака);

з) *Песьні спасаўскія, пакроўскія і наагул восенскія;*

ж) *Хрэсьбінскія песьні;*

і) *Вясельныя песьні* (заручыны, сугляды, шлюб-вянец, пасад, наезд на „сьцёў двор" (тсьцёў, цесьця), каравай, першая ноч, вечарніцы);

к) *Хаўтурныя галашэньні* (Радаўніца, памінкі, пахаваньне, траецкая субота);

л) *Бытавыя песьні* (калыханкі, любоўныя, пра сямейнае жыцьцё, бяседныя, вайсковыя, арыштанскія, разбойніцкія, прыгонныя, чумацкія, казацкія, гістарычныя і гістарычна-бытавыя, рэволюцыйна-політычныя, ігрышчныя, скочныя; песьні прыроды і працы: калі поляць, косяць, жнуць, прадуць, ткуць; песьні канюшкоў і пастушкоў і г. д.);

м) *Прыпеўкі* і

н) *Духоўныя песьні—вершы* (аб скончэньні сьвету, аб страшным судзе, аб Лазары, аб Ляксеі, плач Адама, аб „Пятніцы“, вершы з жыцьця Хрыста, песьні на прошчу, памінаньні за памёрлага, песьні на „сьвячу“ і г. д.).

Апрача таго, маючы на ўвазе адсутнасьць сьпеўных матар'ялаў для школы, а таксама запісаў народнай інструмэнтальнай музыкі, трэба распытацца і запісаць мэлёдыі дзіцячых і былінных песень і прыпеўкі да гульняў, танцаў і карагодаў, даючы, калі можна, падрабязныя апісаньні як танцаў і гульняў, так і карагодаў.

Аб танцах найлепш распытвацца ў дудароў і старых баб, памятаючы пры гэтым, што адзін і той-жа танец часта называюць некалькімі назовамі (назовамі розных прыпевак да гэтага танца), напрыклад „*Крыжык*“—„Паўлючком“, „Антошкай; „*Лявоніху*“—„Крутухай“, „Круцёлкай“, „Падарожнай“; „*Казу*“—„Жабкай“, „Казлом“ і г. д.

Сярод гульневых і карагодных танцаў сустракаюцца яшчэ такія назовы: Юрка, Мяцеліца, Бычок, Барыня, Качан, Мельнік, Мікіта, Гусак, Гневаш, Таўкачыкі, Паненка, Трасуха, Верабей, Шавец, Журавель, Тацянка, Шастак, Кручок, Цыганка, Саколіца, Пыха, Зязюлька, Падушачка, Жучок, Зайчык, Чорт, Пчолачка, Яшчур, Чумадра і г. д.

Увага 1. На даўнейшыя беларускія танцы трэба звараччаць асаблівую ўвагу, бо большасьць іх, на вялікі жаль, зусім ужо зьнікла, і трэба ратаваць тое, што засталося. Дзеля гэтага, калі хто знойдзе дзе стары танец і дакладна яго апіша, будзе мець вельмі вялікую заслугу ў беларускай народнай хорэографіі.

Увага 2. Запісваць трэба песьні ня толькі аднаго беларускага народу, але, калі пападзецца, дык і другіх нацыянальнасьцяй, як напрыклад: украінскія, маскоўскія, яўрэйскія, польскія, татарскія і г. д.

Увага 3. Вельмі пажадана запісваць і ўсе беларускія скорагаворкі, хоць яны і не ўваходзяць у праграму музычнай этнографіі.

4. Сьпявачак і сьпявакаў лепш выбіраць з даўнейшых ахвотнікаў сьпеву (як багатых на запас песень), з добрым слухам і чыстым ясным голасам, выключна няпісьменных, якія ня былі ў гарадох ці прамысловых асяродках.

5. Вылічваць і запісваць дакладнае трываньне нот і маўчанак у мотывах і паказваць маўчанкі паміж канцамі і пачаткамі сьпеву строфак.

6. Асобныя ноты, якія ў сьпеве няпрыметна скарочваюцца або здаўжаюцца проці таго, як было магчыма іх запісаць, неабходна азначыць так: здаўжэньне лучком уніз „⌒“, а скарачэньне лучком угару „‿“. Таксама трэба карыстацца асаблівымі знакамі, калі вышыню якога-колечы гуку нельга запісаць дакладна. Напрыклад, калі будзе сьпявацца сярэдні гук паміж „мі“ і „мі—бэмоль“, дык над нотай „мі“ трэба паставіць такі знак „/“, або над нотай „мі—бэмоль“ такі „\“.

7. Можа здарыцца, што сьпявальнік (—іца) часам адну і тую самую строфку перапявае два-тры разы з прыбаўкай не аднальковых прыкрас (фіорэтурак), а ўсё розных, суб'ектыўных, дык ува ўсіх выпадках раіцца адну прыкрасу адзначыць дробнымі ноткамі, а другія выпісаць над нотамі асобна.

8. Падпісаць пад нотамі тэкст першай і, калі ёсьць, другой і трэцяй строфкі песьні, паставіць націскі (ударэньні) у словах і разьдзяліць або зьвязаць лучком ноты там, дзе вымагае гэтага разьмер вершу. Але калі трапляецца верш, які зьмяняе разьмер аднаго або некалькіх тактаў, дык да такого вершу трэба дапісаць асобна ноты.

9. Усе характэрныя адценьні выкананьня таксама павінны быць адзначаны або агавораны напрыклад: іканьне на канцы апошняга гуку, або портамэнто ўніз на кварту (заводжаньне). Гэтыя і іншыя заўважаныя адзнакі трэба запісаць, паясьніўшы іх дадаткова яшчэ і тымі словамі, якімі назаве сам сьпявака.

10. Калі пры паўторы мэлёдыі сьпявака (—вачка) часам возьме тэрцыю ці кварту вышэй або ніжэй запісанай ноты, гэта можа быць знакам, што песьня ім сьпявалася ў хоры. У такім выпадку трэба азначыць абедзьве ноты адна пад аднэй і пастарацца выясьніць ці ад самога сьпявальніка, ці ад іншых асоб, якая з дзьвёх запісаных нот належыць да мэлёдыі, а якая да ўтуру, і ноту, якая не належыць да мотыву, азначыць у дужках. Пры гэтым пастарацца розныя галасы такой харавой песьні запісаць у той час, калі яна пяецца хорам.

11. Маючы на ўвазе ахвотнікаў да музычна-этнографічнай працы мала яшчэ напрактыкаваных, якіх запісы могуць быць таксама вельмі каштоўны для навукі, раіцца ім больш скомплікованыя мэлёдыі лепш не дзяліць на тахты так, як гэта робяць часта этнографы нават з практыкай.

12, Тэксты песень запісваць не з пераказу, а з сьпеву. У выпадку, калі тэкст запісан з пераказу, трэба абавязкова праверыць яго па сьпеву і па ім паправіць запіс, не прапускаючы ніводнага нават узгалосу, як напр.: „ой", „гэй", „а", „ох" і г. д.

13. Калі сустракаюцца словы незразумелыя або бяз сэнсу, дык запісваць іх так, як вымаўляе сьпявака (—чка). Але абавязкова запытаць самога сьпявальніка (—іцу) пра іх значэньне і паясьніць асобна. Калі-ж паясьненьне ўсё-ткі не задавальняе, трэба па магчымасьці дабівацца разьясьненьня ў другіх сьпявакаў (—чак) тэй мясцовасьці.

14. Усе фонэтычныя адзнакі мовы павінны запісвацца так, як чуюцца, а для знаку, што на іх была зьвернута ўвага,—і падкрэсьлівацца, напрыклад: бра́**ц**ейка, брат**э**, к**а̀**жны, к**о̀**л**і**ды, кал**я**ды, мі́не́, ўд**э**рыў, сху**в**а́ў, п**ыйш**оў, **йі**хні, **і**зруб, **ці**ц**е**рук, каз**оў**, з**оў**тра, зай**ці**, зай**йсьці**, сьп**è**к**ці**, сьп**ячы**, баюс**а**, ўзяўс**а**, хо́дз**юць**, ходз**я**, хо́дзі**ць**, то́ч**уць**, ґузік, во**цы** і г. д.

15. Неабходна зварачваць увагу і на самы верш песьні. Калі верш гэты бяз сэнсу і, відаць, няпоўны, дык старацца на месцы запісаць яго варыянты ад другіх сьпявакаў. Як дзеля гэтага, так дзеля выкананьня вымог 10-га, 13-га і іншых пунктаў праграмы пажадана, каб у часе сьпісваньня песень прысутнічала яшчэ адна, а найлепш дзьве, або і больш сьпявачак (—каў), якія апрача сказанага, дапамагалі-б яшчэ ўспамінаць даўнейшыя песьні.

16. Запісы песень рабіць па-магчымасьці выразна, на адным баку паперы, надпісываючы ўгары: калі песьня пяецца (час году), або пры якіх абставінах, і як па народнаму яе завуць, пры гэтым дадаць:

а) дзе песьня запісана (вёска, сельсавет, раён, акруга)?

б) ад каго (імя ўласнае, імя бацькі і прозьвішча)?

в) колькі сьпеваку гадоў?

г) якую мае асьвету?

д) якой нацыянальнасьці?

е) дзе радзіўся (вёска, сельсавет, раён, акруга)?

ж) чым займаецца?

з) ці ня жыў у горадзе або ў прамысловых асяродках і колькі часу? і

і) ад каго навучыўся сьпяваць запісаныя песьні?

17. Да запісаных песень этнограф павінен яшчэ дадаць адказы на наступныя пытаньні:

а) ў якім часе і дзе запісаны песьні?

б) прыблізнае аддаленьне гэтага месца ад гораду, чыгункі, прамысловага асяродка;

в) у якой мясцовасьці, паводле слоў тутэйшых людзей, водзяцца яшчэ старыя народныя песьні, гульні, карагоды, танцы (выпісаць назовы танцаў, карагодаў, гульняў);

г) адрэсы вядомых на месцы дудароў, старых вясельных скрыпачоў, лірнікаў, танцораў, выдатных сьпявакаў (—чак), паказваючы кожнаму гады его веку;

д) калі хто з пералічаных музыкаў на месцы, або блізка, дык апісаць, як ён грае, ці добры мае голас і слух, і які тонаход ў яго музычнай прыладзе;

е) адрэсы мясцовых музыкаў, якія запісвалі, або маглі-б запісваць нар. мэлёдыі, і

ж) якія даўней ўжываліся да ігры муз. народныя прылады (апісаць па апавяданьню) і ці не захавалася якая-колечы з іх і ў каго? Апрача таго, калі ёсьць фотогр. апарат, сфатаграфаць сьпявальнікаў, музыкаў і вёску.

Пажадана, каб сабраныя сьпеўныя матар'ялы прысылаліся па адрэсу: Менск, Рэволюцыйная вул. № 21. Інстытут Беларускай Культуры.

Усялякія лісты і пасылкі па азначанаму адрэсу перасылаюцца поштай бясплатна, як навуковая каштоўнасьць, на аснове пастановы СНК СССР 2-га IX 1924 г. і 26 XII 1924 цырк. НКП і Т. 16 IX 1924 году № 34/868 абвешчан. у бюл. № 37.

# Інструкцыя

## да зьбіраньня народнага слоўніка тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове

*(Апрацавана Камісіяй ІБК па ўкладаньню слоўніка жывой беларускай мовы)*

Інстытутам Беларускае Культуры ў Менску організавана сталая Камісія па ўкладаньню слоўніка жывой беларускай мовы.

У задачы Камісіі ўваходзіць сабраць па магчымасьці ўсе словы, якія ўжываюцца ў сучаснай беларускай, як літаратурнай, так і народнай мове на ўсей тэрыторыі этнографічнай Беларусі.

Надаючы надзвычайна важнае значэньне народнай мове, Камісія галоўнай сваей задачай ставіць выкарыстаньне для слоўніка поўнасьцю крыніцы народнай мовы.

Аднак, гэту сваю задачу Камісія зможа выпаўніць толькі тады, калі ўсё беларускае грамадзянства, якое шчыра жадае разьвіцьця беларускай навукі й культуры, прыме актыўны ўдзел у яе працы. Только супольнымі сіламі шырокіх колаў беларускага грамадзянства можна выканаць гэтую надзвычайна важную і канечна патрэбную працу—улажыць поўны слоўнік беларускай мовы і ўтварыць агульна-беларускую літаратурную мову, зразумелую кожнаму беларусу.

Дзеля гэтага Камісія зварачаецца да Вас з просьбай не адмовіцца прыняць актыўны ўдзел у яе працы па ўкладаньньню слоўніка жывой беларускай мовы і мае надзею, што Вы прымеце гэты ўдзел. Няхай кожнае слова, што ўжываецца ў вашай мясцовасьці, хаця бы й невядомае ў іншых дыялектах беларускай мовы, знойдзе сабе месца на старонках белорускага слоўніка.

Запісаць пажадана ўсе словы, якія ўжываюцца ў вашай мясцовасьці. Аднак, паколькі для некаторых асоб немагчыма будзе гэта зрабіць, то пажадана, каб былі запісаны найбольш характэрныя беларускія словы, што ўжываюцца ў вашай мясцовасьці, асабліва-ж тыя, якія адрозьніваюцца ад слоў *расійскай* ці *польскай* мовы па вымове, або па значэньню.

Ніжэй зьмяшчаюцца пытаньні, якія могуць дапамагчы зьбіраньню слоўнікавага матар'ялу. Але само сабой зразумела, што ў кароткай праграме нельга ахапіць усяго жыцьця прыроды і інтарэсаў чалавека. На пытаньні трэба глядзець толькі, як на накіравальныя й дапаможныя пры зьбіраньні беларускіх слоў. Кожны зьбіральнік слоўнікавага матар'ялу сам можа выбраць тую ці іншую галіну заняткаў чалавека ці зьяў прыроды, якая яму найбольш знаёма, і дакладна яе дасьледваць.

Запісваць трэба ня толькі словы-назвы, але й прыметнікі, дзеясловы і інш. Напр., трэба запісаць ня толькі назву „маруда“, але і „марудзіць“, „марудны“, „марудна“ (на асобных картках з прыкладамі).

Дзеля гэтага ў праграме даюцца пытаньні ня толькі аб іменьніках, але і аб прыметніках, дзеясловах ды іншых часьцінах мовы. Аднак, аса-

бліва да прыметнікаў і дзеясловаў, з прычыны немагчымасьці даць у кароткай програме іх дакладную клясыфікацыю, трэба падкрэсьліць накіравальны характар пытаньняў.

Маючы сваім заданьнем як мага больш поўную рэгістрацыю слоўнікавага багацьця беларускае мовы, Камісія просіць Вас запісваць:

*А. Назвы й тэрміны, якія азначаюць розныя зьявы, прадметы і процэсы ў жыцьці прыроды і чалавека.*

1. Назвы нябесных сьвяціл і зьяў, якія знаходзяцца ў сувязі з іх чыннасьцю (назвы зорак, сузор'яў, комэт; зацьмы сонца й месяца і г. д.).

2. Назвы розных зьяў у паветры. Назвы станаў паветра. Назвы азначэньняў цяпла й холаду, пагоды й нягоды. Назвы хмар, дажджоў, сьнягоў і г. д.

3. Назвы фізычных процэсаў у прыродзе. Назвы процэсаў, якія адбываюцца пры награваньні і астуджваньні, пад уплывам ціску й расьцягваньня і г. д. Назвы хэмічных процэсаў (гніцьцё, розныя фэрмэнтацыі і г. д.).

4) Назвы форм земнай паверхні й процэсаў, якія адбываюцца ў сувязі з яе зьменай (шчыліны, апоўзкі земнай паверхні і г. д.). Назвы далін, гор, узгоркаў, лагчын, яроў. Назвы наземных (рэчка, багна, возера) і падземных (крыніца) вод. Назвы берагоў, астравоў, заток і інш.

5. Назвы розных земных парод і пластоў, іх формы й пабудовы. Назвы мінэралаў і мэталаў. Назвы розных капальняў і рудняў. Назвы розных скамянеласьцяй.

6. Назвы розных расьлін (дрэвы, травы, кветкі, ягады, грыбы). Назвы часьцін расьліны (ліст, корань, насеньне, кара́ і г. д.). Назвы зьяў з жыцьця расьлін (красаваньне, выплываньне і г. д.).

7. Назвы розных жывёл (зьвяры, хатнія жывёлы, птушкі, рыбы, га́ды, казяўкі і інш.). Назвы часьцін цела жывёл (морда, сківіца, вантробы, хвост, кіпці і г. д.).

8. Назвы часьцін цела чалавека й процэсаў, што адбываюцца ў розных органах (мазгі, тулава, вока; дыханьне, страваваньне; псыхічныя процэсы і г. д.).

9. Назвы, якімі азначаюцца асаблівасьці фізычнага тыпу чалавека, напр., самыя розныя віды калецтва.

10. Назвы розных нацыянальнясьцяй, а таксама пляменных і мясцовых груп (цыганы, маскаль, лях, мазур, пінчук, вілянчук і г. д.).

11. Назвы хаты і іншых відаў будоўлі (стадола, восець, сьвіран і г. д.). Назвы складаных часьцін будоўлі (страха, шчыт, балька і г. д.).

12. Назвы хатніх прыналежнасьцяй. Назвы мэблі ды прылад для ежы, адпачынку, мыцьця і г. д.).

13. Назвы адзежы і абутку. Назвы матэрыяў самаробных і купленых.

14. Назвы розных напояў і страў.

15. Назвы рамесстваў і тэхнічных вырабаў. Назвы струмэнтаў, рэчаў і спосабаў вырабу (кросны, ступа, млын; алейніцтва, гутніцтва і г. д.).

16. Назвы земляробскіх работ, прылад і машын. Назвы спосабаў вырабу зямлі й сыстэм земляробства.

17. Назвы, якія ўжываюцца пры паляваньні і рыбным лове. Назвы прылад (пастка, таптуха, венцер, вуда і г. д.) і спосабаў паляўніцтва (аблава, засада і г. д.).

18. Назвы заняткаў, зьвязаных з гадоўляй жывёлы (малачарства, сьвінарства, пчалярства, канавальства і г. д.).

19. Назвы, што ўжываюцца ў лясной гаспадарцы.

20. Назвы прылад і матар'ялаў асьвятленьня і апалу.

21. Назвы, датычныя да вайны. Назвы відаў зброі (стрэльба, кулямёт і г. д.). Назвы аддзелаў войска і вайсковых пасад.

22. Назвы, якімі азначаюцца шляхі зносін—сухаземныя і морскія. Назвы спосабаў і прылад язды, плаваньня і г. д.

23. Назвы, якія ўжываюцца пры абмене й гандлі. Назвы месц гандлю (кірмаш, рынак, крама і г. д.). Назвы відаў гандлярства. Адзінкі мер. Назвы монэт.

24. Назвы для азначэньня паселішчаў (горад, вёска, і г. д.). Назвы відаў вуліцы, пляцоў і г. д.

25. Назвы сьвят. Назвы рэчаў забабонаў і культу (шаптуха, залом, абраз, капліца, прошча і г. д.). Назвы, якія ўжываюцца для азначэньня помнікаў мінуўшчыны (курган, замчышча і г. д.).

26. Назвы, якія ўжываюцца пры вясельлі. Назвы вясельных абрадаў ды рэчаў. Назвы асоб, датычных да вясельля.

27. Назвы рэчаў ды абрадаў, якія ўжываюцца пры радзінах і хрэсьбінах.

28. Назвы, якія ўжываюцца пры пахаваньні. Назвы відаў сьмерці. Могілкі.

29. Назвы сваяцтва і сяброўства.

30. Назвы розных профэсій і заняткаў. Назвы ўлады і службовых асоб. Назвы грамадзянскіх станаў (селянін, пан і г. д.).

31. Назвы юрыдычных паняцьцяў (спадчына, злачынства, забойства крадзеж, вязень і г. д.).

32. Назвы рэчаў да гадаваньня й выхаваньня. Калыскі. Гульні ды цацкі. Назвы, што ўжываюцца да школы і асьветных устаноў.

33. Назвы, датычныя да мэдыцыны й знахарства. Назвы хвароб і лекаў людзей і жывёлін.

34. Назвы году ды месяцаў. Назвы, якімі азначаецца падзел сутак.

35. Назвы, датычныя да вуснае народнае творчасьці, літаратуры й мастацтва (драўлянае разьбярства, вышыўкі й тканіна, кераміка, музыка ды сьпевы, танцы ды гульні).

*Б. Іменныя прыметнікі.*

а) Прыметнікі, створаныя ад пералічаных у папярэдняй часьці праграмы назваў (напр. сонечны, рэчны, насенны і г. д.).

б) Прыметнікі, якія азначаюць пэўныя якасьці і ўласьцівасьці прадметаў (напр., брыдкі, благі, добры). Прыметнікі, якія ўжываюцца для азначэньня колераў (блакітны, чырвоны, бурачковы) і г. д.

в) Прыметнікі, якія ўжываюцца для азначэньня прасторавых адносін, адносін сваяцтва, прыязьні і г. д. (напр., блізкі, далёкі, родны, чужы і г. д.).

г) Створаныя ад такіх прыметнікаў прыслоўі.

*В. Дзеясловы закончанага і незакончанага трываньня і створаныя ад іх дзеяпрыметнікі і дзеяпрыслоўі.*

1. Дзеясловы, якія азначаюць чыннасьць розных прадметаў і зьяў прыроды, паказаных у разьдзеле *А* „Інструкцыі".

2. Дзеясловы, якія азначаюць фізычныя й псыхічныя процэсы і дзеі людзей і жывёл (напр., хадзіць, дыхаць, мысьліць, крычаць, есьці і г. д.).

3. Дзеясловы, якія азначаюць зьмены ў стане прадметаў жывой і няжывой прыроды (напр., бальшэць, расьці, хварэць і г. д.).

4. Дзеясловы, якімі азначаюцца ўзаемаадносіны паміж людзьмі (напр., сябраваць, змагацца, кахацца, падлягаць і г. д.).

5. Дзеясловы безасабовага значэньня (напр., днее, сьвітае і г. д.).

*Г. Лічэбнікі й займеньнікі,* калі яны з фонэтычнага або морфолёгічнага боку адрозьніваюцца ад прынятых у літаратурнай мове. Лічэбныя прыслоўі (напр., двойчы, тройчы і г. д.).

*Д. Прыйменьнікі* ў розных значэньнях з паказаньнем склону, якім яны кіруюць.

*Е. Злучнікі* ў розных значэньнях.

*Ж. Выклічнікі,* якія ўжываюцца для выразу страху, гневу, радасьці, смутку, зьдзіўленьня і інш., а таксама гукапераймальныя словы (напр., „ваў", „гам", „бім-бом" і г. д.).

3. *Спэцыяльныя выразы ды звароты,* уласьцівыя беларускай мове (напр. „дыхту даць", „ушчаміць хвост", „уткнуць язык", „кудою" і г. д.).

І. Рознага роду *лаянкі, прывітаньні, пажаданьні* і г. д. (як пасобныя словы, так і звароты).

*К. Чужаземныя словы,* паколькі яны адбілі на сабе ўплыў з боку беларускай мовы (напр. „дакляраваць", „камуністыя" і г. д.).

Л. Наагул чужаземныя словы, якія знаходзяць сабе ўжываньне ў вуснах простага народу.

М. Асабліва выпісваюцца: а) *уласныя іменьні* людзей (поўныя й зьмяншальныя ў ласкальным і зьневажальным сэнсе) і б) *мянушкі* жывёл і людзей.

Сабраныя словы належыць заносіць на карткі у 1/16 долю аркуша звычайнай паперы (гл. узор), запісваючы на кожную картку адно слова у пэўным яго значэньні, а ўласныя іменьні (бяз прыкладаў) запісваць на асаблівых аркушах у альфабэтным парадку.

На картцы належыць запісваць:

а) Азначанае беларускае слова,—з знакам націску, падчыркнутае рыскай ( у верхнім левым рагу карткі).

б) Дакладны пераклад гэтага слова ў расійскую ці польскую мову або, калі слова запішчык зусім ня можа перакласьці, яго тлумачэньне ў беларускай жа мове (у левым баку карткі пад беларускім словам).

в) Прыклад—фразу, дзе сустракаецца запісанае на картцы беларускае слова (у сярэдзіне карткі).

г) Месца запісу (горад, мястэчка, вёска і раён або павет і прозьвішча запішчыка (у нізе карткі).

Словы й прыклады запісваюца на слух, як яны вымаўляюцца ў вуснах народу.

Да слоў, якія азначаюць назвы расьлін, жывёл і хвароб, калі гэта магчыма для запішчыка, добра дадаваць адпаведныя лацінскія назвы, побач з перакладам у расійскую або польскую мову (ставячы гэтыя назвы ў дужках у адным радку з перакладам у расійскую або польскую мову).

Пажадана таксама, каб да картак дадаваліся засушаныя расьліны, узоры каменьняў, анатомічныя табліцы, фотографічныя зьнімкі й іншыя матар'ялы, якія маглі бы навочна выявіць значэньне пэўнага слова.

Раіцца пры запісваньні слоў кіравацца гаворкай карэнных насельнікаў Вашай мясцовасьці, пераважна тых, якія не выяжджалі за межы Беларусі й не адчулі на сабе ўплыву з боку расійскай ці польскай культуры ў школе або на службе (напр. вайсковай). Значную цікаўнасьць выяўляе мова старых людзей і няпісьменных жанчын. У выпадку запісу асабліва рэдкіх слоў можна адзначаць узрост асобы, з слоў якой зроблены запіс, прыпісваючы на картцы: „чуў ад . . . гадоў“.

Па меры таго, як будзе набірацца слоўнікавы матар'ял, яго належыць накіроўваць на адрэс Камісіі—г. Менск, Рэвалюцыйная вул. д. 21, Інбелкульт, Камісія па ўкладаньню слоўніка жывой беларускай мовы.

Аканчальна ўвесь слоўнікавы матар'ял, колькі ў каго будзе сабрана, належыць накіраваць у Камісію не пазьней 1 студзеня 1927 г.

Асобам, якія даставяць найлепшыя слоўнікавыя матар'ялы, будуць выдадзены прэміі.

Тым асобам, якія зацікавяцца слоўнікавай працай ІБК, Камісія раіць пазнаёміцца з артыкулам С. М. Некрашэвіча „Да пытаньня аб укладаньні слоўніка жывой беларускай мовы“ (журнал „Полымя“ № 5 за 1925 год.).

На ўсе запытаньні, накіраваныя да Камісіі, будуць дадзены безадкладна адказы.

Корэспондэнцыя, накіраваная на імя Інстытуту Беларускае Культуры, аслабаняецца ад паштовай аплаты.

Узор карткі

**Зы́рка**

*пламенно, ярко*

*Дровы зырка гараць у печы.*

*В. Майсееўка Парыцк. р. Бабр. а. (Р. М. Шакун).*

# Мінімальная праграма фэнолёгічныхназіраньняў

*(Паводле праграмы, апроцаванай асаблівай камісіяй пры Расійскім Таварыстве Аматараў Сьветазнаўства)*

## ВЯСНА

1. Час апошняга выпаданьня сьнегу.
   Час зьніканьня сьнегавога насьцілу.
2. Час узьніманьня рэк, вазёр, сажалак.
3. Калі зьявіўся грак (*Trypanocorax frugilegus*)?
4. Калі зьявіліся шпакі (скворцы)?
5. Калі першы раз засьпявала жаўранка (*Alauda arvensis L*)?
6. Калі зьявіліся сьвістункі (сусьлікі або аўражкі)?
7. Калі прыляцелі сітаўкі (*Motacilla alba L*)?
8. Першая песьня юрка-берасьцянкі (зяблік, *Fringilla coelebs L*).
9. Калі праляцелі першыя статкі жураўлёў і гусей і калі праляцелі галоўныя масы гэтых птушак?
10. Калі зьявіліся камары-таўкачыкі і кусакі?
11. Рух бярозавага соку.
12. Калі зацьвіла шэрая вольха (*Alnus incana Much*)?
13. Калі зацьвіла (каткі пыляць) ляшчына (*Corylus avellana L*)?
14. Калі зацьвілі першыя веснавыя краскі: курасьлеп (*Anemone nemorosa L*), пралеска (*Hepatica triloba Chaix*), падбел звычайны (*Tussilago Farfara L*), (адзначыць час дасьпяваньня яе пладоў—лятучак), лотаць (*Caltha palustris L*)?
15. Першая навальніца.
16. Час зеляненьня чарэмхі какалушы і бярозы.
17. Першы вылет кажаноў.
18. Калі зьявіліся першыя матылі: крапіўнік (*Vanessa urticae L*) і крушыньнік (*Gonopteryx rhamni*)?
19. Калі пачалі пасьвіць жывёлу?
20. Прылёт бусла (бацян, *Ciconia alba*).
21. Калі зацьвіў клён?
22. Калі зацьвіла чарэмха (какалуша)?
23. Калі зьявіліся хрушчы (*Melolontha vulgaris*)?
24. Першае кукаваньне зязюлі і першая песьня салаўя.
25. Калі пчолы пачалі браць узяток?
26. Калі зьявіўся цьвет на вішнях?
27. Калі пачаў красаваць бэз (*Syringa vulgaris L*)?
28. Калі зьявілася ластаўка-„касатка“ (*Hirundo rustica,*—лоб і горла бура-чырвоныя).
29. Калі зацьвіла рабіна?
30. Калі пачала красаваць „жоўтая акацыя“ (*Caragana arborescens*)?
31. Першае араньне пад ярыну.
32. Пачатак сяўбы ярыны. Калі зарунела жыта, авёс, ячмень?
33. Калі зьявіліся серпікі (стрыжы, *Cypselus apus L*)?
34. Першы крык авяльгі („иволга“, *Oriolus galbula*)?
35. Першы бой перапёлак.
36. Першы крык дзергача (драч, карасьцель, *Crex pratensis L*).

## ЛЕТА

37. Пачатак красаваньня азімага жыта, як пачатак лета.
38. Першыя плады („чырвоныя ягады“) лясной суніцы і лясной маліны.
39. Першыя васількі (валошкі, *Centaurea cyanus L*) у жыце.
40. Пачатак красаваньня „белай акацыі“ (*Robinia pseudacacia L*).
41. Калі пачалося калашэньне жыта, аўсу, ячменю?
42. Пачатак красаваньня каманішніка (сівец, *Succisa praemorsa Asch*).
43. Дасьпяваньне чарніцы („чорныя ягады“).
44. Красаваньне чарнобелю (*Artemisia vulgaris L*).
45. Масавы пачатак касьбы на сенажацях.
46. Калі зацьвіла ліпа (*Tilia parvifolia*)?
47. Зажынкі. Калі пачалі жаць жыта, авёс, ячмень?

## ВОСЕНЬ

48. Пачатак красаваньня верасу (*Calluna vulgaris Salisb*), як пачатак восені.
49. Калі ластаўкі-„касаткі“ і серпікі масамі паляцелі ў вырай? Калі адляталі апошнія статкі гэтых птушак?
50. Першыя і апошнія статкі жураўлёў і гусей.
51. Калі паляцелі ў вырай буслы?
52. Першы ранічны мароз (калі пазамярзалі гуркі, гарбузы)?
53. Агульная зьмена колеру лістоў на ліпе, клёне, бярозе.
54. Калі апошні раз пасьвілі жывёлу?
55. Першы марозны дзень (калі лужыны, замёрзшы ўночы, не адтаялі ўдзень?).
56. Калі выпаў першы сьнег?
57. Калі замерзла вада на сажалках, вазёрах і рэках?
58. Калі зьявіліся гілі (сьнігіры, *Pyrrhula pyrrhula L*)?
59. Ці былі выпадкі паўторнага цьвіценьня ў позную восень і калі?

Увага. Адказы на пытаньні фэнолёгічнай анкеты пажадана перасылаць у Інбелкульт рэгулярна цераз кожныя два тыдні, а па магчымасьці і кожны тыдзень.

# Праграма апісаньня паселішчаў гарадзкога тыпу (гарадоў, мястэчак, пасадаў, гандлёвых сёл і інш.)

*(Апрацавана Географічнай Падсэкцыяй Прыродазнаўчай Сэкцыі ІБК)*

Інстытут Беларускай Культуры пачаў зьбіраць матар'ялы для беларускага географічнага слоўніка. Вельмі важнае месца ў гэтым слоўніку будуць займаць апісаньні найвыдатнейшых паселішчаў і ў першую чаргу гарадоў і мястэчак Беларусі. Зразумела, што апісаньне ўсіх мест нашага краю можа быць зроблена толькі за дапамогай шырокіх колаў беларускай інтэлігенцыі, і асабліва за дапамогай мясцовых краязнаўчых організацый. Аднак, каб апісаньні, складзеныя ў розных месцах і рознымі асобамі, былі-бы больш-менш аднастайнымі, трэба, каб яны складаліся па больш-менш аднальковаму пляну. Географічная Падсэкцыя Прыродазнаўчай Сэкцыі Інбелкульту прапануе краязнаўчым організацыям зьбіраць матар'ялы аб гарадох, мястэчках і іншых паселішчах, трымаючыся прыблізна такога пляну:

**Палажэньне.** Калі ёсьць даныя, дык адзначыць географічн. шырыню і даўжыню. Паказаць адлегласьць ад Масквы, Варшавы, Кіеву, ад бліжэйшай морскай прыстані, ад Менску і Вільні, ад акруговага або павятовага гораду, ад раённага або валаснога цэнтра, ад бліжэйшай станцыі чыгункі (якой?), ад бліжэйшай рэчнай прыстані (якой?). Калі рака працякае каля самага гораду (мястэчка), дык як яна завецца, у якім кірунку і куды бяжыць, на якім беразе яе ляжыць места або праз якую частку места яна працякае, які характар маюць берагі ракі каля места, шырыня і глыбіня ракі, паводкі, змаганьні з імі, карыстаньне сілы ракі. Калі места ляжыць над возерам, дык як яно завецца, які характар мае, якую шырыню і даўжыню, якія прытокі, які сток, астравы і г. д. Якія чыгункі, шосы, гасьцінцы пралягаюць праз данае места, як яны завуцца, куды вядуць і інш.

**Знадворны выгляд места.** Плян. Топографія. Узгоркі, груды, лагчыны, яры, катліны. З якіх частак складаецца места, як і калі яны ўтварыліся (калі гэта вядома), чым адзначаюцца, як завуцца, чаму? Вуліцы, завулкі, пляцы; іх старыя й новыя назовы, даўжыня, шырыня, агульны выгляд, кірунак, брук, масткі і тротуары. Масты, надбярэжжы, бульвары, гарадзкія сады і паркі. Асьвятленьне. Конкі, трамваі, аўтобусы, возьнікі і г. д.

Ваколіцы места. Дачныя мясцовасьці.

**Будынкі.** Агульны лік жылых і няжылых будынкаў, матар'ял будынкаў (лік камяніц і драўляных будынкаў). Матар'ял дахаў, падмуроўка. Агульны выгляд будынкаў у розных частках места. Пажарная небясьпека, змаганьне з пажарамі. Велічыня і выгляд будынкаў, лік аднапаверхавых, двохпаверхавых і г. д. будынкаў. Сярэдняя, мінімальная і максімальная залюдненасьць аднаго жылога будынка. Кватэрнае пытаньне. Выдатнейшыя будынкі: цэрквы, касьцёлы, капліцы, сінагогі, школы, ратушы, прыгожыя дзяржаўныя і прыватныя будынкі, старасьвецкія будынкі і г. д.

**Гісторыя.** Ведамасьці аб пахаджэньні назвы места. Роля географічнага палажэньня ў утварэньні места. Як адбілася гісторыя места на яго пляне. Помнікі мінуўшчыны (старыя будынкі, руіны, гарадзішчы, акопы, могілкі і г. д.); ахова іх. Легенды і літаратурныя даныя аб гісторыі места. Крыніцы мясцовай гісторыі (акты, архівы, старыя малюнкі і г. д.). Апавяданьні старыкоў. Гісторыя апошніх дзесяцілецьцяў па памяці мясцовага люду.

**Агульныя даныя аб насельніках.** Даныя аб ліку насельнікаў за розныя гады. Крытыка гэтых даных. Зьмены ў ліку насельнікаў і прычыны іх. Прырост або зьмяншэньне люднасьці паводле даных аб нараджэньнях і сьмерцях. Запраўдны прырост. Імігpацыя і эміграцыя. Падзел насельнікаў паводле роду і веку, паводле роднай мовы, паводле нацыянальнасьці, рэлігіі. Фізычныя адзнакі кожнай групы насельнікаў. Этнографічныя даныя. Падзел насельнікаў паводле соцыяльнага стану, паводле заняткаў. Профэсіянальны рух.

**Роля сельскай гаспадаркі ў месьце.** Лік асоб, занятых сельскай гаспадаркай. Колькасьць зямлі. Засевы. Галоўныя палявыя расьліны. Сады і гароды. Сенажаці. Колькасьць свойскай жывёлы. Цэны на зямлю і на сельскія продукты да вайны і цяпер. Даходнасьць ральніцтва, садоўніцтва, гародніцтва, гадоўлі жывёлы. Пчалярства, рыбацтва, паляваньне, лясныя заняткі.

**Нясельскія заняткі.** Адходныя промыслы, возьніцкі промысел, землякапальная прамысловасьць.

Рамествы і саматужныя промыслы. Лік рамесьнікаў і саматужнікаў па спэцыяльнасьцях за розныя гады. Лік майстраў, работнікаў і вучняў. Даходнасьць раместваў і саматужных промыслаў. Абароты майстэрняў.

Фабрычная прамысловасьць. Лік асоб, занятых у розных галінах фабрычнай прамысловасьці. Лік фабрык і іх апісаньне. Фабрыкі прыватныя і дзяржаўныя. Велічыня фабрык, фабрычныя будынкі, рухавікі, лік работнікаў на кожнай фабрыцы, жыцьцё работнікаў, работніцкія организацыі. Продукцыя кожнай фабрыкі. Месцы вывазу фабрычных вырабаў і месцы закупкі сырцу. Гісторыя фабрычнай прамысловасьці.

Прамысловае значэньне места.

**Гандаль і коопэрацыя.** Лік асоб, занятых гандлем. Лік крам, готэляў, харчэняў, складаў і г. д. Коопэрацыя і яе формы (спажывецкая, прамысловая, крэдытная). Утварэньне першых коопэрацыйных установ (па магчымасьці далучыць друкаваныя справаздачы).

Сучасная коопэрацыя.

Крамы прыватныя, коопэрацыйныя і дзяржаўныя. Іх пагуртаваньне. Гандлёвыя абароты крам. Кірмашовы гандаль. Кірмашы і базары. Адкуль і на якую прыблізна суму прывозяцца тавары на кірмашы і базары? Гандаль у разнос. Вываз тавараў мясцовых і прывезеных з бліжэйшых ваколіц; дарогі і кірункі, па якіх вывозяцца мясцовыя тавары. Прывоз тавараў здалёк для данага места і яго ваколіц; дарогі, па якіх прывозяцца тавары; пункты, з якіх тавары прыбываюць. Станцыі і прыстані, іх абароты. Біржы.

Крэдытныя таварыствы, банкі, касы ашчэднасьці.

Гандлёвае значэньне места. Гандлёвы раён места, яго велічыня і роля места ў яго гандлёвым жыцьці.

**Пошта, тэлеграф, тэлефон, радыо.** Абароты паштово-тэлеграфных і тэлефонных установ. Лік абонэнтаў тэлефоннай сеткі. Паштова-тэлеграфны раён места.

**Культурна-асьветная справа.** Падзел насельнікаў паводле іх асьветы. Дзіцячыя дамы, сады, прытулкі, гарадкі. Школы звычайныя (сямігодкі, прымітыўкі), професіянальныя, вячэрнія, тэхнічныя, вышэйшыя і інш. Лік настаўнікаў і вучняў у іх; абсталяваньне, памяшканьні.

Рух моладзі. Піонэрскія і комсомольскія організацыі.

Пазашкольная асьвета. Народныя дамы, клюбы, бібліотэкі, чытальні, архівы, музэі. Культурна-асьветныя і навуковыя ўстановы, таварыствы, гурткі. Драматычныя, музычныя, мастацкія т-вы і гурткі. Тэатры, кіно, цыркі. Вучэбна-паказальныя сады, досьледныя станцыі.

Кніжныя склады і кнігарні. Друк. Друкарні і іх абароты. Выдавецтвы. Газэты і часопісы.

**Санітарны стан і мэдыцынская дапамога.** Асэнізацыя, каналізацыя, вывазка. Дастаўка вады. Чыстата вуліц і пляцоў. Народнае здароўе. Статыстыка хвароб. Народная мэдыцына. Бабкі-шаптухі, знахары, павітухі. Фэльчары, акушэркі, дантыстыя, дактары. Шпіталі і больніцы, амбуляторыі, прымальныя пакоі, прыватныя лячэбніцы, здароўніцы (санаторыі). Багадзельні, прытулкі для ўбогіх. Справа соцыяльнай забясьпекі.

**Адміністрацыйнае значэньне места.** Урадовыя ўстановы. Самаўрад. Суд і міліцыя. Адміністрацыйны раён места (акруга, раён, сельсавет, павет, воласьць).

**Бібліографія.** Паказаць літаратуру аб даным паселішчы.

# ХРОНІКА

## Дзейнасьць Інстытуту Беларускае Культуры.

### Гісторыка-Археолёгічная Сэкцыя.

Гісторыка - Археолёгічная Сэкцыя Інстытуту Беларускае Культуры распрацавала плян экспэдыцый для дасьледваньня курганнага пэрыоду жыцьця беларускага народу.

На працягу вясны і лета пад кіраўніцтвам доцэнта БДУ т. Сербава былі праведзены дзьве археолёгічныя экспэдыцыі:

1. У ваколіцах Менску былі абсьледваны тры групы магільных курганоў каля вёскі Рылаўшчыны, дзе здабыты многа прадметаў, якія да некаторай ступені асьвятляюць быт насельнікаў Менскага раёну VIII—IX вякоў і сьведчаць аб гандлёвых адносінах з Заходам і Ўсходам.

2. У вадазборы сярэдняга цячэньня Сожа былі абсьледваны вузлы рэчак Ухлясьці і Пяшчанкі, Бабровай і Перагонкі. Апісаны даўныя гарадзішчы і селішчы з палямі пахаваньня; сабраны наканечнікі стрэл, нажы, сякеры, скробкі і іншыя каменныя прылады; знойдзены гаршчкі і урны, зробленыя бяз кружала і на кружале з багатай орнамэнтацыяй.

У курганох выкапаны прыкрасы з бронзы, серабра, шкла, каляровага каменьня і гліны.

Даўныя гарадзішчы абсьледваны каля Новага-Быхаву на беразе Дняпра і па прытоках Дняпра Ухлясьці і Бабровай, а таксама каля Прапойску на Сожы, і па прытоках Сожу Пяшчанцы і Перагонцы. Там вынайдзены тыповыя для радзімічаў пацеркі, пярсьцёнкі, грыўны і г. д. Між іншым сярод прывесак знайшоўся арабскі дзіргем і срэбная монэта з нерасчытанымі знакамі і літарамі.

Апрача гэтага Гісторыка-Археолёгічная Сэкцыя займалася вывучэньнем гісторыі беларускіх гарадоў, зрабіла плян і апісаньне Нямігі, замчышча, будынка „Гродзкага Суду“ і інш., вядзе бібліографічную працу і распрацоўвае далей беларускую гістарычную тэрмінолёгію.

### Мастацкая Сэкцыя.

Мастацкая сэкцыя вядзе працу ў трох кірунках: 1) вывучае гісторыю і сучасны стан беларускага тэатру, 2) дасьледуе асаблівасьці беларускай архітэктуры, ляпеньня і малярства і 3) вядзе працу па вывучэньню беларускай музыкі. Згодна з гэтым, сэкцыя падзяляецца на тры падсэкцыі: тэатральную, вобразных мастацтваў і музычную.

*Тэатральная Падсэкцыя* ідэёва кіруе працай Беларускага Дзяржаўніга Тэатру і беларускіх студый у Маскве, разглядае і падбірае рэпэртуар для беларускіх тэатраў, арганізуе драматычны сэмынарыум, на якім будуць у лістападзе і сьнежні г. г. прачытаны курсы тэорыі і тэхнікі драмы, сцэны, гісторыі тэатру і драматургіі. Падсэкцыя робіць захады да наладжаньня далейшае тэатральнае працы на Беларусі. З восені 1926 г. маюць зрабіцца самастойнымі колектывамі абедзьве драмстудыі, дзяржаўная беларуская опэра і рэорганізаваная вандроўная трупа Галубка.

*Падсэкцыя Вобразных Мастацтваў* вывучае беларускую архітэктуру, ляпеньне і малярства і ідэёва кіруе працай Віцебскага Мастацкага Тэхнікуму.

У кастрычніку г. г. падсэкцыя арганізуе Першую Ўсебеларускую Мастацкую Выстаўку, у якой прымуць удзел як усе мастакі БССР, гэтак і нашая моладзь з мастацкіх вышэйшых школ усяго саюзу ССР.

*Музычная Падсэкцыя* складаецца з камісій: 1) беларускай песьні, 2) па разгляду музычных твораў, 3) па арганізацыі опэры і сымфоніі і 4) тэрмінолёгічнай.

Падсэкцыя апрацавала інструкцыю для зьбіральнікаў беларускіх народных песень, падрыхтавала прылады для фонографічнага запісу і выкананьня беларускіх песень, наладзіла дзьве экспэдыцыі па Беларусі для запісу мэлёдый беларускіх песень і для досьледаў аб беларускай інструмэнтальнай музыцы і танцах.

Тэрмінолёгічнай камісіяй з т. Дрэйзіным на чале распрацованы і зданы ў друк музычны слоўнік. Камісія па разглядзе музычных твораў набыла і здала ў друк оркестровыя творы т. Аладава, разгледзела творы т. Фідлона і ў сучасны момант разглядае „Практыкоўкі сьпеву“ А. Грыневіча і „Школьны сьпеўнік на 60 песень“ яго-жа.

## Этнографічная Сэкцыя.

У Этнографічнай Сэкцыі падрыхтованы да друку матар'ялы па этнографіі Беларусі. Сэкцыя мае на ўвазе выдаць гэтыя матар'ялы асобнымі зборнікамі ў такім парадку:

1. Рэшткі старасьветчыны ў матар'яльнай культуры беларусаў.
2. Рэшткі першабытнай культуры ў абрадах і сьвятах.
3. Беларускі фольклёр.
4. Беларуская народная песьня.
5. Народнае мастацтва ў матар'яльнай культуры беларусаў.
6. Рэшткі першабытнага права.
7. Узоры народнай творчасьці.

Сэкцыя распрацавала пляны, мэтоды і праграмы па зьбіраньню этнографічных матар'ялаў для мясцовых краязнаўцаў.

Апрача гэтага Этнографічная Сэкцыя правяла экспэдыцыю па вывучэньню этнографіі ўсходняй часткі БССР, дзе сабраны багатыя матар'ялы па матар'яльнай і разумовай культуры.

## Мэдычная Сэкцыя.

Мэдычная Сэкцыя пачала працу па выяўленьню асяродкаў мясцовых хвароб: склеромы, вальлёвае хваробы і каўтуна.

З мэтай выяўленьня хворых на склерому члены сэкцыі выяжджаюць на вёскі, дзе робяць агульны агляд насельнікаў. Такім спосабам выяўлена многа хворых, накірованых у клінікі Менска.

Разам з Нар. Кам. Аховы Здароўя сэкцыя робіць падлік хворых, на вальляк.

У справе высьвятленьня санітарнага стану беларускае вёскі сэкцыя праводзіць спэцыяльнае анкетнае абследваньне.

Асаблівая клінічная камісія мае аб'яднаць усіх мэдычных працаўнікоў БССР з мэтай найлепшага вывучэньня хваравітасьці населенікаў Беларусі і жывой сувязі з усімі больніцамі і шпіталямі рэспублікі.

Тэрмінолёгічная Камісія пры сэкцыі апрацавала тэрмінолёгію па косьцезнаўству і вязазнаўству. (сындэсмолёгіі).

*Антраполёгічная падсэкцыя* займаецца вывучэньнем расава-біолёгічнага індэксу беларусаў.

## Сельска-Гаспадарчая Сэкцыя.

Сельска-Гаспадарчая Сэкцыя распрацоўвае популярную літаратуру па сельскай гаспадарцы, падрыхтоўвае абсьледваньне садоўніцтва, палявых культур, гадоўлі жывёлы на Беларусі.

Па ініцыятыве сэкцыі організована пры Інбелкульце Навуковае Бюро па сельска-гаспадарчай справе, якое мае

на мэце аб'яднаньне праграм досьледных станцый Беларусі і навуковае кіраваньне працай гэтых станцый.

Сэкцыяй было праведзена спэцыяльнае абсьледваньне гаспадаркі селяніна Мароза ў Лепельшчыне, якая зьяўляецца аднэй з найболей культурных гаспадарак Беларусі.

Лясная Падсэкцыя Сельска-Гаспадарчай Сэкцыі апрацавала і надрукавала інструкцыю для зьбіраньня народнай лясной тэрміналёгіі.

## Прыродазнаўчая Сэкцыя.

Прыродазнаўчая Сэкцыя Інбелкульту падзяляецца на 6 падсэкцый, з якіх кожная вядзе самастойна тую ці іншую краязнаўчую працу.

*Зоолёгічная Падсэкцыя* скончыла апрацоўку беларускай тэрміналёгіі па сыстэматыцы жывёл і падрыхтавала анкету для зьбіраньня тэрміналёгічных матар'ялаў па анатоміі і фізыолёгіі жывёл. Бліжэйшым заданьнем падсэкцыі зьяўляецца зьбіраньне матар'ялаў для Зоолёгічнага Музэю пры Інбелкульце. Падсэкцыя падрыхтавала да друку спэцыяльную інструкцыю для краязнаўчых організацый Беларусі аб спосабах зьбіраньня і захаваньня зоолёгічных колекцый.

*Батанічная Падсэкцыя* праводзіць абсьледваньне флёры ракі Сьвіслач, вывучэньне фітопаталёгічных зьяў на Беларусі, зьбіраньне матар'ялаў для Батанічнага Музэю пры Інбелкульце. Падсэкцыя рэгіструе сады і паркі Беларусі, якія маюць навуковае значэньне, і прымае меры да іх аховы.

*Географічная Падсэкцыя* зьбірае матар'ялы для беларускага географічнага слоўніка, выдае школьную карту этнографічнай Беларусі.

*Хэмічная Падсэкцыя* скончыла апрацоўку беларускай хэмічнай тэрміналёгіі, праводзіць абсьледваньне хэмічнай прамысловасьці на Беларусі.

*Падсэкцыя Фізыкі і Матэматыкі* падрыхтоўвае матар'ялы для геомагнэсавай зьёмкі Беларусі, распрацоўвае фэнолёгічныя матар'ялы, прысланыя з месц. Падсэкцыя працуе над рэорганізацыяй геофізычнай службы на тэрыторыі БССР.

*Геолёга-глебазнаўчая падсэкцыя* распачала апрацоўку навуковай тэрміналёгіі па пэтрографіі, геолёгіі, крышталёграфіі і па сумежных дысцыплінах.

## Пэдагогічная Сэкцыя.

Пэдагогічная Сэкцыя ІБК пераважна займаецца вывучэньнем разьвіцьця і сучаснага стану пэдагогікі на Беларусі.

У хуткім часе сэкцыя выпускае анкету, якая будзе распаўсюджана сярод беларускіх настаўнікаў. Гэтая анкета павінна выявіць сучасны стан беларускай школы, сабраць фактычны матар'ял аб мэтодах выкладаньня і высьветліць матар'яльнае палажэньне настаўніцтва.

## Літаратурная Камісія.

Літаратурная Камісія Інбелкульту вядзе працу па падрыхтоўцы акадэмічнага выданьня твораў Максіма Багдановіча.

Асаблівую ўвагу камісія зьвярнула на зьбіраньне копій друкаваных твораў пісьменьніка. Скарыстаўшы ўвесь матар'ял Беларускай Дзяржаўнай і Унівэрсытэцкай Бібліотэкі, камісія за дапамогай спэцыяльных лістоў і газэтных абвестак старалася здабыць такія матар'ялы ад прыватных асоб, у якіх яны захаваліся.

На просьбу камісіі адгукнуліся бацька поэты з Яраслаўля і Антон Луцкевіч з Вільні. Першы прыслаў у канцы верасьня г. г. 33 нумары розных твораў поэты, зьмешчаных у яраслаўскай газэце „Голос" у працягу 1913-16 гадоў.

Антон Луцкевіч прыслаў 7 вершаў —перакладаў з Вэрлена і інш.

У сучасны момант камісія мае амаль-што ўсе друкаваныя творы Багдановіча.

Побач з гэтым Літаратурная Камісія вядзе вельмі марудную і цяжкую працу па расчытваньню рукапісаў по-

эты, з якіх большасьць напісана алоўкам, вельмі нячытэльна. Многія з гэтых рукапісаў абгарэлі і прамоклі, і ў зьвязку з гэтым пры чытаньні іх трэба ўвесь час карыстацца павялічальным шклом.

Папярэдняе вывучэньне ўсіх гэтых матар'ялаў выявіла каля шасьці дзесяткаў вершаў, якія дагэтуль нідзе ня былі надрукованы.

## Камісія па вывучэньню рэволюцыйнага руху на Беларусі.

Камісіяй зложаны зборнік біографій загінутых рэволюцыянэраў ў часе 1919—22 г. г. Гэты зборнік будзе выдадзены ў 1926 г. другім выданьнем, выпраўленым і пашыраным, на беларускай мове (першае выданьне выдадзена Гістпартам ЦК КП(б)Б ў расійскай мове).

Цэнтральнай Камісіяй ЦВК БССР па правядзеньню юбілея 20-хгодзьдзя рэволюцыі 1905 г. даручана сэкрэтару камісіі на вывучэнью рэволюцыйнага руху па Беларусі Барашку скласьці зборнік архіўных дакумантаў па гісторыі рэволюцыі 1905 г. Для зборніка выкарыстаны архіўныя фонды Дэпартамэнту Поліцыі па Меншчыне, Віленшчыне, Віцебшчыне, Магілеўшчыне і Горадзеншчыне. Праца па складаньню зборніка скончана. Зборнік выдзе з друку у снежні м-цы г. г. разьмерам каля 15 друк. аркушаў пад рэдакцыяй т. т. Аршанскага, Барашкі, Вілянстовіча і Сербента.

## Слоўнікавая Камісія ІБК.

Слоўнікавая Камісія ІБК або дакладна —Камісія па ўкладаньню слоўніка жывой беларускай мовы распачала сваю працу ўжо з першых дзён існаваньня рэорганізованага Інстытуту Беларускай Культуры.

Яшчэ да рэорганізацыі ІБК членамі старога Інбелкульту С. Некрашэвічам і М. Байковым былі апрацаваны два падробныя слоўнікі тыпу „практычных“, – Расійска-Беларускі і Беларуска-Расійскі.

Перад новым Інбелкультам паўстала ўжо пытаньне аб падрыхтаваньні больш грунтоўнага слоўніка жывой беларускай мовы акадэмічнага тыпу.

На першых парах камісія сваю дзейнасьць накіравала на асьвятленьне пытаньня аб тым, якім павінен быць акадэмічны беларускі слоўнік, і аб мэтодах працы.

Для разьвязаньня гэтых пытаньняў камісія наладзіла сувязь з падобнай-жа камісіяй па ўкладаньню поўнага слоўніка жывай украінскай мовы пры Украінскай Акадэміі Навук, куды ўвясну г. г. быў камандырован сэкрэтар камісіі М. Байкоў.

Праз старшыню камісіі С. М. Некрашэвіча, які знаходзіўся ў навуковай командыроўцы ў Ленінградзе, была наладжана сувязь і з ленінградзкімі спэцыялістымі—лексыколёгамі.

Пытаньне аб прынцыпах укладаньня слоўніка было канчаткова разьвязана пасьля дакладу С. М. Некрашэвіча ў Мовазнаўчай Сэкцыі ІБК 8 ліпеня 1925 г. „Да пытаньня аб укладаньні слоўніка жывой беларускай мовы.“

На гэтым дакладзе камісія прыняла наступныя тэзісы.

1. У слоўніку павінны давацца беларускія словы з паралелямі з расійскай, польскай і ўкраінскай моў і з тлумачэньнямі ў беларускай мове.

2. Слоўнік апрацоўваецца на падставе народнага слоўнага матар'ялу, фольклёрнага матар'ялу, прыгожага пісьменства, падручнікаў і пэрыодычнага друку ў беларускай мове.

3. Для галоўных беларускіх пісьменьнікаў, а таксама твораў Сержпутоўскага складаюцца паасобныя слоўнікі з падручнікаў-жа, з другарадных пісьменьнікаў і інш. матар'ялаў робіцца выбарка слоў

4. На карткі запісваюцца словы з слоўнікаў Насовіча Федароўскага і Шпілеўскага без папярэдняй іх рэдакцыі, з слоўнікаў жа Ціхінскага і іншых аўтараў пасьля папярэдняй рэдакцыі.

5. Для зьбіраньня народнага слоўнага матар'ялу ўжываюцца два спосабы: а) апрацаваньне мясцовых слоўнікаў па тэрыторыяльнаму прынцыпу і б) запіс слоў па анкетах.

6. Чужаземныя словы ўносяцца ў слоўнік, паколькі яны ўжываюцца ў народнай мове і ў творах прыгожага пісьменства.

Яшчэ ўвясну быў пачаты запіс на карткі слоў з твораў: Я. Коласа, Янкі Купалы, Ядвігіна Ш., Ц. Гартнага, Багушэвіча, А. Гаруна, З. Бядулі і М. Гарэцкага. Запіс вядзецца на картках па ўзору карткі Украінскай Акадэміі Навук.

У запісе прымаюць удзел, як супрацоўнікі камісіі, т. т. Янка Бялькевіч, С. Баранаў, С. Серада, Н. Улашчык, Т. Апацёнак, У. Варатынскі.

Да 1 кастрычніка ў камісію паступіла ўжо да 20000 картак.

Апрача слоў з твораў беларускіх пісьменьнікаў заносяцца на карткі словы з слоўніка Насовіча і робіцца выбарка беларускіх слоў з слоўніка польскае мовы Karłowicz'a (выбіраюцца словы, якія ў гэтым слоўніку адзначаны, як беларускія—Brs).

Узімку камісія мае на ўвазе скарыстаць беларускія рукапісы ленінградзкіх навуковых організацый.

З пачаткам новага рахунковага году і з выхадам у сьвет апрацаванай камісіяй „Інструкцыі" да зьбіраньня слоўніка - трэмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове будзе наладжана слоўнікавая праца па запісу слоў на мясцох.

Разам з гэтым павінна знайсьці разьвязак і пытаньне аб укладаньні краёвых слоўнікаў.

Па гэтаму пытаньню па дакладзе сэкрэтара камісіі М. Байкова камісіяй прынята пастанова:

Лічыць патрэбным укладаньне краёвых слоўнікаў у ліку, адпаведным тэрыторыяльнаму падзелу БССР на 10 акруг, а таксама паасобных слоўнікаў для абшараў этнографічнае Беларусі ў межах РСФСР, вызначыўшы 3 слоўніка для абшараў Гомельшчыны, Смаленшчыны, і Невельска-Вяліска—Себескага раёну; прыняць пад увагу і абшары Заходняе Беларусі, вызначыўшы наступныя абшары: а) паўночны з асяродкам у Вільні; б) сярэдні ў межах Беластоцка-Слонімскага раёну, і в) паўднёвы ў межах Берасьцейска-Пінскага раёну.

Па пытаньню аб укладаньні слоўнікаў Заходняе Беларусі зьнесьціся з Віленскім Навуковым Таварыствам.

Увайсьці ў адносіны з краязнаўчымі таварыствамі БССР, а таксама Гомельшчыны, Смаленшчыны й Невельшчыны.

Адносна Смаленшчыны лічыць пажаданым абмежаваць запіс слоўнікагага матар'ялу дадаткамі да слоўніка Добравольскага і Рослаўскага Краёвага Слоўніка.

Што датыча іншых краёвых слоўнікаў, дык лічыць патрэбным запіс усіх слоў, якія ўжываюцца ў пэўнай мясцовасьці, але так, што запісваюцца пераважна асноўныя словы, на аднэй картцы злучаюцца дзеясловы незакончанага й закончанага трываньняў, а таксама родныя паміж сабою словы, як напр. інфінітыў дзеяслову і дзеяпрыметнік або дзеяпрыслоўе, прычым лічыць пажаданым, каб кожны паасобны слоўнік уклаўся ў межы ня больш 10000 картак слоў.

Пры аплаце краёвых слоўнікаў выходзіць з таксы, устаноўленай за запіс слоў на карткі з літаратурных твораў для супрацоўнікаў камісіі.

Сэкрэтаром камісіі апрацавана падробная інструкцыя да ўкладаньня краёвых слоўнікаў на падставе прынцыпаў, прынятых камісіяй.

## Камісія па вывучэньню прыродных вытворчых сіл Беларусі.

У бягучым 1925 годзе К. В. П. В. С. вядзе такія навуковыя выведы:

1) Геолёгічныя выведы праводзяцца трыма дасьледчымі партыямі: па Меншчыне партыя проф Тарлецкага канчае пачатую летась працу; па Магілеўшчыне партыя проф. Блюдухо пачынае грунтоўнае абсьледваньне

геолёгічнай будовы мясцовасьці; па Віцебшчыне партыя проф. Люнгерсгаўзэна праводзіць першую рэкогносцыровачную экспэдыцыю.

2) Глебазнаўчыя выведы маюць на мэце дакладнае абсьледваньне глеб для складаньня глебавай карты трохверснага маштабу. У Меншчыне і Случчыне працуе партыя—проф. Касаткіна; у Калінішчыне і Аршаншчыне — партыя проф. Афанасьева.

3) Фаўністычная экспэдыцыя з проф. Фядзюшыным на чале робіць абсьледваньне жывёльнасьці Магілеўшчыны.

4) Геоботанічнае абсьледваньне вядзецца па ўсёй тэрыторыі БССР і мае на мэце зьбіраньне матар'ялаў для геоботанічнай карты Беларусі ў маштабе 10 вёрст у цалі. У гэтай працы прымаюць удзел проф. Зьбіткоўскі, проф. Васількоў, Палянская і Савіч.

5) Пад кіраўніцтвам т. Скандракова праводзіцца вывучэньне тэхнікі беларускай сялянскай гаспадаркі.

6) Па заданьню Нар. Кам-ту Аховы Здароўя было праведзена спэцыяльнае геолёгічнае абсьледваньне Лагойскага раёну і яго мінэральных крыніц.

На наступны 1926 год спроэктаваны:

| | |
|---|---|
| 1) Геолёгічныя выведы.<br>2) Глебазнаўчыя выведы.<br>3) Фаўністычныя абсьледваньні. | працяг працы гэтага году. |

4) Геоботанічнае абсьледваньне Беларусі (заканчэньне сёлетняй працы)

5. Геомагнэсавая зьёмка Менскай акругі.

6. Організацыя хэмічнай лябараторыі.

## Камісія па ахове помнікаў.

Камісіяй па ахове помнікаў выяўлены і апісаны монумэнтальныя помнікі Полацка, Віцебска, Воршы, Магілева, Слуцка і Менска. Сьпісы гэтых помнікаў прадстаўлены для абвяшчэньня іх дзяржаўнай уласнасьцю. Праз вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы камісія правяла загад аб тым, што ахова монумэнтальных помнікаў, а таксама гарадзішч, курганоў і г. д., ускладаецца на адказнасьць мясцовых выканкомаў і сельсаветаў. За псаваньне і разбурэньне помнікаў вінавайцы караюцца па 112 ст. Крымінальнага Кодэксу.

Камісія вядзе далейшую працу па выяўленьню, вывучэньню і рэгістрацыі помнікаў гісторыі, быту, мастацтва і прыроды на тэрыторыі БССР. Таксама прымаюцца меры да выяўленьня і звароту помнікаў беларускае культуры, вывезеных за межы Беларусі.

Апрача гэтага камісія апрацавала плян аднаўленьня напалову зруйнованых помнікаў, у першую чаргу полацкіх і менскіх.

## Правапісна-Тэрмінолёгічная Камісія.

Правапісна-Тэрмінол. Камісія скончыла перагляд праўна-канцэлярскай тэрмінолёгіі, якая хутка будзе здадзена ў друк.

Гэтымі днямі скончыцца перагляд музычнай тэрмінолёгіі, а ў бліжэйшыя часы—будзе скончана аканчальная апрацоўка гістарычнай тэрмінолёгіі.

Апрача разгляду беларускай тэрмінолёгіі Правапісна-Тэрмінолёгічная Камісія пераглядае анкеты, апрацаваныя ў іншых камісіях і сэкцыях Інбелкульту і г. д.

## Яўрэйскі Аддзел.

У Яўрэйскім Аддзеле Інбелкульту рыхтуюцца да друку матар'ялы да двох зборнікаў: „Чырвоныя Лісткі" („Рэйтэ Блэтэр"), прызначаных дваццацілецьцю рэволюцыі 1905 г. У гэтых зборніках будзе сабрана многа ўспамінаў і артыкулаў вядомых дзеячоў (т. т. Вайнштэйна, Рафэса і інш.) якія працавалі на Беларусі, галоўным чынам у Менску, гэтай калысцы яўрэйскага работніцкага руху.

Пад кіраўніцтвам выкладчыка БДУ М. Вэйнгера вядзецца падрыхтоўчая праца да выданьня яўрэйскага акадэмічнага слоўніка.

У зьвязку з 50-гадовым юбілеем яўрэйскага тэатру, які мае быць у 1926 г., пры Яўр. Аддзеле залажылася Тэатральная Камісія на чале з т-шамі Аршанскім і Ойслендэрам. Камісія атрымлівае багаты матар'ял па гісторыі яўрэйскага тэатру. Гэты матар'ял малюе адносіны розных яўрэйскіх грамадзкіх колаў да тэатру пры яго нараджэньні, а таксама ўзаемаадносіны тэатру з афіцыйнай уладай, якая перашкаджала яму ўсімі спосабамі

У хуткім часе Яўрэйскі Аддзел будзе друкаваць часопіс, прызначаны пытаньням літаратуры, гісторыі і мовы яўрэйскай люднасьці.

### Польскі Аддзел.

Польскі Аддзел арганізаваўся пазьней ад іншых аддзелаў, сэкцый і камісій Інбелкульту. Яшчэ й цяпер Польскі Аддзел пераживае пэрыод арганізацыі. Супрацоўнікі аддзелу яшчэ ня вызвалены ад іншых абавязкаў і з гэтай прычыны ня могуць аддаць працы ў аддзеле належнага часу. З верасьня г. г. аддзел аднак ужо распачаў пляновую працу.

Аддзел складаецца з трох сэкцый:

1) мовы і літаратуры, 2) гісторыі, і 3) этнографіі.

У Польскім Аддзеле працуе 7 праваздзейных членаў Інбелкульту і 2 члены-супрацоўнікі. Намечана запрашэньне новых членаў, а таксама карэспондэнтаў.

На пасяджэньнях аддзелу абгаварваліся мэты і заданьні яго, плян працы, падзел на сэкцыі, коштарыс і іншыя пытаньні, пераважна арганізацыйныя.

Польскі Аддзел мае ў бліжэйшыя часы правесьці абсьледваньне моўных асаблівасьцяй польскай людносьці на Беларусі, гісторыі польскага насельніцтва ў БССР і г. д.

Пакуль-што ўкладаюцца бібліографічныя сьпісы, зьбіраюцца літаратурныя і іншыя матар'ялы.

---

## Пешыя падарожжы па Беларусі.

9 ліпеня г. г. Цэнтральным Бюро Краязнаўства была арганізована пешая экскурсія з Менску праз Ляды, Раванічы, Бярэзынь, Пагост, Бялынічы і Княжычы ў Магілеў.

У экскурсіі прынялі ўдзел: сэкрэтар ЦБК т. М. Азбукін, кіраўнік спраў Наркамасьветы т. М. Красінскі і студэнт Я. Сапун.

Экскурсанты аглядалі помнікі старасьветчыны, запісвалі песьні, прыказкі і апавяданьні, прыглядаліся да быту сялян і зьбіралі матар'ялы для беларускага географічнага слоўніка. Сяляне і настаўнікі ўсюды гасьцінна сустракалі экскурсантаў, дапамагаючы ім бліжэй пазнаёміцца з ваколічнай мясцовасьцю.

20-га ліпеня, прайшоўшы пехатой 210 вёрст, экскурсанты прышлі ў Магілёў.

Пасьля звароту ў Менск Я. Сапун зноў накіраваўся ў пешае падарожжа па заходняй Барысаўшчыне.

---

## Паездка ў Невель.

У ліпені месяцы беларускія песьняры З. Бядуля і У. Дубоўка, аб'яжджаючы розныя гарады Беларусі, заехалі ў Невель (цяпер Пскоўскай губ.). Яны азнаёміліся з палажэньнем у Невельшчыне беларускасьці і культуры наагул.

Невельскі Пэдтэхнікум у гэтым годзе зрабіў шмат працы ў справе краязнаўства: сабраны матар'ялы па народнай творчасьці і быту сялян, слоўнікі жывой мовы (да 3000 беларускіх слоў), беларускія тканіны, модэлі с.-г. прылад і г. д.

Невельскі Гурток Краязнаўства, які працуе пры Доме Асьветы і арганізаваўся яшчэ ў мінулым годзе, выпусьціў сёлета кніжку „Историко-экономический очерк (Невельский уезд, Псковской губ.)» 82 стар. фармату $8^0$. У складаньні кніжкі пры-

малі удзел настаўнікі А. П. Гусарэвіч, Г. А. Русецкі, Л. Н. Крыжовіч, А. А. Нікольскі і інш.

Кніжка апрацована добра, толькі, на жаль, невельскія краязнаўцы ня зьмясьцілі ў ёй той гатовы матар'ял нар. творчасьці, які ў іх ёсьць.

С. П.

## Паездка ў Койданаў.

9 жніўня студэнты краязнаўчага гуртка Б. Д. У. наладзілі паездку ў Койданаў.

Мэтай паездкі было азнаямленьне з койданаўскім замкам. Агляд замку даў больш, чымся можна было чакаць. Замак стаіць на стромым узгорку і мае форму шматкутніка. Увесь ён абнесен цаглянаю сьцяною. У кожным рагу стаіць вежа с двума радамі байніц.

Уваход, ці лепш кажучы ўезд, у замак ёсьць толькі ў адным месцы, там, дзе раней быў пад'ёмны мост. У сярэдзіне, за сьценамі, знаходзіцца стары кальвінскі сабор і мураваны дом, які ў адным месцы замяняў сабою сьцяну.

Пад саборам знаходзіцца глыбокі склеп, ад якога йдзе падземны ход, як думаюць койданаўскія старажылы, у Несьвіж. Вакол замка вырасьлі вялізныя дрэвы.

Трэба сказаць, што замак знаходзіцца ў страшэнным заняпадзе: у вежах стаяць сьвіньні. Сьцены, якія яшчэ 2 гады назад былі цэлымі, цяпер руйнуюцца.

Верх званіцы ў 1921 г. сьпілован. Між тым там знаходзілася дошка з датай году заснаваньня сабору. Аб замку і рэчцы, якая цячэ тут-жа, ходзяць паміж мясцовага насяленьня легенды.

Наагул месца надзвычайна цікаўнае, якое трэба захаваць ад разбурэньня.

М. Улашчык.

## З Магілеўскага Музэю.

26-га ліпеня г. г. Магілеўскі Дзяржаўны Музэй набыў для папаўненьня сваёй палеонтолёгічнай колекцыі зуб маманта. Зуб знойдзен у пачатку ліпеня недалёка (1 в.) ад гор. Шклова, на левым беразе р. Дняпра.

Зуб гэты знайшоў тав. Аляксандра Чэскі (працаўнік з шклоўскай фабрыкі „Барацьба". Знойдзены зуб захаваўся добра.

## Монографія аб пагроме ў Воршы ў 1905 г.

У 1905 годзе ў Воршы царскі ўрад організаваў пагром, пры якім загінула некалькі дзесяткаў чалавек, удзельнікаў самаабароны — работнікі Дуброўны, Шклова і інш. У зьвязку з надыходам 20-хгодзьдзя гэтага памятнага здарэньня, па ініцыятыве мясцовых партыйных і грамадзкіх дзеячоў залажылася камісія па зьбіраньню матар'ялаў, зьвязаных з пагромам, і выпуску монографіі ў гэтай справе. Паказаны матар'ял, падрыхтованы мясцовым пэдагогам і грамадзкім дзеячом т. Е. М. Шулькоўскім, пададзен у Яўрэйскі Аддзел Інбелкульту і будзе надрукован.

Пры гэтай камісіі організована падкамісія па пастаноўцы помніка самаабаронцам. Ідэя пастаноўкі помніка выклікала гарачую зацікаўленасьць сярод мясцовых дзеячоў, і трэба спадзявацца, што помнік будзе пастаўлены своечасна.

## Краязнаўства на летніх настаўніцкіх курсах у Менску.

Улетку г. г. Цэнтральным Бюро Краязнаўства былі праведзены гутаркі аб краязнаўчай працы на курсах па перападрыхтоўцы настаўнікаў Гомельшчыны і Смаленшчыны, а таксама на курсах настаўнікаў чыгуначных школ. Настаўнікі з ахвотай узялі на сябе абавязак паведамляць

ЦБК аб тэй краязнаўчай працы, якую яны вядуць у сваіх школах, і дасылаць у Інбелкульт сабраныя матар'ялы.

---

## Ажыўленьне краязнаўчай працы ў вучэбных установах Менску.

У зьвязку з пачаткам акадэмічнага году ажывае краязнаўчая праца ў розных вучэбных установах Менску.

Шырока разгортвае сваю працу гурток краязнаўства пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, які імкнецца наладзіць цесную сувязь з іншымі студэнцкімі организацыямі на Беларусі з мэтай залажыць Агульна - Беларускую Студэнцкую Краязнаўчую Асоцыяцыю.

Аднаўляецца праца Краязнаўчага Гуртка пры Белпэдтэхнікуме, дзе Цэнтральным Бюро Краязнаўства былі праведзены гутаркі на краязнаўчыя тэмы.

Шырока разгарнуць краязнаўчую працу зьбіраюцца Вышэйшыя Беларускія Курсы, дзе кожны слухач будзе распрацоўваць спэцыяльныя заданьні краязнаўчага характару.

---

## Краязнаўства на Ўкраіне.

28-31 мая г. г. ў Харкаве адбылася першая Ўсеўкраінская Конфэрэнцыя Краязнаўчых Організацый, скліканая Галоўнавукаю Украіны.

Конфэрэнцыя характарызавала сучасны стан краязнаўства на Украіне, падагульніла праведзеную працу і дала новы кірунак, тэмп і характар разьвіцьцю краязнаўчае справы ў будучыне. На конфэрэнцыі падкрэсьлівалася значэньне краязнаўства для гаспадаркі і вытворчасьці. Адзначалася, што толькі краязнаўчы ўхіл можа дапамагчы савецкай школе ўзгадаваць культурнага гаспадара і культурнага фабрычнага работніка. Вышэйшыя школы таксама павінны перайсьці на краязнаўчы ўхіл, а не абмяжоўвацца краязнаўчымі гурткамі. Да конфэрэнцыі на Украіне ня было агульна-украінскага краязнаўчага асяродка; на конфэрэнцыі ўтварыўся Украінскі Комітэт Краязнаўства з 15 асоб пры Галоўнавуцы. У склад комітэту ўвайшлі прадстаўнікі Дзяржпляну, ВСНГ, навуковых працаўнікоў і пролетарскага студэнцтва. Комітэту даручана наладзіць працу акруговых бюро краязнаўства, зьвязацца з усімі краязнаўчымі організацыямі, распрацаваць плян краязнаўчай працы на Украіне, здабыць сродкі, сабраць літаратуру, выдаць часопіс, апрацаваць нормальны статут краязнаўчых таварыстваў, правесьці падрыхтоўчую працу для ўтварэньня на Украіне Цэнтральнага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Краязнаўства і не пазьней 1926 г. склікаць Усеўкраінскі Краязнаўчы Зьезд.

---

Выдавец—ЦБК пры Інбелкульце. Рэдактар—Рэдколегія.

# ЗЬМЕСТ.



c. 64, 65, 66

---

Вокладку зрабіў мастак Эндэ.
Застаўкі і канцоўкі выканаты мастаком А. Тычынам паводле рысункаў на сучасных беларускіх тканінах і паводле ўзораў беларускай драўлянай разьбы.

## Заўважаныя абмылкі

| *стар.* | | | | *надрукавана* | *павінна быць* |
|---|---|---|---|---|---|
| 6 | рад. | 2 | зьверху | мае | мас |
| 6 | » | 8 | зьнізу | Унірэрсытэт | Універсытэт |
| 7 | » | 18 | зьверху | ў концы | ў канцы |
| 8 | » | 17 | зьнізу | пры Вэтэрынарном ін-стытутэ | пры Вэтэрынарным інстытуцэ |
| 10 | » | 9 | » | паддяляецца | падзяляецца |
| 10 | » | 7 | » | ўлётку | улетку |
| 11 | » | 19 | » | магчымаць | магчымасьць |
| 13 | » | 6 | зьверху | праведзено | праведзена |
| 15 | » | 5 | » | грамадзнаўчыя | грамадазнаўчыя |
| 15 | » | 9 | зьнізу | Усяк | Усякі |
| 19 | » | 28 | зьверху | аднесена | трэба аднесьці |
| 22 | » | 17 | » | але зразумела, што не | але не |
| 22 | » | 16 | зьнізу | копмозыцыі | композыцыі |
| 23 | » | 1 | зьверху | фарбой | фарбай |
| 23 | » | | | Малюнак № 3 надрукаваны верхам уніз. | |
| 30 | » | 18 | зьнізу | парадак пры чем | парадак, пры чым |
| 42 | » | 10 | » | Пля | Плян |
| 42 | » | 9 | » | паселішча | паселішчаў |
| 43 | » | 1 | » | гліын | гліны |
| 44 | » | 28 | » | музычна | музычная |
| 44 | » | 27 | » | Грыне | Грыневіч, |
| 46 | » | 1 | » | знак „/", або над нотай „мі-бэмоль" такі „\\" | знак „\\", або пад нотай „мі-бэмоль такі „/". |
| 47 | » | 1 | зьверху | сьпявальнік (—іца) | сьпявака (—чка) |
| 47 | » | 9 | » | тактаў | тахтаў |
| 47 | » | 20 | зьнізу | сьпявальніка (—іцу) | сьпяваку (—чку) |
| 57 | » | 18 | » | харчэняў | харчэўняў |